УДК 821.161.3.09(092)+929 Міцкевіч
ББК 83.3(4Беи)
І-11

Укладанне, уступы да раздзелаў,
каментарыі да лістоў, замест пасляслоўя
Веры Міцкевіч

Прадмова
Сяргея Законнікава

Рэцэнзент
Кастусь Цвірка,
*кандыдат гістарычных навук*

Укладальніца выказвае шчырую падзяку
**Ларысе** і **Уладзіміру Чарновым**,
**Юліі** і **Аляксандру Маскоўцавым**,
**Леаніле Мацапура**,
**Надзеі** і **Янку Запруднікам**,
**Валерыю Стралко**,
**Галіне Голанд**,
**Ніне** і **Сяргею Савінавым**
за дапамогу ў выданні кнігі.

**ISBN 978-985-7089-41-3**

© Міцкевіч В., укл., уст., камент., пасл., 2014
© Законнікаў С., прадм., 2014
© Дранчук В., мастак вокладкі, 2014
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2014

# Ад укладальніцы

30 верасня 2014 года спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, старэйшага сына народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, арганізатара і першага (1957–1980) дырэктара Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

Данілу Канстанцінавічу (Данііл — паводле хрышчэння і пашпарта, Даніла — па жыцці) лёс адмерыў 81 год цікавага, паўнавартаснага і ў той жа час няпростага жыцця. Хімік па прызванню і адукацыі, пасля смерці свайго бацькі ён быў прызначаны ўрадам рэспублікі на пасаду дырэктара Літаратурнага музея песняра. Пачынаў з нуля: рабочая група, падбор кадраў, збіральніцкая праца, стварэнне першай экспазіцыі, адкрыццё музея, пасля — яго філіялаў на Стаўбцоўшчыне. Безліч арганізацыйных і будаўнічых пытанняў. Безумоўна, была падтрымка і ўрадавых структур рэспублікі, але не ўсё вырашалася хутка і станоўча, былі паездкі і дзелавыя сустрэчы на саюзным узроўні. Падтрымка была і ад пісьменнікаў Беларусі, саюзных рэспублік, ад простых і шчырых людзей.

Апошняе дзесяцігоддзе свайго жыцця Даніла Канстанцінавіч больш актыўна стаў займацца творчай працай, удзельнічаў у канферэнцыях, выступаў на розных мерапрыемствах, у друку, на радыё і па тэлебачанні. Яго ўспаміны былі выдадзены ў 2000 годзе асобнай кнігай ужо пасля смерці аўтара: кніга «Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа» накладам 2500 паасобнікаў знайшла сваіх чытачоў і хутка разышлася.

Кніга «І бачу пройдзеныя далі…» падрыхтавана да 100-гадовага юбілею майго бацькі. У вянок яго памяці. Яна складаецца з дакументаў, многія з якіх друкуюцца ўпершыню. Гэта лісты Якуба Коласа і Марыі Дзмітрыеўны да старэйшага сына, не-

каторыя лісты самога юбіляра, розных асоб з акружэння сям'і песняра, матэрыялы Данілы Канстанцінавіча, што не ўвайшлі ў кнігу «Любіць і помніць…», дарчыя надпісы, бібліяграфічны паказальнік Д.К. Міцкевіча, а таксама нататкі яго жонкі Аляўціны Міцкевіч.

Укладальніца палічыла патрэбным даць апісанні па кожным раздзеле кнігі і невялікае пасляслоўе пра апошнюю волю Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча.

*Вера МІЦКЕВІЧ*

*Прадмова*

# *Непаўторны шлях*

Старонкі кнігі «І бачу пройдзеныя далі…» — гэта шэраг разнастайных, унікальных матэрыялаў, якія расказваюць пра жыццёвы і творчы шлях заслужанага дзеяча культуры Беларусі Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча (1914–1996) — адметнай асобы ў гісторыі нашай краіны.

Старэйшаму сыну волата нацыянальнага духу, беларускага песняра Якуба Коласа выпала не толькі шчаслівая, але і складаная доля. Прыклад жыцця Данілы Канстанцінавіча, якое падсвечваюць лісты, дакументы, успаміны, а таксама апісанні і каментарыі клапатлівай, дасведчанай укладальніцы — яго дачкі Веры Міцкевіч, дазваляе ўбачыць цікавы працэс духоўнага росту неардынарнага прадстаўніка бурлівага, крывавага і гераічнага ХХ стагоддзя.

Добра разумею растурзанасць, некамфортнасць ладу жыцця сям'і Якуба Коласа, што ў час Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў у бежанстве часта параязджала з месца на месца па бязмежнай Расіі, у якім праляцела ранняе маленства Даніка, бо некалі і мяне насіла па свеце вандроўная доля бацькоў-настаўнікаў, праўда, па непараўнана меншым абсягу. Але заўважаны і дадатны бок гэтых нязручнасцяў — спартанскія, суровыя ўмовы быцця ўздзейнічаюць на загартоўку характару маленькага чалавека, яго трываласць, якія выяўляюцца ў далейшым лёсе.

Так павялося, што ў сем'ях пануе асаблівая пяшчота і любоў да першынца. Ён прыносіць маці і бацьку агромністую радасць, якая паступова, дзень за днём адкрываецца ва ўсёй паўнаце. Яму дорыцца самая шчырая, непасрэдная замілаванасць, бязмежная ласка. Але на першынца заўжды кладзецца груз пэўных хатніх клопатаў, адказнасць за малодшых дзяцей, што чакала і Даніка.

Для любога чалавека мудрыя бацькі, настаўнікі, выкладчыкі з'яўляюцца вялікай удачай і неацэнным шчасцем, але яны могуць толькі акрэсліць, скаардынаваць яго рух наперад. Ісці па жыцці ўсім даводзіцца самастойна, у тым ліку і нашчадкам вялікіх людзей.

У школьныя гады дапытлівага Даніка цікавіла хімія, якая пасля сканчэння ім адпаведнага факультэта БДУ надоўга стала любімай прафесіяй. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў складзе хімічнай групы Сярэднеазіяцкага ўніверсітэта і АН Беларусі Данілу Міцкевічу давялося ствараць запальныя сумесі для патрэб фронту. Затым на адказных пасадах у Акадэмі навук ён працаваў да паваротнага моманту ў сваім лёсе — прызначэння ў красавіку 1957 года дырэктарам Літаратурнага музея Якуба Коласа.

Несумненна, вялікую цікавасць у даследчыкаў жыцця і творчасці Якуба Коласа і ў звычайных чытачоў выкліча змешчаная ў гэтай кнізе перапіска Канстанціна Міхайлавіча са старэйшым сынам. Яна паказвае выключную даверлівасць іхніх узаемаадносін. Лісты бацькі дыхаюць заўсёднай дабрынёю, пяшчотай, хоць часам у іх гучаць павевы патрабавальнасці і кантролю: «Дарагі Данік! <…> Ты даглядай хату, гаспадарку. <…> Моцна цябе цалую. Бывай здаровы. Твой бацька»; «Даглядай гаспадарку, бо ты ж яе гаспадар»; «Грошы расходуй эканомна». Калі «дарагі Данік» у клопатах сустрэў сваё 40-годдзе, яго статус падвысіўся, і Канстанцін Міхайлавіч звяртаецца так: «Дарагі і строгі сын мой Даніла». У любых, самых складаных жыццёвых варунках узаемаразуменне паміж бацькам і сынам не прападала…

Пасля адыходу Канстанціна Міхайлавіча ў вечнасць пераход з навукі ў сферу культуры быў для Данілы Канстанцінавіча нечаканым, але каму, як не яму, трэба было

брацца за аб'ёмную працу па стварэнні музея і яго філіялаў, папулярызацыі выдатнай творчасці бацькі.

Несумненны арганізатарскі талент, захопленасць, дапытлівасць і чуйная да літаратуры, мастацтва душа дапамаглі яму стаць дасведчаным спецыялістам у музейнай справе. Асабістым вопытам, набыткамі ён паказаў, што культура — гэта рэч надзвычай інтымная, у авалоданні якой нам ніхто, апроч нас саміх, дапамагчы не здолее.

У знакамітым слоўніку У. Даля чытаем: «Культура — обработка и уход, возделывание, возделка; образование умственное и нравственное». Вельмі дакладна гэтая фармулёўка дапасуецца да схільнасцяў Коласа і яго сына, якія ў вольны ад асноўнай інтэлектуальнай працы час любілі працаваць на зямлі, садзіць і даглядаць дрэвы, сеяць збажыну.

Відаць, нідзе болей у сусветнай літаратуры не знойдзеш такую ўнікальную зітаванасць эстэтычных, філасофскіх памкненняў мастака з прыродай, з натурай, як у творчасці Якуба Коласа. Ён адушаўляў, ачалавечваў родную зямлю, у геніяльнай паэме надзяліў яе шматзначным прыметнікам «новая». У «Новай зямлі» багата разнастайнага падтэксту, але галоўную думку твора перадае неўміручая ідэя свабоднай працы вызваленага ад прыгнёту чалавека на ўласнай зямлі ў незалежнай Беларусі. А ў яшчэ адным эпічным творы «Сымон-музыка» бліскуча асэнсаваны лёс народных талентаў, людзей ад зямлі, якія змагаюцца за свабоду мастацтва, за волю беларусаў. Нездарма гэтыя паэмы сталі вяршынямі ў нацыянальнай літаратуры і культуры.

Дакладная фармулёўка У. Даля выдатна характарызуе працу душы Данілы Канстанцінавіча, які праз усё жыццё займаўся самаадукацыяй, памятаючы і выконваючы запаветы бацькі. Вынікі гэтага шчыравання заўважалі людзі, якія мелі з ім стасункі.

У характары Данілы Канстанцінавіча арганічна спалучаліся настойлівасць, упартасць і разам з тым — сціпласць, ціхмянасць. Тым не менш грунтоўнай постаццю, усмешлівым абліччам ён уяўляў сабою надзейнага чалавека, на якога без сумнення можна абаперціся ў цяжкую хвіліну. Нездарма выдатны ўкраінскі паэт Максім Рыльскі ў вершы «Дуб Данила» піша:

Стоїть там дуб, могутній, як земля.
Яке величчя і незламна сила!
Як впевнено він віти розкриля!

Поет новий, що доля охрестила,
Так само гайового короля
Назвав у славу сина: дуб Данила.

У час працы загадчыкам сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ мне неаднойчы даводзілася быць сведкам таго, як Даніла Канстанцінавіч вёў гаворку ці палеміку датычна музейных праблем у начальніцкіх кабінетах. У патрэбны момант ён, звычайна далікатны, спакойны, унутрана збіраўся і адстойваў сваю пазіцыю разумна, талкова і цвёрда. Гэтаму навучыцца цяжка, такое перадаецца толькі ў генах.

А вострых пытанняў хапала. Напрыклад, я падтрымліваў яго ў супраціве дзеячам ад палітыкі і культуры, якія спрабавалі зрабіць з двух самабытных, непадобных класікаў нацыянальнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа нейкіх «блізнят», выпускаць іх творы пад адной вокладкай, адзначаць гуртам юбілеі.

Жаданым аўтарам быў Даніла Канстанцінавіч у часопісе «Полымя», які мне давялося рэдагаваць на працягу амаль 16 гадоў. Ён валодаў унікальнейшай, выдатнай памяццю, яго матэрыялы вызначаліся дасканалым веданнем тэмы,

жывой, свежай моваю. Згадваю, як смела, не зважаючы на званні і рэгаліі, даваў ён адпор тым літаратарам, якія выступалі ў друку з беспадстаўнымі нападкамі на Якуба Коласа. Яму было каго абараняць і кім ганарыцца.

Я часта бачыў Данілу Канстанцінавіча ў бацькоўскіх родных мясцінах, заўважаў, як святлела, свяцілася замілаванасцю ягонае аблічча на беразе Нёмна, дзе высяцца векапомныя дубы, адкуль відаць шырока і далёка. Неяк у Альбуці ён з ціхай радасцю слухаў мае згадкі пра тое, як яшчэ студэнтамі мы прыязджалі сюды і начавалі проста пад зорным небам, каб на досвітку пачуць звонкія, непадобныя галасы соцень славутых крыніц, якія бруілі ў росным лузе над рэчкаю. На жаль, цяпер тыя абсягі асушаны меліярацыяй, але ўсё ж некалькі срэбных featурознагалосых званочкаў засталося…

Намаганнямі Данілы Канстанцінавіча і яго шматлікіх памочнікаў у Беларусі створаны самабытны музейны комплекс ушанавання памяці пра вялікага песняра і яго слаўнага імя, у якім не сорамна прыняць гасцей з усяго свету. Асабіста я прывозіў у коласаўскі гасцінны куток украінцаў, расіян, сербаў, палякаў, балгар, амерыканцаў, немцаў, французаў (дарэчы, у Ліёне ёсць галерэя Я. Коласа, якую пашчасціла наведаць двойчы).

Многія людзі ніяк не могуць зразумець, што культура — гэта не простая сума некалькіх відаў дзейнасці (літаратура, музыка, жывапіс, тэатр, кіно, музеі), але сам лад нашага жыцця, ад якога наўпрост залежыць палітычная, эканамічная і духоўная будучыня беларускай нацыі, па якім нас ацэньваюць іншыя народы. А Даніла Канстанцінавіч сам быў інтэлігентным, культурным чалавекам і такія нюансы адчуваў надзвычай тонка і дакладна.

У дачыненні да сумленнага, годнага жыцця Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча, 100-годдзе з дня нараджэння

якога мы сёлета адзначаем, выраз «непаўторны шлях» — гэта не трафарэтныя словы, а дакладнае вызначэнне яго складанасці і плённасці. Яму было цікава жыць, ён любіў сваіх родных, сяброў, наш шматпакутны і цягавіты народ, мілую Айчыну.

Чалавеку ўдаецца зрабіць за адмераны зямны час многае, калі любіць па-сапраўднаму.

*Сяргей ЗАКОННІКАЎ,*
*лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь*
*імя Янкі Купалы, міжнародных літаратурных прэмій*
*Польшчы і Украіны.*

*Раздзел I*

# *«Дарагі і строгі сын мой Даніла...»*

## *Рукапісы і дакументы Якуба Коласа і Міцкевіч М.Д. да старэйшага сына*

У сямейным архіве Данілы Канстанцінавіча захаваліся лісты, запіскі, даверанасці, тэлеграмы ад яго бацькоў — Канстанціна Міхайлавіча і Марыі Дзмітрыеўны Міцкевічаў. Яны былі разгрупаваны па розных папках, шуфлядах і паліцах. Спатрэбіўся пэўны час, каб разабраць і сістэматызаваць гэтыя дакументы. Паралельна амаль на працягу дзесяці гадоў ішла сумесная праца з акадэмічнымі тэкстолагамі над Зборам твораў Якуба Коласа ў 20 тамах, якая была завершана ў 2012 годзе, да 130-годдзя з дня нараджэння песняра. Гэта — не поўны збор Коласавай творчай спадчыны: у пасляюбілейны час выяўлены новыя рукапісы. Не сумняваюся, што цікавыя знаходкі яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў.

Даніла Канстанцінавіч быў першынцам у сям'і настаўнікаў Міцкевічаў. Нарадзіўся Данік — так ласкава называлі яго бацькі́ — 17 (30 па н. ст.) верасня 1914 года на Палессі, у Пінску. Тады набірала ход Першая сусветная вайна. Разам з бацькамі зведаў шлях у бежанства, цяжкія рэвалюцыйныя і галодныя часы грамадзянскай вайны на бяскрайніх абшарах Расеі. Сябе ён памятаў асобнымі эпізодамі з уральскай Пярмі, дзе служыў у царскай арміі Якуб Колас і дзе вясною 1917 года нарадзіўся яго брат Георгій — улюбёнец сям'і гарэзлівы Юрка, як звалі яго па жыцці. А першы эпізод памяці звязаны з хросным бацькам і родным дзядзькам

Сашам па матчынай лініі — Аляксандрам Дзмітрыевічам Каменскім, які больш за дваццаць гадоў пражыў у сям'і сваёй сястры Марусі і быў, па сутнасці, новазямельскім дзядзькам Антосем для сваіх родных пляменнікаў — Данілы, Юркі і Міхася. Вясною 1917 года дзядзька Саша трымаў маленькага Даніка на руках на беразе вялікай і суровай уральскай ракі Камы. І ці можна было тады ўявіць, што зусім паблізу гэтых мясцін, у нялюдскіх умовах Усольлага пад Салікамскам правядзе апошнія гады жыцця дзядзька Саша! Колькі гадоў шукаў і збіраў па крупінках звесткі пра свайго хроснага бацьку Даніла Канстанцінавіч, пакінуў пра яго шчымлівыя ўспаміны, што ўвайшлі ў кнігу «Любіць і помніць…». У 2013 годзе я атрымала на свой запыт адказ з расейскіх архіваў: Аляксандр Дзмітрыевіч Каменскі памёр 10 ліпеня 1942 года ў асобным лагерным пункце «Аралава» ва Усольлагу. Цяпер вядома дата смерці хроснага бацькі і роднага дзядзькі Данілы Канстанцінавіча.

Адрывачна памятаў Даніла Канстанцінавіч рэха грамадзянскай вайны, побыт, хваробы і голад на Куршчыне, вяртанне ў Менск у 1921 годзе, знаходжанне ў 1922 годзе ў вёсцы Сёмкава, што пад Менскам. Гэтыя ўспаміны ўваходзілі ў розныя прыжыццёвыя артыкулы (гл. раздзел «Бібліяграфічны паказальнік»), а пазней склалі аснову кнігі «Любіць і помніць…».

Дзеці ў сям'і Міцкевічаў гадаваліся ў атмасферы дабрыні, шчырасці, павагі і любові. У той жа час у кожнага былі свае абавязкі, інтарэсы і захапленні. Даніла, старэйшы з сыноў, быў і апорай і прыкладам для малодшых. Вучыўся ён добра, і школьнае захапленне хіміяй (дзякуючы знаёмаму Якуба Коласа па 1920-х гадах выдатнаму вучонаму-хіміку Барысу Міхайлавічу Беркенгейму) сталася прызваннем і асноўнай прафесіяй Данілы Канстанцінавіча.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны Даніла Канстанцінавіч знаходзіцца разам з бацькамі і малодшым братам Міхасём у эвакуацыі ў Ташкенце, працуе ў хімічнай групе беларускай Акадэміі навук і Сярэднеазіяцкага дзяржаўнага ўніверсітэта над стварэннем запальных сумесяў для патрэб фронту. Калі Якуб Колас ад'язджаў па справах з Ташкента ў Маскву, то адказнасць за сям'ю і вырашэнне розных пытанняў пакідаў на старэйшага сына Данілу. Аб чым сведчаць, напрыклад, даверанасці і лісты 1942–1945 гадоў.

У траўні 1942 года Даніла Міцкевіч цяжка захварэў, было падазрэнне на брушны тыф, і яго паклалі ў стацыянар у Ташкенце. Захаваліся лісты Якуба Коласа і Марыі Дзмітрыеўны да сына, у якіх яны выказваюць яму сваю занепакоенасць, у той жа час падбадзёрваюць і паведамляюць, як абстаяць справы на франтах. Такія звесткі і развагі сустракаюцца амаль ва ўсіх лістах народнага паэта падчас вайны.

Кароткія лісты Марыі Дзмітрыеўны, як і кожнай любячай і клапатлівай маці, напоўнены турботай аб сыне. Цяжкахворая Марыя Дзмітрыеўна — ёй заставалася некалькі месяцаў да заканчэння зямнога жыцця, — піша ў лісце з маскоўскай клінікі ўжо даросламу трыццацігадоваму сыну, каб ён лячыўся ад насмарку і рабіў гэта своечасова. А пра сябе амаль нічога, не любіла скардзіцца, ведала, што і так усе родныя перажываюць за яе.

Пасляваенныя лісты Якуба Коласа да сына Данілы напоўнены рознымі бытавымі пытаннямі: добраўпарадкаваннем сядзібы, будаўніцтвам дома, прыбудоў, пасадкай саду, устаноўкай помніка на магіле Марыі Дзмітрыеўны, гаспадарчымі выплатамі. Турбуе Канстанціна Міхайлавіча здароўе сына, тое, што ён доўга ходзіць у халасцяках і бывае ў шумных кампаніях. Апісвае свой побыт у Маскве, Кіславодску. Віншуючы сына з днём нараджэння,

амаль кожны раз нагадвае пра «павышэнне свае навуковае іерархіі» — абарону кандыдацкай дысертацыі.

Даніла Канстанцінавіч амаль заўсёды знаходзіўся побач з бацькам, выконваў яго даручэнні, а ў патрэбных момантах праяўляў сыноўскія клопат і строгасць.

У раздзеле «Дарагі і строгі сын мой Даніла…» упершыню друкуюцца даверанасці, тэлеграмы, запіскі і лісты Якуба Коласа і Марыі Дзмітрыеўны Міцкевіч да старэйшага сына з 1942 па 1954 год і недатаваныя.

№ 1

**Даверанасць Якуба Коласа на імя Міцкевіча Д.К. ад 16.01.1942**

*В Издательство «Художественная литература» Узбекистана*

Доверенность

Доверяю моему сыну Даниилу Константиновичу Мицкевичу подписание договора с Издательством на книгу моих стихов под названием «Голос земли».

*Якуб Колас*
*Г. Ташкент*
*16.I.1942 г.*

Подпись т. Якуба Коласа
Якуб Колас
удостоверяю Зав. Секр. ССПУз [подпіс і пячатка]

## Даверанасць Якуба Коласа на імя Міцкевіча Д.К. ад 16.01.1942

*В Издательство «Художественная литература» Узбекистана*

Доверенность

Доверяю моему сыну Даниилу Константиновичу Мицкевичу получение всего причитающегося мне гонорара, а именно:

1. По моей книге «Голос земли»
2. По переводу моих стихов на узбекский язык
3. По моим стихам, печатуемым в сборниках.

*Якуб Колас*
*Г. Ташкент*
*16 января 1942 г.*

Подпись т. Якуба Коласа
Якуб Колас
удостоверяю Зав. Секр. ССПУз [подпіс і пячатка]

№ 2

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 09.05.1942

Мілы Данік!

Як ты пачуваешся? Ці добра табе? Які догляд? Як кормяць? Мама пасылае табе трохі стравы. Калі можаш, напішы колькі слоў. Папраўляйся. Будзь здаровы.

*Твой бацька*
*9 V 1942 г.*

Вельмі шкадуем, што паслухалі прафесара Кацановіча.

Каментарый:

Канверт з надпісам: 6-й корпус 14-я палатка

Даниилу Константиновичу Мицкевичу

Лісты Якуба Коласа ад 09.05.1942, 11.05.1942, [12–13].05.1942, 14.05.1942 адрасаваны старэйшаму сыну ў бальніцу хуткай дапамогі г. Ташкента, дзе ён знаходзіўся з падазрэннем на брушны тыф.

З успамінаў Міцкевіча Д.К.: «*Аднойчы, гэта было ў канцы красавіка 1942 года, я сябе дрэнна адчуў, ну, захварэў, нешта нямоглася. Неяк не звярнулі ўвагі, была тэмпература, паляжаў некалькі дзён, тэмпература даволі доўга трымалася. Выклікалі доктара, і дактары далі дыягназ: брушны тыфус. І мяне, а ўжо ўстанавілася нармальная тэмпература, павязлі ў шпіталь, праўда, вельмі далёка ад нашага дома, ужо з нармальнай тэмпературай. Там я ляжаў, не памятаю, тыдні два, можа быць тры, вельмі аслабеў, але ўсё-такі акрыяў і вярнуўся дахаты*» [*Паводле кн.: Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. — Мінск : Полымя, 2000. — С. 123–124*].

*Кацановіч* — асоба не высветлена; доктар Кацановіч накіраваў Міцкевіча Д.К. у бальніцу хуткай дапамогі.

№ 3

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 11.05.1942

Дарагі Данік!

Як жывеш? Прасіў Клімава, і ён абяцаў мне, што пазвоніць у Наркомздрав, каб паскорыць твой выхад з бальніцы. Заўтра зайду да Кацановіча — ён бывае па аўторках, — пагавару з ім.

Ты не падай духам, часцей штурмуй дактароў, а я буду падганяць тут. Напішы, калі маеш ахвоту. У Ваенкамат не

хадзіў. Можа заўтра вазьму пасведчанне аб тваёй хваробе. Цалую. Бывай здаровы. Мацуйся.

*Твой бацька*
*11 V 1942 г.*

Каментарый:

Канверт з надпісам: 6-й корпус 14-я палатка
Даниилу Мицкевичу

*Прасіў Клімава* — Клімаў Іван Фролавіч (1903–1991), у той час сакратар Ташкенцкага абкама КП Узбекістана.

*да Кацановіча* — гл. каментарый да № 2.

№ 4

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 11.05.1942

Мілы Данік!

Я ўчора напісаў у 2-гі аддзел Ваенкамата запіску, у якой паведаміў, што ты, як тыфозны хворы, знаходзішся ў бальніцы. Запіску пісаў Міхась. Лейтанант (Цітоў?) запіску прыняў і сказаў: «Няхай астаецца». Ці то да запіскі, ці то да факта адрасоўваліся словы.

Напішы № твайго тэлефона, ці доктара, да якога можна пазваніць. Клімаў званіў намесніку наркома аховы здароўя: даў мне № яго тэл.[ефона]. Я не дазваніўся — відаць наш тэлефон папсаваўся. Як у цябе жывот? Штучны ці натуральны?

Сёння буду рабіць першую прышчэпку.

Бывай здаровы.

*Твой бацька.*

P.S. На Керчанскім паўвостраве немцы перайшлі ў наступленне — 11.V.

*11 мая 1942*

Каментарый:

Канверт з надпісам: ул. Жуковского, Больница неотложной помощи, 6-й корпус 14-я пал.[атка].

Д. Мицкевичу

*Міхась* — Міцкевіч Міхаіл Канстанцінавіч (нар. у 1926 г.), родны брат Міцкевіча Д.К., гл. раздзел V.

*Клімаў* — Клімаў І.Ф., гл. каментарый да № 3.

## № 5

## Ліст Міцкевіч М.Д. і Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад [12–13].05.1942

Дорогой Даник!

Почему ты не позвонил сегодня? Как здоровье? — температура и всё остальное? Возможно, что на днях ты будешь дома. Костусь сделал всё, что мог. Мне пару дней нельзя выходить, и передачу будет носить Михась. По радио передавали, что на Керченском полуострове идут упорные бои, на остальных фронтах ничего существенного.

Посылаю тебе суп, простоквашу (из кипячёного молока), кашу и булку.

Ждём с нетерпением, целуем.

*М[ама].*

Данік!

Чаму не пазваніў? Я трывожуся. Як пачуваешся? Напішы некалькі слоў.

*Твой бацька*

«В течение 12-го мая наши войска на Керч.[енском] п.[олуострове] вели упорные бои с прот.[ивником]. На остальных фронтах ничего сущ.[ественного]».

Каментарый:

Канверт з надпісам Якуба Коласа: 6-й корпус 14-я палатка

Д. Мицкевичу

*Костусь* — Якуб Колас

*Михась* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

№ 6

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 14.05.1942

Дарагі Данік!

Пасылаю аналіз. Як у цябе з жалудкам? Як відаць, прыдзецца да канца дабыць табе тэрмін. Не забудзь узяць спраўку ад бальніцы: яна табе згодзіцца.

На Керчанскім паўвостраве нашы войскі адступілі пад націскам ворага, у некалькі разоў правышаючага па колькасці. Паведамленні немцаў аб трафеях абвяргаюцца, як хлуслівыя. На Хар.[каўскім] кірунку нашы часці перайшлі ў наступленне і паспяхова прасоўваюцца наперад.

Маштаб дзеяння авіацыі нашай становіцца болей шырокім.

На Ленінградскім фронце поспехі ў нас.

Бывай.

*Твой бацька.*
*14.V.1942 г.*

Каментарый:

Канверт з надпісам: 6-й корпус 14-я палата

Д. Мицкевичу

## № 7

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 30.04.1943

Дарагі Данік!

Пад'язджаем да Акцюбінска. Поезд стаіць. Я сяджу на палацях, сагнуўшыся ў крук, і пішу табе. Еду някепска. Баюся толькі, што запазнюся на мітынг. А да мітынга ў мяне амаль што нічога няма. У дарозе накідаю сёе-тое з таго, што мяркую сказаць. — Як жа жывяце? Даглядай маму. Глядзі, каб яна не запрацавалася, каб жывілася, каб піла лякарства. Я ўжо з дарогі пісаў ёй, Міхасю і зараз табе. Пагода ясная, цёплая. Туды, пад Маскву, калі пад'едзеш, пэўна буде халадней. Цалую цябе. Я здаровы. Запасы вязу. Заўтра вып'ем каньячку на 1-ы Май.

*Твой бацька.*

Прывітанне ўсім.

Каментарый:

Паштоўка, напісаная алоўкам, па дарозе з Ташкента ў Маскву. Адпраўлена са ст. Акцюбінск у Ташкент на адрас: Ташкент, Пушкинская 84, ком. 39. Даниилу Константиновичу Мицкевичу.

*да Акцюбінска* — цяпер Актобэ, горад у Казахстане, абласны цэнтр, знаходзіцца на чыгунцы Арэнбург–Ташкент, чыгуначная станцыя.

№ 8

## Паштоўка Міцкевіч М.Д. да Міцкевіча Д.К. ад 22.09.1943

Дарагі Даніла!

Толькі што мы вярнуліся з Чымгана. Трохі папраавіліся, нават тата, а Міхась асабліва. Ён упаляваў барсука і 6 курапатак. Мне вельмі не хацелася выязджаць адтуль. У пачатку кастрычніка выедзем у Маскву. Чакаем ад цябе адказа на тэлеграму адносна Міхася, як там з пераводам, скарэй навадзі спраўкі і адкажы тэлеграмай. У Т[ашкен]т прыехаў Вова ў лагер на дзесяцідзённую практыку, мы яшчэ яго не бачылі. Чаму ты не пераслаў пісьмы праз Грынблата? Як ты ўстроіўся, дзе жывеш, у Маскве, ці ў Сходні. Прывет усім нашым. Цалуем.

*М.[арыя] М.[іцкевіч]*

Каментарый:

Паштоўка з Ташкента ў Маскву, без паштовых рэквізітаў, хутчэй за ўсё, перададзеная з кімсьці са знаёмых.

*Міхась* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*...прыехаў Вова* — Петухоўскі Уладзімір Іванавіч (1914–1968), вайсковец, знаёмы сям'і Якуба Коласа, сябар Міцкевіча Д.К.

*Грынблат* — Грынблат Майсей Якаўлевіч (1905–1983), беларускі этнограф, фальклярыст, гісторык.

*Сходні* — Сходня — у той час рабочы пасёлак і чыгуначная станцыя за 29 км на паўночны захад ад Масквы. Восенню 1943 г. у Сходні аднавіў работу БДУ. З 30.08.1943 па 06.12.1943 Міцкевіч Д.К. працаваў па сумяшчальніцтву на пасадзе дэкана хімфака БДУ.

№ 9

## Ліст Міцкевіч М.Д. да Міцкевіча Д.К. ад 10.01.1945, Масква

Дарагі Данік!

Вельмі прашу цябе. Звярніся да ушніка са сваім насмаркам. Гэта не такое глупства як ты думаеш, хранічны насмарк часта дае зацямненне Гаймаравай поласці, што надта цяжка лечыцца, а яшчэ горш аперыраваць — трэба даўбіць косць. А калі звернешся да доктара ў часе, нічога страшнага не будзе. Тут я нагледзелася на хворых з запушчанай хваробай, дык лепш памерці, чым так пакутаваць, як яны мучацца. Пазвані ў платную паліклініку (каля Яраслаўскага вакзала), у якія дні прымае гарлавік. Запісь з 8 гадзін раніцы. Ёсць яшчэ платныя на Кіраўскай, у канцы канцоў можна звярнуцца і да частнага доктара. Толькі не запускай і не думай, што насмарк — глупства. Напішы мне запіску, калі ты быў у доктара і што ён табе сказаў.

Калі думаеш ехаць у Мінск? Я не ведаю, колькі тут прабуду. Шкада, што не магу ні пазваніць вам, ні пабачыцца з вамі.

Ці піша Коля? Вова?

Цалую моцна.

*Мама.*
*10/I-45 г.*

[P.S.] Калі не цяжка, выберы прадукты на Калужскай і пакінь у Валі. Валя надта загружана, ёй няма часу.

Каментарый:

Міцкевіч Марыя Дзмітрыеўна знаходзілася ў той час у бальніцы ў Маскве. Ліст напісаны алоўкам.

*Гаймаравай поласці* — гаймарава поласць (пазуха) знаходзіцца ўнутры косці верхняй сківіцы, у выніку нялечанага насмарку

можа ўзнікнуць цяжкае захворванне — запаленне гаймаравай пазухі.

*Коля* — Міцкевіч Мікалай Іванавіч (1914–1991), гл. раздзел V.

*Вова* — Петухоўскі У.І., гл. каментарый да № 8.

*у Валі* — Працька (дзяв. Сай) Валянціна Васілеўна (1913–1998), знаёмая сям'і Якуба Коласа з канца 1920-х гг. У 1944–1945 гг. Якуб Колас разам з Марыяй Дзмітрыеўнай некаторы час жылі ў яе кватэры ў Маскве.

## № 10

## Даверанасць Якуба Коласа на імя Міцкевіча Д.К. ад 20.03.1945

*У Народны Камісарыят Асветы БССР*

Даверанасць

Маю персанальную пэнсію за люты і сакавік месяцы г.г. давяраю атрымаць майму сыну Данілу Міцкевічу.

*Якуб Колас — К. Міцкевіч*
*20 III 1945 г.*

## № 11

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 15.03.1946

Дарагі Данік!

Не ведаю, калі скончыцца сэсія В.[ярхоўнага] С.[авета]. Незалежна ад гэтага мне прыдзецца затрымацца ў Маскве, як відаць, да палавіны сакавіка (апрэля): пачалася работа Камітэта па Сталінскіх прэміях. Аб далейшым напішу. Ты даглядай хату, гаспадарку. Грошы, якія будуць належаць мне па Акадэміі, атрымлівай. М.[ожа] б.[ыць], прыдзецца

прыслаць і мне сюды, бо я не разліч[в]аў аставацца тут доўга. Але покі не паведамлю, не прысылай. Можа як абярнуся і маскоўскімі — яны мне належаць. Федзе за март я выплаціў. Шануйся і шануй сваё здароўе. Не забывайся, што табе трэба прывясці ў парадак свой рот — зубы. Міхаську бачу даволі часта. Учора ён здаў экзамен. Яму трохі не пашанцавала — прадмет ведаў добра, а атрымаў 3.

Пахваліцца сваім здароўем не магу. Ціск крыві павысіўся, адчуваю слабасць ды, відаць, і грып прычапіўся. Быў у Крамлёўскай паліклініцы. Можа пакажуся спецыялістам — няхай пагледзяць, хоць лепей іх не ведаць. Ці ездзілі купляць вепрука? Тут некалькі дзён валіў снег. Пагода няроўная, але марозаў няма. Я жыву ў гасцініцы «Метраполь» № 293. Пасля сэсіі мяркую перабрацца ў «Маскву» — там усё ж лепей. Як ты здароў? Што чуваць дома?

Моцна цябе цалую.

Бывай здаровы.

*Твой бацька.*

Каментарый:

Канверт з надпісам: Минск, БССР, ул. Пушкина, 56. Академия Наук. Даниилу Константиновичу Мицкевичу.

*Федзе* — Хадасоўскі Фёдар Пятровіч, шафёр Якуба Коласа ў 1939–1941, 1945–1947 гг.

*Міхаську* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

## № 12

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 20.03.1946

Дарагі мой Данік!

Сягоння заходзілі да мяне Лынькоў і Глебка. Яны мне сказалі, што ты не зусім здаровы, што ты грыпуеш. І я мімаволі ўспамінаю маму: калі б яна жыла, дык дагледзела б цябе, а сам ты мала шануеш сябе. Табе трэба сур’ёзна звярнуць увагу на сваё здароўе. Растраціш яго ў маладыя гады, калі не будзеш глядзець за сабою. Табе трэба сур’ёзна палячыцца ды перастаць кампанавацца з Лагутам — ён зусім распаўся, як чалавек, абярнуўся ў п’яніцу і дробнага камбінатара.

Міхаські не бачыў колькі дзён. Надакучыла мне тут. А прыдзецца быць яшчэ доўгі час. Не хочацца нікуды хадзіць, а прыходзіцца. Так і сягоння прыдзецца наведацца вечарам у саюз пісьменнікаў для сустрэчы з маскоўскімі пісьменнікамі. Калі прышлюць машыну, дык паеду.

Заўтра напэўна паедзе Васіль Антонавіч. Праз яго хачу пераслаць табе гэта пісьмо. Я адчуваюся лепей, чым гэта было на першых часах прыезду ў Маскву. Калі раз’едуцца дэпутаты, перабяруся ў гасцініцу «Масква». Што чуваць дома?

Япрука, як відаць, купіць не ўдасца. Дык тыя грошы, што пакінуў, пускайце на пражытак.

Моцна цалую.

Не хварэй.

*Твой бацька.*

P.S. паслаў на тваё імя кнігі.

*ЯК.*

Каментарый:

Ліст перададзены з Масквы ў Менск. Якуб Колас знаходзіўся ў той час у Маскве на сесіі Вярхоўнага Савета СССР, а пасля яе заканчэння прымаў удзел у рабоце Камітэта па Сталінскіх прэміях.

Канверт з надпісам: Минск, Академия Наук, Д.К. Мицкевичу

*Лынькоў* — Лынькоў Міхась (Міхаіл) Ціханавіч (1899–1975), беларускі пісьменнік, вучоны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1962).

*Глебка* — Глебка Пятро (Пётр) Фёдаравіч (1905–1969), беларускі паэт, перакладчык, навуковец, грамадскі дзеяч.

*з Лагутам* — Лагута Хвядос Міхайлавіч (1904–1975), хімік. Працаваў у АН БССР. Знаёмы сям'і Якуба Коласа. Сябар Міцкевіча Д.К.

*Васіль Антонавіч* — Лявонаў Васіль Антонавіч (1889–1972), вучоны-педыятр, заснавальнік беларускай школы педыятраў. Віцэ-прэзідэнт АН БССР у 1940–1947 гг.

№ 13

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 03.04.1946

Дарагі Данік!

Добра не ведаю, колькі я прабуду тут — гэта залежыць ад таго, калі скончыцца работа К[амітэ]та па Сталінскіх прэміях. Раней палавіны апрэля наўрад ці скончыцца. Калі ў цябе ёсць грошы, дык заплаці Федзе Хадасоўскаму пэнсію за апрэль адну тысячу. Мне пасылаць грошы не трэба — абыйдуся.

Што чуваць дома? Даглядай гаспадарку, бо ты ж яе гаспадар. Як Оля? Чуў, быццам бы яна збіраецца ў жано-

чы вырай. Як жыве М.[арыя] Г.[еоргіеўна]? Перадавай ёй прывітанне. Зайдзі на магілку мамы, прывядзі яе ў парадак.

Моцна цалую.

*Твой бацька.*

Каментарый:

Паштоўка з надпісам: Минск, БССР, ул. Пушкина, 56, Академия Наук

Даниилу Константиновичу Мицкевичу

*Федзе Хадасоўскаму* — Хадасоўскі Ф.П., гл. каментарый да № 11.

*Оля* — Прачук Вольга Антонаўна (1909–1972), у 1921–1930 гг. выхаванка сям'і Якуба Коласа, скончыла фізіка-матэматычны факультэт БДУ (1940), працавала настаўніцай матэматыкі. Заслужаная настаўніца БССР (1968). У 1944–1946 гг. пражывала ў доме Якуба Коласа.

*...збіраецца ў жаночы вырай* — В.А. Прачук збіралася пабрацца шлюбам.

*М.Г.* — Татур Марыя Георгіеўна, у 1945–1949 гг. хатняя гаспадыня ў доме Якуба Коласа.

## № 14

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 18.09.1946

Дарагі Данік!

Я мусіў паехаць у Маскву, не дачакаўшыся твайго прыезду. Званіў Міхась. У Маскве зараз жонка Лужаніна. Трэба як-небудзь дабіцца, каб яе пакойчык перадаць Міхасю і прапісаць яго ў ім. Лужаніна будзе ў Маскве да 24 верасня. Я памеціў дзень выезда (калі ўдасца кур'ерскім) на 19 верасня.

Ключ ад сейфа я павесіў у пакойчыку М.[арыі] Г.[еоргіеўны] пад карцінаю. Ёй сказаў, бо іначай ты не знайшоў бы яго.

Навадзі ў доме парадак.

Назаляе бясконцая працэсія і патрэбнага і непатрэбнага люду.

Зося няхай покі што жыве тут.

Быў на могілках. Азгур — свіння. Нічога не зрабіў, каб паставіць помнік. Прасіў стоража паслаць майстра, які робіць помнікі. Гэта будзе болей пэўна. З майстрам дагаворымся. А зрабіць трэба.

Чаму ж не прыслаў тэлеграмы? Як здаровы?

Будзь шчаслівы.

*Бацька.*

Каментарый:

Канверт з надпісам: Даніку

*Міхась* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*Жонка Лужаніна* — Пфляўмбаўм Яўгенія Эргардаўна, гл. раздзел V.

*М.Г.* — Татур М.Г., гл. каментарый да № 13.

*Зося* — Міцкевіч Соф'я Іосіфаўна (1926–2013), родная пляменніца Якуба Коласа.

*Азгур* — Азгур Заір Ісакавіч, гл. раздзел V.

## № 15

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 12.10.1946

Дарагі Данік!

Я сягоння еду ў Маскву ў 6 г.[адзін] 40 хв.[ілін] вечара ў спецыяльным вагоне для дэпутатаў. Учора хацеў пазваніць Міхасю, але не працаваў тэлефон. Можа мы яшчэ

сустрэнемся ў Маскве, але заседжвацца табе не трэба. Тут прыходзяць немцы на работу. Работа ідзе туга — няма цэменту. У першую чаргу я рашыў ставіць гараж, бо машына прападзе.

Тваю пэнсію я атрымаў і палажыў яе ў скрыню, ключ ад якой павешу на старае месца пад карцінай. Олі даў 5.000 руб.[лёў] на куплю япрука.

Усяго лепшага.

*Бацька.*

За тэлефон заплаціў да канца года.

*ЯК*

Каментарый:

Ліст напісаны на адрыўным лістку з блакнота дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. Канверт з надпісам: Даніку.

*Міхасю* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*...немцы на работу* — ваеннапалонныя немцы вялі будаўнічыя работы на сядзібе Якуба Коласа.

*Тваю пэнсію* — так Якуб Колас называў заработную плату.

*Олі* — Прачук В.А., гл. каментарый да № 13.

## № 16

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 30.09.1947

Дарагі Данік!

Ключ ад жалезнай скрыні пакідаю ў стале.

У скрыні 11.400 руб.[лёў] грошай. Пэнсію М.[арыі] Г.[еоргіеўне] і Ганне за кастрычнік, а таксама і шафёру заплаціў. Грошы расходуй эканомна. За малако сягоння заплаціў (648 р.). Малако бярыце па 2 літры.

З гэтых жа грошай вылучы і на пасадку сада і на ўсякія іншыя выдаткі.

У скрыні таксама пакінуў і кніжку-ўклад у банку.

Насыпце столь, зашкліце ўсе вокны ў доме і ў гаражы.

*Твой бацька.*

Каментарый:

Ліст напісаны на адрыўным лістку з блакнота дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. Канверт з надпісам: Даніку.

*М.Г.* — Татур М.Г., гл. каментарый да № 13.

*Ганне* — памочніца Татур М.Г., старая жанчына, неўзабаве памерла.

№ 17

**Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К.**
**ад 10.10.1947 г.**

Дарагі Данік!

Сустрэў Ахрэма. Сёння ён едзе ў Маскву, адтуль ладзіцца ў Мінск. Пішу гэта пісьмо, каб Ахрэм завёз яго табе. Я ўжо даваў табе тэлеграму. Што ж сказаць? Усё ж такі дзе-небудзь на Беларусі далей ад Мінска лепей, чым у якім-небудзь санаторыі, нават у такім, як Кіславодск. Санаторый Акад.[эміі] Нав.[ук] СССР — узорны санаторый. Але ў ім добра маладым і здаровым людзям. Адчуваюся не дужа добра. Добра адно — асабовы пакой, ніхто не звоніць, хоць, праўда, тэлеграма з рэд.[акцыі] «Праўды» прыйшла ў той жа дзень, калі я прыехаў сюды. Горш за ўсё — дрэнны сон. У дадатак да ўсяго дзесь прахваціў скразняк, забалеў зуб пад каронкай. Каронка знітавана з другою, а гэтая другая з цэлаю камбінацыяй другіх паўкаронак. Боль такі, што баліць уся ніжняя скіівіца, залозкі і коле ў вушы. А колькі вазні з рознымі доктарскімі аглядамі, працадурамі, аналізамі. Бралі кроў з пальца, бралі з вены грам 30, а можа і болей. Гэта і не кепска пры высокім ціску крыві. А ў мяне

ён 215. Цяпер ідзе на паніжэнне. Пагода стаіць добрая. Думаю чэсна адбыць тэрмін — да 2.XI.

Знаёмых тут мала, адзін толькі А. Ціханаў, з якім сустрачаўся ў Ташкенце. Калі б я быў Гарадзецкім, дык іх завялося б тут многа. Ды і без таго завядуцца.

Што чуваць у цябе? Ці скончан рамонт? Ці падсыпана столь? Усё гэта зрабі. Грошай не надта распускай, бо можа з іх прыдзецца даць тысячу шоферу перад святамі, бо я, як відаць, раней 5–6. XI не ўпраўлюся прыехаць. Ці думаеш над пасадкаю сада? Як вы там здаровы?

У вас там напэўна холадна, а я яшчэ хаджу тут у пільчаку, хоць ночы і раніцы ўжо халодныя. Перадай прывітанне Лыньковым, Крапіве, Глебку і ўсім знаёмым. Цалую вас, бывай здаровы. Міхасю я паслаў пісьмо.

Усяго найлепшага.

*Твой бацька.*

Што з помнікам? Не выпускай з увагі.

*ЯК*

## Каментарый:

Канверт з надпісам: Минск БССР, ул. Пушкина, 56
Данилу Константиновичу Мицкевичу

*Сустрэў Ахрэма* — Ахрэм Апанас Андрэевіч (1913–2010), беларускі вучоны, біяарганік. Сябар Міцкевіча Д.К. Акадэмік АН БССР (1970). У 1974–1988 гг. дырэктар Інстытута біяарганічнай хіміі АН БССР.

*А. Ціханаў* — Ціханаў Аляксандр Мікалаевіч (1880–1956), расейскі пісьменнік, літаратурны дзеяч.

*Гарадзецкім* — Гарадзецкі Сяргей Мітрафанавіч (1884–1967), расейскі паэт, празаік, драматург, перакладчык, крытык, публіцыст, адзін з першых перакладчыкаў Якуба Коласа на расейскую мову. Знаёмы з Коласам з 1933 г.

*Лыньковым* — Лынькоў М.Ц., гл. каментарый да № 12. Яго жонка Лынькова-Куспіц Соф’я Захараўна (1917–1992), настаў-

ніца, працавала навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР.

*Крапіве* — Кандрат Крапіва (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч, 1896–1991), беларускі драматург, паэт, байкапісец, сатырык, крытык, мовазнавец, грамадскі дзеяч. У 1947–1952 гг. загадчык сектара мовазнаўства Інстытута мовы і літаратуры АН БССР.

*Глебку* — Глебка П.Ф., гл. каментарый да № 12.

*Міхасю* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*Што з помнікам?* — Якуб Колас турбаваўся ўстаноўкай помніка на магіле жонкі Міцкевіч М.Д. на Вайсковых могілках.

## № 18

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 30.09.1948

Дарагі мой сын Даніла!

Ад душы вітаю цябе з днём нараджэння, з 34-ма гадамі твайго жыцця. Якраз сягоння дзень нараджэння і акадэміка Лысенка. Ён на 16 гадоў радзіўся раней за цябе. Я дужа хацеў бы, каб і ты, калі табе будзе 50 гадоў, стаў бы акадэмікам, а ў 35 гадоў, г.[эта] з.[начыць] праз год, каб ты абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Цалую, жадаю быць здаровым.

*Твой бацька.*

Каментарый:

Ліст напісаны алоўкам на бланку з блакнота дэпутата Вярхоўнага Савета БССР.

*акадэміка Лысенка* — Лысенка Трафім Дзянісавіч (1898–1976), расейскі вучоны-аграном. У 1940–1965 гг. дырэктар Інстытута генетыкі АН СССР. Вучэнне і практычныя рэкамендацыі Лысенкі былі неабгрунтаваныя, укараняліся адміністрацыйна,

што нанесла вялікую эканамічную шкоду. Якуб Колас памыліўся: Лысенка Т.Д. нарадзіўся 29 верасня.

№ 19

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 07.08.1950

Дарагі Мой Даніла!

Заехалі добра. Патупалі па лесе, знайшлі трохі грыбоў.

Мілы мой сын! Ты ведаеш, якія мае нервы. Я не буду ведаць спакою, пакі ты не возьмеш сябе ў рукі, і гэта я адчую. Шануй жа сябе, сынок.

Пачуй ты мае бацькоўскае Слова.

Прыязджайце з Максімам. Заедзьце ў электразбыт, купіце радыёпрыёмнік (батарэйны). Трохі вазьмі ў сэйфе. Ключ у шкатулцы — у дамашняй аптэчцы. Цалую цябе. Твой бацька.

Каментарый:

Якуб Колас з 7 жніўня 1950 г. знаходзіўся на адпачынку ў Балачанцы (Пухавіччына).

*з Максімам* — Максім Лужанін, гл. раздзел V.

№ 20

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 29.09.1950

Дарагі Даніла!

26 IX я даручыў Наташы паслаць табе тэлеграму — павіншаваць цябе з днём нараджэння. Заўтра — гэты дзень. Калі ж ты будзеш чытаць маё пісьмо, то 30 IX ужо адыйдзе ў прошлае. У нас дома ўсё ў парадку. Бульбу ўжо выбралі. Яб-

лыкі засталіся толькі на некалькіх яблынях. Адну яблыньку я прасіў не атрасаць да твайго прыезду, калі толькі не атрасуць яе жэўжыкі. 27 IX я ездзіў у Балачанку ў баравікі. Перад гэтым было некалькі цёплых дзён. Удвух з Сяргеем знайшлі мы каля ста маладых ды прыгожых чорнагаловых баравікоў. Увесь лес завалены рознымі грыбамі: радоўкамі, зялёнкамі, таўстухамі, падасінавікамі, баравікамі. Зараз у калгасах народ заняты работаю і па грыбы ходзяць мала.

Мне прыдзецца паехаць у Маскву на усесаюзную канферэнцыю прыхільнікаў міру — 16–18 X. Ездзіць, ты сам ведаеш, я не вялікі аматар, ды нічога не паробіш.

Максіма я адвёз на станцыю. Вестак ад яго яшчэ не маю. Жэні ён прысылаў тэлеграму. Нядаўна заплаціў за электраэнергію за чатыры месяцы. Аказваецца, ты нічога не зрабіў. Аддаваць жа зараз 1200 руб.[лёў] цяжкавата.

Здароўе маё, вядома, старэчае. Апошнія дні стаў вельмі няважны сон.

Напішы, як жывеш, калі вернешся. Асабліва доўга не затрымлівайся, бо пачынаюцца асеннія халады.

Моцна абнімаю і цалую.

*Твой бацька.*

М.М. Малёнку прывітанне.

## Каментарый:

Канверт з адрасам: Крым, Мисхор, Санаторий «Марат», Даниилу Константиновичу Мицкевичу. Адрас адпраўніцеля: Минск, ул. Пушкина, 56. Якубу Коласу.

*Наташы* — Міцкевіч Наталля Іванаўна (1924–2012), нявестка Якуба Коласа, жонка Міцкевіча М.К.

*Сяргеем* — Сонюшкін Сяргей Сямёнавіч, шафёр Якуба Коласа ў 1947–1955 гг.

*Максіма* — Максім Лужанін, гл. раздзел V.

*Жэні* — Пфляўмбаўм Я.Э., жонка М. Лужаніна, гл. раздзел V.

*М.М. Малёнку* — Малёнак Мікалай Мітрафанавіч (1908–1966), хімік, працаваў дацэнтам у Менскім медыцынскім інстытуце, падчас вайны — у Ташкенцкім медінстытуце. Сябар Міцкевіча Д.К.

## № 21

## Ліст Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 14.11.1950

Дарагі Данік!

Галубятнікі перамаглі. Як агідны мне сягоння рыжы Пропер і галянасты Іван! Але цэнтр свету не ў іх.

Данік дарагі! Ты не марудзь з жаніцьбаю. Мяне не чакайце. Раней Новага году я дома не буду. Я, брат, дужа падтаптаўся. Ачуньваю марудна. У лёгкіх ніякага працэсу ўжо няма, але ў іх час ад часу паяўляюцца «очажки», якія не даюць ніякай тэмпературы. Уся зараз сіла ў сэрцы. Яму трэба доўгі спакой. Нічога небяспечнага няма. Але ты падлічы, колькі разоў я хварэў.

З вяселлем на шырокую ногу не разганяйся. Збяры чалавек 30 самых блізкіх табе людзей.

Моцна цалую, па-бацькоўску, Зарыну, Наташу, Міхаська.

Усяго вам найлепшага.

*Твой бацька.*

Каментарый:

Канверт з подпісам: <u>Даніку</u>. Ліст напісаны алоўкам на адрыўным лістку з блакнота.

*Галубятнікі перамаглі* — так Якуб Колас называў тых, хто працаваў у кабінетах на 4-м, апошнім паверсе галоўнага корпуса АН БССР, на той час ліфтоў у будынку не было. Там жа знаходзіўся кабінет Грашчанкава М.І.

*Рыжы Пропер* — Грашчанкаў (Пропер-Грашчанкаў) Мікалай Іванавіч (1901–1965), расейскі і беларускі вучоны ў галіне неўралогіі і нейрахірургіі. У 1948–1951 гг. прэзідэнт АН БССР.

*галянасты Іван* — Лупіновіч Іван Сцяпанавіч (1900–1968), беларускі вучоны ў галіне глебазнаўства і аграхіміі. Акадэмік АН БССР.

*Зарыну* — Міцкевіч (дзяв. Кулеўская) Зарына Уладзіміраўна (1927–1996), нявестка Якуба Коласа, першая жонка Міцкевіча Д.К. з 1950 па 1960 г.

*Наташу* — Міцкевіч Н.І., гл. каментарый да № 20.

*Міхаська* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

№ *22*

## Запіска Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 30.09.1952

Дарагі Данік!

Шчыра вітаю з днём нараджэння. Памятай: 1914 – 1952 = 38.

Прыступай да павышэння свае навуковае іерархіі.

*Твой бацька.*
*30 IX 1952 г.*

Каментарый:

*навуковае іерархіі* — абарона кандыдацкай дысертацыі.

№ *23*

## Запіска Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 27.06.1954

Данік!

Заявіся да доктара — няхай выслухае і дасць параду — на тое яны дактары.

Буду 30 VI каля 11 гадзін раніцы.

Не забудзь папярэдзіць бухгалтэрыю БДВ аб тым, каб 30 VI мне загатавалі 10.000 тысяч.

Цалую.

*Твой бацька.*
*ЯКолас (подпіс)*
*27 VI 1954 г.*

Каментарый:

На адвароце ліста: Даніку

Якуб Колас знаходзіўся у Каралішчавічах, запіску, хутчэй за ўсё, перадаў праз Петруся Броўку.

*БДВ* — Беларускае дзяржаўнае выдавецтва.

№ 24

## Запіска Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 02.08.1954

Данік!

Чаму ты не праведаеш мяне?

Што робіш? Як паводзіш сябе?

*Твой бацька.*
*2 VIII 1954 г.*

Каментарый:

На адвароце ліста: Д.К. Міцкевічу.

Якуб Колас знаходзіўся ў Каралішчавічах.

## № 25

## Запіска Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. ад 30.09.1954

З днём нараджэння, з сарака гадамі віншую, дарагі і строгі сын мой Даніла. Жыві столькі ды яшчэ паўстолькі.

*Якуб Колас*
*30 верасня 1954 г.*

Каментарый:

Канверт з подпісам: Даніле Міцкевічу.

## № 26

## Запіска Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. без даты

Данік!

1. Зажыгалку дае табе Лынькоў.

2. Папрасі Максіма, каб ён перадаў у Саюз пісьменнікаў анкеты (ляжаць у стале злева ў другой шуфлядзе, загорнуты ў газэту).

*Твой бацька.*

Заплаці за электрыч.[насць] за 3 месяцы. Я вытрас усе свае кішэні. Міхась узяў 2400 на адрэз. Не зацягвай плату.

*ЯК*

Еду ў лечкамісію.

Каментарый:

Запіска напісана напалову сінімі чарніламі і чырвоным алоўкам на адрыўным лісце з блакнота дэпутата Вярхоўнага Савета БССР.

*Лынькоў* — Лынькоў М.Ц., гл. каментарый да № 12.

*Максіма* — Лужанін Максім. Гл. раздзел V.

*Міхась* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

## № *27*

## Тэлеграма рукапісная Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К. без даты

Срочная
Минск Академия Наук
Даниилу Мицкевичу
Буду второго вечером
Вышли машину
Якуб Колас
Москва, гостиница
Октябрьская, 4.
Якубу Коласу

Каментарый:

Рукапіс тэлеграмы на адрыўным лісце з блакнота «Депутат Верховного Совета СССР».

## № 28

## Тэлеграмы Якуба Коласа да Міцкевіча Д.К.

### *1943*

Привет [из] Чимгана. Здоровы. Телеграфируй перевод Михася [в] институт. Якуб Колас.

*<з Ташкента — у Маскву, гатэль «Якар», Данілу Міцкевічу>*

Телеграмму получили. Выезжаем [в] двадцатых числах октября. Выезд известим. Целуем. Якуб Колас.

*<з Ташкента — у Маскву, гатэль «Якар», Данілу Міцкевічу>*

Выезжаем первого ноября. Организуй встречу, грузовую машину. Якуб Колас.

*<з Ташкента — тэрміновая, у Маскву, гатэль «Якар», Данілу Міцкевічу>*

***1947***

Сегодня встал вагон. Самое лучшее боюсь только, [что] придет не скоро. Крайний срок выезда пятнадцатого ноября. Сообщи экстренно. Целую. Якуб Колас.

*<з Кіславодска — молнія, у Менск, Акадэмія навук, Міцкевічу>*

***1950***

Немедленно приезжай. Якуб Колас.

*<з Менска — у Маскву, гатэль «Якар», 94, Міцкевічу Даніілу Канстанцінавічу; дата па штэмпелю: 08.07.1950>*

*Раздзел II*

# *«Жывём, клапоцімся і дбаем...»*

## *Лісты Міцкевіча Д.К.*

Перапіска Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча была абшырная і разнастайная. Па зразумелых прычынах яго лістоў да розных адрасатаў захавалася няшмат. Найбольш каштоўныя з іх — да сямейнікаў. Лісты да бацькі — Канстанціна Міхайлавіча — знаходзяцца пераважна ў фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, у асабістым архіве паэта. Да жонкі — Аляўціны Цімафееўны — у нашай сям'і. Найбольш цікавыя па змесце лісты прадстаўлены ў другім раздзеле кнігі.

У лісце да Якуба Коласа ад 11 траўня 1943 года, калі народны паэт знаходзіўся ў Маскве (прымаў удзел у Трэцім Усеславянскім мітынгу), ідзе размова пра работу ў хімічнай лабараторыі, пра неабходнасць скарачэння штату і непажаданае звальненне сумленнай супрацоўніцы, за якую Даніла Канстанцінавіч просіць бацьку, каб паспрыяў пакінуць яе на працы. Гэта была і турбота аб чалавеку, які б застаўся ў цяжкі ваенны час без працы. У лістах ваенных гадоў узгадваецца шмат імёнаў і прозвішчаў. Тлумачыцца гэта тым, што людзі падчас вайны згубілі сваіх родных, блізкіх і знаёмых, не ведалі, дзе хто знаходзіцца, хто эвакуіраваўся, хто застаўся на акупіраванай тэрыторыі. Многія беларусы пісалі Якубу Коласу ў Ташкент на адрас Саюза пісьменнікаў Узбекістана ў надзеі атрымаць весткі.

Ліст Данілы Міцкевіча да бацькоў і брата ад 18–19 ліпеня 1944 года ўтрымлівае найцікавейшую інфармацыю. Даніла Канстанцінавіч прыляцеў у толькі што вызвалены

ад фашыстаў Менск на ваенным самалёце са сваім даўнім сябрам Апанасам Андрэевічам Ахрэмам, будучым вядомым вучоным-біяхімікам. Сустрэчы з людзьмі, якія перажылі акупацыю, іх расповеды, уражанні ад менскіх руінаў, спаленых будынкаў Акадэміі навук і часткова знішчанага ўніверсітэцкага гарадка. Як выглядае і жыве вызвалены горад, парад партызан… Апісанне лаканічнае і, на маю думку, аптымістычна-бадзёрае. «*Я жыву ў добрых умовах…*» — гэта каб маці не хвалявалася, на яе долю і так выпалі цяжкія перажыванні. І за сярэдняга сына Юрку, які ваяваў з першых дзён вайны і ад якога не было ніякіх вестак пасля верасня 1941 года, і за роднага брата Аляксандра, і за многіх блізкіх і знаёмых, загінуўшых у лагерах і на вайне, балела яе сэрца. Падчас вайны Марыя Дзмітрыеўна часта хварэла сама.

Лісты Данілы Канстанцінавіча 1955–1956 гадоў адрасаваны Якубу Коласу ў падмаскоўны санаторый «Барвіха», дзе лячыўся паэт. Сын піша бацьку пра гаспадарку, сад, надвор'е, дачныя мясціны — адным словам, пра тое, што заўсёды хвалявала Коласа. Не забывае і пра справы: агароджу могілак у Мікалаеўшчыне, перапіску паэта, юбілейныя даты.

Зусім кур'ёзным па сённяшнім часе выглядае эпізод з друкаваннем урыўка з трылогіі «На ростанях» (глядзі ліст ад 29.06.1956). Супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Правда» праявілі звышпільнасць і палічылі «настаўніцкі саюз»… эсэраўскім! Як працытаваў бы ў дадзеным выпадку Даніла Канстанцінавіч: «Быў час, быў век, была эпоха».

Ліст Данілы Канстанцінавіча 1957 года захавала яго цётка Алена Міхайлаўна Лойка, малодшая сястра Якуба Коласа. Яшчэ да рэвалюцыі яны з мужам Міхаілам Іванавічам Лойкам паехалі з роднай Мікалаеўшчыны ў Данбас

на працу. У 1920–1930-я гады і да самага пачатку вайны цётка Лена (так яе ўсе называлі) перапісвалася з менчукамі, прыязджала да іх у госці. Алена Міхайлаўна захавала лісты Якуба Коласа і Марыі Дзмітрыеўны. Пасля смерці Якуба Коласа, калі поўным ходам ішла работа па стварэнню літаратурнага музея песняра, Даніла Канстанцінавіч запрасіў Лойкаў прыехаць і працаваць у музеі. Яны ўжо былі на пенсіі, дзяцей не мелі і, пасля невялікіх ваганняў, прынялі такую прапанову. Доўгія гады сям'я Лойкаў жыла ў двух невялікіх пакойчыках у музеі. Працавалі вартаўнікамі. Добрасумленна, шчыра, з адкрытай душой. Наведвальнікі сустракаліся з самой гісторыяй — роднай сястрой народнага паэта. Сваёй прысутнасцю Алена Міхайлаўна і Міхаіл Іванавіч упрыгожвалі і ажыўлялі музейную сядзібу шмат гадоў.

У 1970–1980-я гады Даніла Канстанцінавіч ездзіў на лячэнне ў Літву (Друскінінкай), Латвію (Булдуры), Грузію (Баржомі), Украіну (Трускавец), Падмаскоўе (Пушкін). У яго была застарэлая язва страўніка, ён часта ўжываў соду. Калі на лячэнне ехаў адзін, то пісаў дахаты падрабязныя лісты кожныя 3–5 дзён. Мая маці Аляўціна Цімафееўна клапатліва захоўвае гэтыя лісты. У 1974 годзе бацька паехаў у санаторый «Баржомі-Лікані» адразу пасля свайго шасцідзесяцігоддзя. «Калі і існуе рай, то ён падобны на Лікані», — словы Анатоля Луначарскага, прыведзеныя бацькам у адным з тых лістоў. Бацьку вельмі спадабалася прырода гэтай мясціны. Як сапраўдны музейшчык, ён пабываў на экскурсіях у музеі гісторыі баржомскіх курортаў, у краязнаўчым музеі Баржомі. Быў у захапленні ад экскурсіі ў пячорны горад XII стагоддзя Вардзіа, дзе калісьці было каля 3000 пакояў-пячор.

Імя Аляксея Слесарэнкі не раз сустракаецца на старонках гэтага выдання. Доўгія гады Аляксей Аляксеевіч

і Даніла Канстанцінавіч падтрымлівалі сяброўскія адносіны. Разам працавалі, адпачывалі на радзіме Коласа ў Мікалаеўшчыне. Некалькі гадоў працавала ў коласаўскім сталічным музеі старэйшая дачка Слесарэнкі — Аксана Аляксееўна. Яны з сястрой Юліяй ласкава прадаставілі мне лісты Данілы Канстанцінавіча з сямейнага архіва Слесарэнкі, з якіх я адзін адабрала для публікацыі. Больш інфармацыі прыведзена ва ўступе да раздзела IV.

№ *29*

## Ліст Міцкевіча Д.К да Якуба Коласа ад 11.05.1943

Дарагі тата!

Заўтра вылятае ў Маскву мой сусед — Эзрас Асратавіч Асрацян. Ён павінен быў выляцець сёння раніцай, але спазніўся. Учора я напісаў ліст Віктару Іванавічу, а сёння атрымаў ад яго. У канверце быў і зацверджаны план навуковых работ. Я хачу сказаць адносна гэтага плана. Рашэннем Прэзідыума ў Ташкенце нам было дазволена прыняць у штат 2-х супрацоўнікаў (малодшы навуковы супрац.[оўнік] і лабарант). Цяпер па зацверджанаму плану не даецца ні аднаго. Прыдзецца скараціць мал.[одшага] навук.[овага] супрац.[оўніка] Карцоўнік. Гэта вельмі сумленны і акуратны работнік, і мне і Малёнку не хацелася б скарачаць яе. Ці нельга пакінуць яе ў штаце? Па-другое, да гэтага часу я не атрымаў ніводнай капейкі на аперацыйныя выдаткі і не ведаю, калі атрымаю. Ясна, што ў маі месяцы план выканаць не ўдасца, бо з-за адсутнасці сродкаў адна з тэм не распрацоўваецца.

Ці доўга ты збіраешся быць у Маскве? Перадай ад мяне прывітанне ўсім Каменскім. Што ў іх новага?

Ці заходзілі к табе Боня і Віцька? Перадай ім таксама ад мяне прывет, а Боню падзякуй ад імя Ізі і майго імя за пасылку, якую ён пераслаў з Жэбракам. Скажы ім, што ў Ташкенце знайшоўся наш зямляк і агульны прыяцель Барыс Ганкевіч.

Перадай прывітанне Канстанціну Васільевічу і Віктару Іванавічу. Ці давёз ты ім маю пасылку? Як яны жывуць зараз? Яшчэ раз прашу пакінуць у штаце нашай лабараторыі Карцоўнік, інакш нам трудна будзе справіцца з выкананнем плана.

У нас дома ўсё ў парадку. За гэты час ніхто з нас нічым не хварэў. Чакаем твайго прыезду. Яшчэ раз прывет усім знаёмым. Бывай здароў.

*Даніла.*

P.S. Дзе зараз знаходзіцца Фелікс. Як ён сябе адчувае. Прывет яму ад усіх нас.

*11/V-43*

## Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (далей — ДзЛММЯК), асабісты архіў Якуба Коласа, вопіс 94, КП-13793/Аа-4992.

Ліст дасланы з Ташкента ў Маскву.

*Эзрас Асратавіч Асрацян* — Асрацян Эзрас Асратавіч (1903–1981), расейскі вучоны, фізіёлаг.

*Віктару Іванавічу* — Шэмпель Віктар Іванавіч (1908–1975), беларускі вучоны ў галіне аграхіміі. У 1942–1946 гг. вучоны сакратар Прэзідыума АН Беларусі.

*Карцоўнік* — малодшы навуковы супрацоўнік хімічнай групы АН БССР.

*Малёнку* — Малёнак М.М., гл. каментарый да № 20.

*Каменскім* — сям’я роднага брата жонкі Якуба Коласа Каменскага Міхаіла Дзмітрыевіча, пражывалі ў Клязьме пад Масквой.

*Боня* — Козак Баніфацый Іосіфавіч (1914–1951), знаёмы сям'і Якуба Коласа, сябар Міцкевіча Д.К. з 1929 г. Афіцэр Савецкай Арміі.

*Віцька* — Філіповіч Віталь Усцінавіч (1914–1991), знаёмы сям'і Якуба Коласа, сябар Міцкевіча Д.К. з 1929 г. У Менску скончыў 25-ю чыгуначную школу імя Чарвякова, пасля вучыўся ў хімпрафшколе, дзе пазнаёміўся з Міцкевічам Д.К. Скончыў Ленінградскую ваенную электратэхнічную Акадэмію. Ваенны інжынер. Удзельнік белафінскай, Вялікай Айчыннай вайны, баёў з японскімі захопнікамі.

*ад імя Ізі* — Флакс Ізраіль Пятровіч (1914–1985), знаёмы сям'і Якуба Коласа, сябар Міцкевіча Д.К. з 1929 г. Інжынер, працаваў на абаронным заводзе пад Масквой, які эвакуіраваўся ў Ташкент. Пасля вайны працаваў у Ленінградскім фізіка-тэхнічным інстытуце імя А.Ф. Іофэ.

*Жэбракам* — Жэбрак Антон Раманавіч (1901–1965), батанік, генетык, селекцыянер, грамадскі дзеяч. Прэзідэнт АН БССР у 1947 г.

*Барыс Ганкевіч* — Ганкевіч Барыс, знаёмы Міцкевіча Д.К.

*Канстанціну Васільевічу* — Гораў Канстанцін Васілевіч (1904–1988), беларускі вучоны ў галіне металазнаўства. Прэзідэнт АН БССР у 1938–1947 гг.

*...Фелікс* — Лагута Х.М., гл. каментарый да № 12.

## № 30

## Ліст Міцкевіча Д.К. да Якуба Коласа, Міцкевіч М.Д. і Міцкевіча М.К. ад 18–19.07.1944

*Мінск 18/VII 1944 г.*

Дарагія тата, мама і Міхась!

Сёння Галіна Александровіч вылятае ў Маскву і я, карыстаючыся гэтым, пасылаю пісьмо. Тэлеграмы ў Маскву ідуць толькі ўрадавыя, а пісьмы па пошце могуць прыйсці не скора.

Як я выбіраўся з Масквы (з Хімкінскага аэрадрому), вы ўжо, напэўна, ведаеце ад Бонькі. Далей шло лепш. У Кубінке ў Емельянава (нашага пілота) знайшоўся добры знаёмы — наш зямляк, самалёт заправілі гаручым і мы выляцелі. У Смаленску таксама ўдалося хутка заправіцца гаручым, і самалёт узяў курс на Мінск. Нас папярэдзілі, што ў лясах яшчэ ёсць групы немцаў, і пагэтаму ўвесь час мы ляцелі над аўтастрадай і палатном чыгункі. Ад Оршы да Мінска чыгунка двухкаляёвая і па ёй ужо ходзяць цягнікі. Аўтастрада пакрыта асфальтам. З самалёта добра відаць месцы разгрома нямецкіх войск. У многіх месцах ляжаць разбітыя нямецкія танкі, машыны, гарматы. Вельмі многа варонак ад бомб. Відаць, ім дасталося ад нашай авіяцыі.

У 21 г. мы былі каля Мінска. З паветра відаць спаленыя будынкі горада. У раёне Выстаўкі ўцалелі з буйных будынкаў Дом друку і клінічны гарадок, Акадэмія (і хімічны корпус), Політэхнічны інстытут — спалены. Яшчэ быў відаць дым дагараючых будынкаў. У 21 г. 15 хв. мы селі на аэрадроме каля Койданаўскага тракту. Ужо цямнела, і мы рашылі пераначаваць у гэтым раёне. Гэты раён, як і большасці акраін Мінска, цэлы. Мы зайшлі ў адзін з дамоў па Слонімскай вул. Раптам мяне аклікаюць з дому насупраць. Аказваецца, гэта была Оля Пужэвіч. Яна і яе сястра Лёля жывуць насупраць. Таня Пужэвіч і яе маці жывуць непадалёку па Красівай вул., 25. Я яшчэ там не быў. Стары Пужэвіч ужо памёр.

Назаўтра Ахрэм, Емельянаў і я пайшлі на іпадром. Там быў агульнагарадскі мітынг і парад партызан Мінскай вобласці. Многа тысяч партызан прайшло каля трыбуны. У адной з калон я ўбачыў Жэню Канапліна. Ён зараз працуе ў Мінскім абкоме камсамола. Сустрэў я многа другіх знаёмых — праф. Асіпенка, Шуру Карсунскага. Усе Карсунскія

жывы. Я вечарам быў у іх і пераначаваў там. Жывуць яны па Камароўскай вуліцы, 40. На іпадроме бачыў мастакоў — абодвух Ціхановічаў (адзін з іх — Жэня — працаваў на пабудове нашага дома), сына Волкава і др. Усе яны жылі гэтыя годы ў Мінску. Бачыў капітана Крылова — мужа Олі Мурач. Ён прыехаў з-пад Беластока (8 км). Усе Мурачы жывы. Іх дом у Тальцы цэлы, хаця Талька ў значнай ступені разбурана. Ад знаёмай даведаўся, што жывы Шапялевічы (адрас: Крапоткіна, 70). Толькі малодшую сястру Тасі — Юлю — расстралялі паліцэйскія недзе ў раёне. Бачыў Міцьку Паўлава, з якім вучыўся ў сямігодцы. Вечарам быў у Філіповіча. Іх дом цэлы. Бацька Віцькі памёр 8/III 43 г. Дома жывуць маці — Маргарыта Феліксаўна, жонка брата Віцькі — Вані — Кіра з дачкой Рыммай і маці Кіры.

Уся вуліца К. Лібкнехта цэла, за выключэннем каменных будынкаў каля переезда. 4/VII, праз дзень пасля вызвалення Мінска горад вельмі сільна бамбілі немцы. Усю ноч праз горад праходзілі нашы войскі, немцы пакінулі многа складаў, і пагэтаму была бамбёжка. Асабліва дасталося Фрунзенскаму пасёлку, Пуліхавай слабадзе і раёну, дзе мы жылі (хаця там зараз суцэльныя агароды). Пералічыць тое, што разбурана, вельмі трудна, куды лягчэй сказаць пра тое, што засталося цэлым. Больш падрабязна раскажу аб гэтым, калі прыеду ў Маскву. Наш раён поўнасцю знішчылі. Засталося толькі некалькі дамоў па Канюшанай вуліцы (там, дзе жыў Серада). На нашым вучастку няма ні аднаго дрэва, ні аднаго будынка. Няма і дуба, які быў пасаджаны табой, тата. Гэты раён горада — ад Пуліхавай слабады да госпіталя на гары (каля былога дома Фалевічаў) і ад гарадскога сада да Ваенных могілак і Камароўкі — прадстаўляе сабой роўнае месца. Ні аднаго дрэва, ні аднаго плота. Усё засеяна бульбай і другімі агароднымі культурамі. Толькі высяцца шкілеты

нешматлікіх каменных будынкаў. Сустрэў Тарановіча з жонкай і Галяй. Галя — капітан медыц.[ынскай] службы — прыехала з 1-га Белар.[ускага] фронта. Іра працуе ў Невелі ў госпіталі. Сын іх загінуў у партызанскім атрадзе.

17-га раніцай пачаў абход знаёмых і разноску пісем. Зайшоў к Барташэвічам (знаёмыя Прыляжаевых). Хата іх цэлая, усе жывы. Малодшую дачку немцы ўгналі.

Зайшоў на завод "Беларусь". Завод цэлы. Там працуе жонка Бонькі — Рая. Яна жыве па Старажоўскай вул., 26. Сын ужо падрос і добра выглядае. Бацька Бонькі жыве ў сваім доме. Маці яго і сястра паехалі раней на вёску (пад Смаргонь). З нецярпеннем чакаюць яго прыезда. Рая ўжо атрымала пісьмо ад Бонькі.

Учора днём зайшлі (я і Маркавец) да Багіно. Маці вельмі абрадавалася вестцы, што Жорж і Люся жывы і здаровы. Дом іх спалілі немцы перад адходам. Яна жыве ў суседнім доме (адрас — стары). Яна сказала, што сястра і маці Толіка Лавыша скарэй усяго загінулі ў час бамбёжкі ў 1941 г. Відаць, згарэлі жывымі. Ідучы ад Багіно, мяне аклікнуў нейкі хлопец. Гэта аказаўся Пеця Лагута — брат Фелікса. Ён быў звязаны з партызанамі, зараз працуе ў архіве НКВД. Жыве ён на 2-й шостай лініі, дом 13, кв. 6. Паспеў жаніцца. Мы пайшлі з ім да Фалевічаў. Яны зараз жывуць па вул. Герцэна, 1. Жоржа немцы арыштавалі ў маі мінулага года. Ён прасядзеў 4 месяцы ў турме, прахварэў там сыпным тыфам. Далейшы лёс яго невядомы. Па некаторым чуткам яго адправілі ў лагер.

Аб Эміліі Осіпаўне яшчэ дакладна не знаю. Пужэвічы гаварылі, што яна, Таня і Геначка жылі ў Мінску каля радыёзавода, пасля на Фрунзенскім пасёлку. Я быў на Фрунзенскім пасёлку і даведаўся ад адной жанчыны, што Го[нрзб] працаваў на радыёзаводзе і ўсе яны выехалі з

немцамі. А бацька Фалевіча казаў, што Э[мілія] О[сіпаўна] паехала ў вёску. Сястра Ахрэма жыве ў Мінску, але я пакуль што не знайшоў яе.

19/VII. Пісьма не ўдалося адправіць — не знайшоў Галіны. Учора прыляцела Купаліха. Сёння я зайшоў да Шапялевічаў. Застаў дома толькі Мар. Нік. Зараз знаходжуся ў Чэкалінскіх. Яны жывуць на старым месцы. Дом згарэў. Пабудавалі нейкі хлявок і жывуць. Трымаюць карову і пчолы. Ёсць агарод. Галіна выйшла замуж за Владамірскага і жыве ў раёне Юбілейнай плошчы. Вязовіча і Зубковіча арыштавалі за некалькі дзён да вызвалення Мінска. Зубковіча, відаць, расстралялі. Наогул, вельмі многія жыхары знішчаны. У мінулым годзе расстралялі Мішку Смушковіча і некалькі студэнтаў геафака. Учора з Горавым быў у Канапліна ў абкоме камсамола. Перадаваў прывет Ніне і ўсім вам. Прывет таксама шле Канстанцін Васільевіч.

Я жыву ў добрых умовах, ёсць сталоўка і можна снедаць і абедаць у дзесяткаў знаёмых. Не знаю, колькі дзён прыйдзецца тут быць. Учора хадзілі па гораду — шукалі памяшканне для Акадэміі. Акадэмія Навук, відаць, будзе размяшчацца ў былым інтэрнаце БДУ па Маскоўскай вул. (пасля там жылі работнікі радыёзавода). Ва ўніверсітэцкім гарадку ацалелі толькі адзін корпус Медінстытута (дзе быў Малёнак) і корпус фізмата. Карпусы хімфака і біяфака немцы спалілі перад адыходам.

Дом Воўкі згарэў, згарэў і ўвесь раён. Ацалеў толькі чырвоны цагляны 3-х-павярховы дом каля дому, дзе жыў Ігнацій Юр'евіч. Я нават не магу ўстанавіць месца, дзе быў дом Воўкі. Усе сады ў гэтых месцах (як і ў нашым раёне) спалены і высечаны. Няма ні аднаго плота. Узарваны мост праз Свіслач па Савецкай вуліцы. Згарэў у 1941 г. мост к Гарадскому саду. Астатнія масты цэлы.

(*На гэтым ліст абрываецца.*)

## Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў сямейным архіве Міцкевіча Д.К.

Ліст напісаны алоўкам; верагодна, адпраўлены адрасатам не быў.

*Галіна Александровіч* — асоба не высветлена.

*ад Боñькі* — Козак Б.І., гл. каментарый да № 29.

*У Кубінке* — Кубінка — пасёлак гарадскога тыпу і чыгуначная станцыя ў 63 км на захад ад Масквы.

*У раёне Выстаўкі* — сучасны раён бульвара Талбухіна ў Менску.

*клінічны гарадок* — 1-я клінічная бальніца ў Менску.

*Койданаўскага тракту* — раён сучаснай вул. Чкалава ў Менску.

*Оля, Лёля, Таня Пужэвічы* — сёстры Пужэвіч — суседзі сям'і Якуба Коласа па даваенным Менску. Пужэвіч Вольга Андрэеўна (1921–1992?), падчас вайны была сувязной партызанскага атрада; Пужэвіч Элеанора (Лёля) Андрэеўна (1908–?); Пужэвіч Таццяна Андрэеўна (1915–2011), да вайны скончыла тэхнікум сувязі, потым працавала тэхнікам на тэлефонных станцыях. Маці — Пужэвіч Алена Ігнатаўна (1885–1961?). Бацька — Пужэвіч Андрэй Фёдаравіч (1879–1943).

*Ахрэм* — Ахрэм А.А., гл. каментарый да № 17. У Менск прыляцелі на самалёце разам.

*на іпадром* — іпадром знаходзіўся ў раёне Кашарскай плошчы, 16 ліпеня 1944 г. на іпадроме адбыўся мітынг і парад партызан. Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца парк 40-годдзя Кастрычніка (з 1957 г.).

*Жэню Канапліна* — Канаплін Яўген Мікалаевіч (1917–1980), з верасня 1943 па ліпень 1944 г. сакратар Менскага падпольнага абкама ЛКСМБ.

*праф. Асіпенка* — Асіпенка Фама Георгіевіч (1894–1970), беларускі вучоны, хімік. Прафесар, прарэктар БДУ, загадчык кафедры арганічнай хіміі ў 1941, 1947–1951 гг.

*Шуру Карсунскага* — Карсунскі Аляксандр Міхайлавіч, яго маці і сястра жылі на сядзібе Русецкага ў Менску ў 1920-я гг., былі знаёмы з сям'ёй Якуба Коласа.

*абодвух Ціхановічаў* — Ціхановіч Яўген Мікалаевіч (1911–2005), беларускі мастак. Ціхановіч Валянцін Мікалаевіч (1909–1978), беларускі мастак, графік.

*сына Волкава* — Волкаў Анатоль Валянцінавіч (1908–1985), беларускі мастак, графік, плакатыст, жывапісец. Сын мастака Волкава Валянціна Віктаравіча (1881–1964).

*капітана Крылова* — Крылоў Аляксей Мікалаевіч (1905–1959), муж Мурач Марыі Ігнатаўны (1910–1985). Пасля вайны намеснік кіраўніка Менскага аблваенкамата. Міцкевіч Д.К. памылкова назваў Крылова А.М. мужам Вольгі Мурач.

*Олі Мурач* — Смірнова (дзяв. Мурач) Вольга Ігнатаўна (1912–1987).

*Усе Мурачы жывы* — Сям'я Мурачаў Ігната Іванавіча (1883–1973) і Соф'і Вікенцеўны (1886–1977) жыла ў в. Талька на Пухавіччыне. Мурачы былі знаёмы з сям'ёй Якуба Коласа з пачатку 1930-х гг. Мурач Аляксандр Ігнатавіч (1914–1991) сябраваў з сынамі Якуба Коласа Данілам і Юркам.

*у Тальцы* — Талька — вёска і чыгуначны пункт у Пухавіцкім раёне Менскай вобласці, дзе адпачываў Якуб Колас з сям'ёй летам у 1933 і 1934 гг.

*Шапялевічы* — Шапялевічы былі суседзямі сям'і Якуба Коласа па даваенным Менску. Шапялевіч Юлія Вячаславаўна была расстраляна фашыстамі ў 1943 г. Шапялевіч Таісія Вячаславаўна бывала ў доме Коласа пасля вайны. Шапялевіч Мар. Нік. — іх маці.

*Міцьку Паўлава* — Паўлаў Зміцер Рыгоравіч, аднакласнік Міцкевіча Д.К. у 1923–1928 гг.

*у Філіповіча* — бацькі́ Віталя Усцінавіча Філіповіча: Філіповіч Усцін Якаўлевіч (?–1943), Філіповіч Маргарыта Феліксаўна (?–1954?). Брат Філіповіч Іван Усцінавіч (1911–1993).

*Фрунзенскаму пасёлку* — былы пасёлак Козырава, стаў называцца Фрунзенскім пасёлкам у 1935 г., раён цяперашняй вул. Гогалеўскай.

*Пуліхавай слабадзе* — раён сучаснай вуліцы Пуліхава.

*і раёну, дзе мы жылі* — раён вуліцы Фрунзэ і Вайсковага завулка, цяпер часткова тэрыторыя дзіцячага парку імя М. Горкага.

*па Канюшанай вуліцы* — Канюшаная вуліца існавала да 1953 г., зараз гэта алея ў дзіцячым парку імя М. Горкага, якая ідзе паралельна вуліцы Фрунзэ.

*Серада* — Серада Іван Мікітавіч (1879–1943?), беларускі грамадскі дзеяч, выкладчык Белпедтэхнікума, дырэктар ветэрынарна-заатэхнічнага тэхнікума ў 1923–1924 гг.

*Да госпіталя на гары* — ваенны шпіталь, зараз дом на рагу вул. Фрунзэ і Першамайскай захаваўся ў перабудаваным выглядзе.

*ад гарадскога сада* — дзіцячы парк імя М. Горкага.

*Сустрэў Тарановіча з жонкай і Галяй… Іра працуе… Сын іх загінуў* — Тарановічы былі суседзямі сям'і Якуба Коласа па даваеннай сядзібе, жылі па вул. Шпітальнай (Фрунзэ). Тарановіч Леанід Яўстаф'евіч (1886–1975), біяхімік, у 1935–1941 гг. загадваў кафедрай біялагічнай хіміі Менскага медінстытута. Жонка — Тарановіч Аляксандра Іванаўна (1889–1973). Дочкі-блізняты — Тарановіч Галіна Леанідаўна (1916–1992), Тарановіч Ірына Леанідаўна (1916–1990). Сын — Тарановіч Леанід Леанідавіч (1923–1943).

*Барташэвічам (знаёмыя Прыляжаевых)* — Барташэвічы — асобы не высветлены. Прыляжаеў Мікалай Аляксандравіч (1877–1944), расейскі і беларускі вучоны ў галіне арганічнай хіміі, член-карэспандэнт АН РСФСР (1933), акадэмік АН БССР (1940), прафесар БДУ (1924–1934), затым БПІ (1934–1941), у яго вучыўся Міцкевіч Д.К. Прыляжаеў М.А. знаходзіўся ў акупіраваным Менску з дачкой Ірынай на працягу двух гадоў, быў вывезены ў партызанскую зону, а пасля перапраўлены самалётам у савецкі тыл. Памёр 26.05.1944 г., пахаваны ў Маскве. Другая дачка Прыляжаева М.А. — Алена — вучылася на хімфаку БДУ на адным курсе з Міцкевічам Д.К., падчас вайны знаходзілася ў эвакуацыі і ліставалася з ім.

*на завод «Беларусь»* — цяпер піўзавод «Аліварыя».

*жонка Бонькі Рая* — магчыма, Салодкіна Раіса Антонаўна.

*Сын ужо падрос* — Козак Валеры Баніфацыевіч.

*Маркавец* — Маркавец Аляксей Фёдаравіч (1909–?), біёлаг, энтамолаг. Пасля дэмабілізацыі з арміі па хваробе з 1942 г. супрацоўнік АН БССР.

*Багіно* — Багіно Ксенія Іванаўна (1885–1974), настаўніца. Дом сям'і Багіно знаходзіўся ў Менску ў раёне цяперашніх вуліц Карла Маркса і Янкі Купалы. Па лісту зразумела, што Міцкевіч Д.К. добра ведаў сям'ю Багіно.

*Жорж і Люся* — Багіно Георгій Канстанцінавіч (1918–1979), выдатны музыкант і настройшчык музычных інструментаў, скончыў Маскоўскую кансерваторыю. У пасляваенны час працаваў з С. Рыхтэрам, Э. Гілельсам. Багіно Людміла Канстанцінаўна (1923–1995), у той час вучылася на гістфаку Маскоўскага ўніверсітэта. Яшчэ да вайны яны вымушаны былі пераехаць у Маскву, паколькі іх бацька Багіно Канстанцін Станіслававіч быў рэпрэсіраваны ў 1933 г. і сасланы ў Варкуту, а маці — Багіно К.І. — у г. Злынка Бранскай вобласці (50 км за Гомелем). Перад вайной, у 1940 г. смяротна хворага Багіно К.С. выпусцілі з лагера, ён прыехаў у Злынку да жонкі, дзеці засталіся вучыцца ў Маскве. На пачатку вайны Людміла гасцявала ў бацькоў, яе паспелі адправіць у Маскву апошнім цягніком. Багіно К.І. і Багіно К.С. вырашылі вярнуцца ў Менск, па дарозе Канстанцін Станіслававіч памёр (напрыканцы чэрвеня 1941 г.).

*сястра і маці Толіка Лавыша* — Лавыш Анатоль Іосіфавіч (1913–2004), сябар Міцкевіча Д.К. з 1929 г., гл. раздзел V. Сястра — Алексятовіч (Лавыш) Ларыса Іосіфаўна (1917–1941); маці — Лавыш Лізавета Іосіфаўна (?–1941). Сястра і маці Лавыша А.І. хаваліся ў пограбе дома па вул. Слонімскай, дзе і загінулі падчас бамбёжкі ў першыя дні вайны. Муж сястры — Алексятовіч Георгій — загінуў на фронце.

*Пеця Лагута* — Лагута Пётр Міхайлавіч, родны брат Лагуты Х.М.

*да Фалевічаў… Жоржа немцы арыштавалі* — Фалевіч Георгій Георгіевіч (1915–1942), да вайны вучыўся на хімфаку БДУ,

сябар Міцкевіча Д.К. па хімпрафшколе. Удзельнік Менскага падполля, загадваў гарадской аптэкай № 1. Арыштаваны, сядзеў у Менскай турме чатыры месяцы. Памёр ад катаванняў 15.09.1942.

*Аб Эміліі Осіпаўне* — Шостак Эмілія Восіпаўна, хатняя гаспадыня ў даваенным доме Коласа. *Таня і Геначка* — Пуйман Таццяна і яе сын, пляменніца і ўнучаты пляменнік Шостак Э.В.

*сястра Ахрэма* — Ахрэм Надзея Андрэеўна (1916–1970).

*Купаліха* — Луцэвіч Уладзіслава Францаўна, жонка Янкі Купалы. Гл. раздзел V.

*Чэкалінскіх* — Сям'я Чакалінскіх жыла на Бранявым завулку. Чакалінская Наталля Іванаўна (1897–1978), батанік, знаёмая сям'і Якуба Коласа з 1921 г., працавала ў акадэмічным Батанічным садзе. Яе дочкі: Уладамірская (Чакалінская) Галіна Іванаўна (1922–2002), Чакалінская-Караневіч Ірма Іванаўна (1925–2012), Чакалінская Юлія Іванаўна (1927–2002), Чакалінская Наталля (Нэтка) Іванаўна (1929–2008). Сын: Чакалінскі Багдан Іванавіч (1921–1942), радавы, загінуў у баі 29.01.1942, пахаваны ў в. Палі Мараўскага раёна Наўгародскай вобласці, РФ.

*Вязовіча* — Вязовіч Анастас Васілевіч (?–1944), заолаг, скончыў БДУ у 1930 г., да вайны — асістэнт БДУ і дырэктар музея заалогіі ўніверсітэта. Пакараны смерцю фашыстамі перад вызваленнем Менска.

*Зубковіча* — Зубковіч Яўген Міхайлавіч (1887–1944), дацэнт біяфака БДУ. Арыштаваны ў чэрвені 1944 г. Пакараны смерцю фашыстамі перад вызваленнем Менска 29.06.1944 у Трасцянцы.

*Мішку Смушковіча* — Смушковіч Міхаіл (?–1943), сябар Міцкевіча Д.К., расстраляны фашыстамі.

*Горавым* — Гораў К.В., гл. каментарый да № 29.

*Ніне* — Каменская Ніна Міхайлаўна (1921–1999), родная пляменніца жонкі Якуба Коласа. Каменскія жылі ў Клязьме пад Масквой.

*Малёнак* — Малёнак М.М., гл. каментарый да № 20.

*Воўкі* — Петухоўскі У.І., гл. каментарый да № 8.

*Ігнацій Юр'евіч* — Міцкевіч Ігнат Юр'евіч (1876–1949), дваюрадны дзядзька і сябар маленства Якуба Коласа, настаў-

нік, перад вайной пражываў ва ўніверсітэцкім доме ў раёне Беларускай вуліцы.

*мост праз Свіслач па Савецкай вул.* — цяпер мост праз Свіслач па пр-це Незалежнасці.

*мост к Гарадскому саду* — цяпер мост праз Свіслач з вул. Янкі Купалы ў дзіцячы парк імя М. Горкага.

## № 31

## Ліст Міцкевіча Д.К. да Якуба Коласа ад 07.06.1955

*Мінск 7/VI 1955 г.*

Дарагі тата!

Учора атрымалі твой ліст. Мне раней званіў Максім, гаварыў, што ён таксама атрымаў ад цябе ліст. Відаць, павышаны крывяны ціск тлумачыцца сапраўды дрэнным надвор’ем і пераменай абстаноўкі. Але наперадзе ёсць яшчэ час, надвор’е зараз змянілась у лепшы бок і я дужа ўпэўнены, што ўсё наладзіцца. У нас дома ўсё ў парадку, усе жывы, здаровы. Некалькі дзён, пасля халадоў, стаіць добрае надвор’е — цёплыя сонечныя дні і цёплыя ночы. Нарэшце расквітнеў сад. Цвету вельмі многа. Многа лётае пчол. Шкоднікаў на дрэвах амаль няма — відаць, двухразовае апырскванне дапамагло. Калі так справа будзе ісці і далей, у нас будзе вялікі ўраджай. Асабліва многа кветак на яблынях і грушах. Высадзілі многа кветак (геаргіны і др.). Пасадзілі памідоры і капусту. Адзін з дубоў (той, які не скідае на зіму ліству) пышна красуе — відаць, будзе многа жалудоў. На другім дубе (верх якога быў зламаны снегам у маі 1952 г.) звіла гняздо маленькая птушка.

Грошы, каму належала выплаціць, я выдаў своечасова.

У Акадэміі многіх апанавала «дачная хвароба». У раёне Крыжоўкі Акадэміі адведзен участак у лесе ў 300–400 метрах ад берага будучага «Мінскага мора». Будуюць дачы там Ерафееў, Сеўчанка, Леонаў, Бялькевіч і другія. Усіх паспеў апярэдзіць Маргунскі, у якога будаўніцтва скора будзе закончана.

Я туды ездзіў у нядзелю 29 мая. Лес мне не вельмі спадабаўся, хоць ён і сасновы, але ёсць і елка (5–10 %); лес трохі заросшы ўнізе я[д]лоўцам, верасам, чарнікай і г. д. Лес і месца значна лепшыя, чым у Каралішчавічах, але не тое, што, напрыклад, у Балачанцы. Мне гаварыў М.Г. Шыраеў, што на другім беразе возера (прыкладна паміж Ждановічамі і Сёмкавым Гарадком) ёсць лепшыя мясціны, якія да таго ж будуць у першую чаргу добраўпарадкаваны (пракладка дарог, электрыфікацыя і г. д.). Днямі думаю туды з'ездзіць, паглядзець.

У нядзелю 5/VI ездзіў з цёткай Міхалінай у Мікалаўшчыну. Быў там на могілках, прыкінуў размеры агарожы. Зашлі спачатку да Зімка, пасля да цёткі Міхаліны. Зімок пасля лячэння ў Мінску адчувае сябе значна лепей. Патроху гоніць самагон (як яны зараз называюць — сельгаснапітак) — цяпер гэта дазваляецца.

Міхась і Зарына ездзілі ў раён Радашковіч, нагледзелі там нядрэннае, па іх думцы, месца і хату, якую можна зняць на гэта лета.

Прыехаў з Кіславодску Броўка. Званіў мне, перадаваў табе прывітанне. 25 чэрвеня думае адзначыць сваё пяцідзесяцігоддзе, вельмі хацеў бы, каб і ты быў. Я яму сказаў, што ты, відаць, пападзеш да яго, як кажуць, з карабля на бал — неўзабаве пасля прыезду з Барвіхі. Глебка днямі выехаў за акіян — у Сан-Францыска на 10-годдзе ААН.

3 чэрвеня ў Вільні адзначалася 80-годдзе кампазітара Галкоўскага (К. Галкаўскаса). Табе прыслалі запрашальны білет і мы параіліся з Максімам і паслалі тэлеграму ад твайго імя. Сёння Галкаўскас прыслаў ліст з падзякай. Перасылаю табе пісьмо з выдавецтва «Советский Писатель» — для інфармацыі. Пісем за гэты час прышло не вельмі многа. Асабліва важных, на якія трэба адпісваць, — не было. Прыслала ліст з Хімак Калабанава — там ёсць фотакопіі тваіх лістоў за 1935 і 1946 гады. Вось караценька і ўсё. Многія знаёмыя прасілі перадаць табе прывітанне.

Дарагі тата! Я і ўсе нашы жадаем табе добра адпачыць, набрацца сіл і добрага здароўя, прыехаць у Мінск бадзёрым, памаладзеўшым.

Моцна цалую.

*Даніла.*

## Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў ДзЛММЯК: асабісты архіў паэта, вопіс 42, КП-14563/Аа-1309.

Ліст дасланы з Менска ў Барвіху Маскоўскай вобласці, у клінічны санаторый «Барвіха».

*званіў Максім* — Максім Лужанін, гл. раздзел V.

*Ерафееў* — Ерафееў Барыс Васілевіч (1909–1995), беларускі вучоны, фізікахімік.

*Сеўчанка* — Сеўчанка Антон Нічыпаравіч (1903–1978), беларускі вучоны, фізік.

*Леонаў* — Лявонаў В.А., гл. каментарый да № 12.

*Бялькевіч* — Бялькевіч Пётр Іларыёнавіч (1907–1992), беларускі вучоны ў галіне хіміі торфу.

*Маргунскі* — Маргунскі Сцяпан Парфёнавіч (1912–1978), беларускі вучоны, правазнаўца.

*Шыраеў М.Г.* — Шыраеў Міхаіл Рыгоравіч (1912–1963), у той час памочнік першага сакратара ЦК КПБ Патолічава М.С.

*з цёткай Міхалінай* — Міцкевіч Міхаліна Міхайлаўна (1887–1977), родная сястра Я. Коласа, некаторы час жыла ў доме Коласа ў Менску.

*да Зімка* — Белы Міхаіл Казіміравіч (Зімок — вясковая мянушка) (1886–1966), швагер Я. Коласа, муж роднай сястры паэта Юзэфы Міхайлаўны Белай.

*Міхась* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*Зарына* — Міцкевіч З.У., гл. каментарый да № 21.

*ездзілі ў раён Радашковіч* — маецца на ўвазе в. Удранка Радашковіцкага с/с (у той час — у Маладзечанскай вобласці), дзе ўлетку 1955 г. адпачывалі ўнукі Якуба Коласа — Сяргей, Марыя, Андрэй.

*Броўка* — Броўка Пятрусь (Пётр) Усцінавіч (1905–1980), беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1962). У 1948–1967 гг. старшыня праўлення СП БССР.

*Глебка* — Пятро Глебка, гл. каментарый да № 12.

*Галкоўскага* — Галкоўскі (Галкаўскас) Канстанцін Міхайлавіч (1875–1963), літоўскі кампазітар, педагог, дырыжор і грамадскі дзеяч. Народны артыст Літвы (1955).

*Калабанава* — Калабанава Ніна Міхайлаўна, настаўніца СШ № 1 г. Хімкі Маскоўскай вобласці. Родная цётка і захавальніца музычнай спадчыны кампазітара Гайгеравай Варвары Адрыянаўны (1903–1944).

## № 32

## Ліст Міцкевіча Д.К. да Якуба Коласа ад 28.06.1956

*Мінск 28/ VI 1956 г.*

Дарагі тата!

Учора гаварыў з табой па тэлефону, але дакладна не дачуў — як жа тваё здароўе? Ці ёсць значнае паляпшэнне стану рук. Як наогул тваё самапачуванне. Што гавораць і што робяць дактары?

У нас дома ўсё ў парадку. Усе жывы, здаровы. Праз дзень ездзім у Палачанку наведваць дзяцей. Усе яны там добра выглядаюць, вясёлыя і нават не імкнуцца ехаць у Мінск. Былі там мы і сёння. Хадзілі ў лес па грыбы. Набралі цэлы кош свінарак — другіх грыбоў яшчэ няма. Паміж іншым, тутэйшы калгас шырока займаецца зборам каменя са сваіх палёў. Каменне прадае вайсковым будаўнікам — адначасова людзі ачышчаюць свае палі і атрымліваюць за гэта грошы. За якіх-небудзь тры гадзіны Дзіма налічыў 18 цяжкіх грузавікоў, якія везлі каменне.

Цяпер аб надвор'і. У нас увесь час стаялі вельмі цёплыя дні і ночы. Кожны дзень праходзілі навальніцы з буйнымі дажджамі. У некаторых раёнах навальніцы былі асабліва моцнымі — у раёне Узды, Копыля і другіх месцах былі нават ахвяры. Толькі апошнія дні тры пахаладала — тэмпература знізілася да 15–18 градусаў. Усё расце надзвычай магутна. Я, як вярнуўся з Масквы, проста не пазнаў нашага вучастка. Усё вельмі разраслося — проста як джунглі ў Індыі. Віды на ўраджай добрыя. У добрым стане жыта, добра расце і ярына. Асабліва добра растуць лён і бульба. Праўда, не адстае ў некаторых месцах і пустазелле. Сенажаці таксама вельмі багатыя. У нас, у садзе, ужо пакасілі і прыбралі сена. Ужо з тыдзень збіраем клубніку, якой будзе

даволі многа. Паспяваюць і вішні. Чарэшань, праўда, зусім не будзе — кветкавыя почкі пабіты маразамі.

Учора званіў я Варко. Ён мне сказаў, што ўжо на месцы адліваюцца бетонныя слупы і адпушчан лес. Казаў, што ўсё будзе зроблена ў тэрмін.

Сёння Н.[ікалай] С.[ямёнавіч] паехаў у Брэсцкую вобласць на некалькі дзён — азнаёміцца са становішчам на месцы.

Гэтыя дні Максім Лужанін быў у Мінску. Займаўся пытаннем набыцця аўтамашыны («Масквіча» новай канструкцыі). Здаецца, сёння ён паехаў на Нарач. Наколькі я яго зразумеў, ён у Маскву ехаць не вельмі схілен — спраў у яго там ніякіх няма. Аднак па твайму выкліку ён паедзе. Калі ты, тата, хочаш — магу паехаць замест Максіма і я. Аднак рашай гэта сам. Як табе лепей, няхай так і будзе. Калі што надумаеш — напішы мне.

Усе мы шлём табе пажаданні канчаткова паправіцца і пазбавіцца ўсіх хвароб.

Моцна цябе цалую і абдымаю

*Даніла.*
*28/ VI 56.*

P.S. Перадай шчырае прывітанне Аляксею Яфімавічу Кляшчову і Еўлампію Нікалаевічу Пасыпкіну.

Ніякіх важных або цікавых лістоў да цябе за гэты час не было — пагэтаму няма чаго і перасылаць.

Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў ДзЛММЯК: асабісты архіў паэта, вопіс 53, КП-13654/Аа-1590.

Ліст дасланы з Менска, пр-т Сталіна, 108-а, у Барвіху Маскоўскай вобласці, у клінічны санаторый «Барвіха».

*ездзім у Палачанку* — в. Палачанка ў Ракаўскім с/с (у той час — у Маладзечанскай вобласці), дзе ўлетку 1956 г. адпачывалі ўнукі Якуба Коласа — Сяргей, Марыя, Андрэй.

*Дзіма* — Куксік Дзмітрый, шафёр Якуба Коласа ў 1955–1956 гг.

*Варко* — асоба не высветлена.

*Н.С.* — Патолічаў Мікалай Сямёнавіч (1908–1989), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1950–1956 гг. першы сакратар ЦК КПБ.

*Аляксею Яфімавічу Кляшчову* — Кляшчоў Аляксей Яўхімавіч (1905–1968), дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР, Старшыня Савета Міністраў БССР.

*Еўлампію Нікалаевічу Пасыпкіну* — Пасыпкін Еўлампій Мікалаевіч (1893–1956), пастаянны прадстаўнік Савета Міністраў БССР пры Савеце Міністраў СССР.

## № 33

## Ліст Міцкевіча Д.К. да Якуба Коласа ад 29.06.1956

*Мінск 29/ VI 1956 г.*

Дарагі тата!

Хутка пасля таго, як я адправіў табе ліст, да нас прыязджаў М.І. Баскакаў і прывёз ліст ад цябе.

Нядаўна званіў карэспандэнт «Правды» І.І. Зіньковіч, казаў, што «Правда» на днях збіраецца надрукаваць адрывак «Суд» з трылогіі «На ростанях». Работнікі рэдакцыі хацелі ўдакладніць — ці не зьяўляецца настаўніцкі саюз эсэраўскім па характару — бо калі гэта так — «Правда» павінна апусціць словы аб настаўніцкім саюзе. Я перадаў, што ён эсэраўскім не зьяўляўся, меў рэвалюцыйна-дэмакратычны характар, хутчэй больш блізкі да бальшэвіцкага. Калі ты сам хочаш пагаварыць аб гэтым і ўдакладніць — можаш пазваніць у рэдакцыю «Правды» — рэдактару па аддзелу літаратуры і мастацтва — Грыгорыю Іванавічу Владыкіну — яго тэлефон Д-3-11-13.

Можа быць, хто-небудзь з «Правды» пазвоніць ці пад’едзе ў Барвіху — добра не ведаю.

Званіў сёння памочніку Мазурава Крукаву. Ён сказаў мне, што сёння паслаў у Мікалаўшчыну рэферэнта Савета Міністраў Сенкевіча і заўтра дасць мне дакладную справаздачу, што робіцца ў адносінах агарожы.

У нас дома па-ранейшаму ўсё ў парадку. Сёння сарвалі першы гурок з тых, якія садзілі ў тарфяных гаршочках. Надвор’е сёння ўмеранае — ні холадна і ні горача, многа хмар, але без дажджу. Гэта і добра, таму што вільгаці ў глебе вельмі многа, а касіць пара.

Грошы ў доме ёсць, хаця былі і выдаткі: 1200 руб.[лёў] вадаправодчыкам за ўстаноўку новых радыятараў і каля 1200 руб.[лёў] за камплект новых пакрышак і акумулятар для «Пабеды».

Вось і ўсе навіны. Жадаем табе ўсяго найлепшага.

Моцна цалую.

*Даніла.*
*29/ VI 56*

## Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў ДзЛММЯК: асабісты архіў паэта, вопіс 53, КП-13653/Аа-1589.

Ліст дасланы з Менска, пр-т Сталіна, 108-а, кв. 1 у Барвіху Маскоўскай вобласці, у клінічны санаторый «Барвіха».

*М.І. Баскакаў* — Баскакаў Міхаіл Іванавіч (1905–1968), міністр унутраных спраў БССР у 1953–1958 гг.

*І.І. Зіньковіч* — карэспандэнт газеты «Правда».

*Грыгорыю Іванавічу Владыкіну* — Владыкін Рыгор Іванавіч (1909–1983), у той час — рэдактар аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Правда».

…*Мазурава* — Мазураў Кірыла Трафімавіч (1914–1989), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1953–1956 гг. Старшыня Савета Міністраў БССР, з ліпеня 1956 г. першы сакратар ЦК КПБ.

*Крукаву* — памочнік Мазурава К.Т.

*Сенкевіча* — рэферэнт Савета Міністраў БССР.
*Для «Пабеды»* — «Пабеда» — аўтамабіль Я. Коласа.

## № 34

## Ліст Міцкевіча Д.К. да Лойкаў А.М. і М.І. ад 27.06.1957

*Мінск 27/ VI 1957 г.*

Дарагія цётка Лена і Міхаіл Іванавіч!

Даўно ўжо я не бачыў Вас, не ведаю добра, як Вам жывецца. Чуў ад цёткі Міхаліны, што Вы збіраецеся паехаць на радзіму, у Мікалаеўшчыну. Ведаю, што Міхаіл Іванавіч зараз ужо выйшаў на пенсію.

У нас, у доме, у якім мы жывём, будзе створаны літаратурны музей Якуба Коласа. Для нас будуецца жылы дом, у які мы павінны будзем пераехаць, каб было можна адчыніць музей у доме, дзе мы зараз жывём. Зараз летні адпачынак, многія з нашых раз’язджаюцца хто ў Крым, хто ў Маскву. Цётка Міхаліна хоча паехаць да сваіх у Мікалаеўшчыну. Дом у нас вялікі, прасторны. Калі Вы хочаце прыехаць да нас — будзем вельмі рады. Побач з домам маецца вялікі сад, у нас ёсць тэлевізар, радыёпрыёмнікі і другія патрэбныя для сучаснага побыту рэчы. Калі Міхаіл Іванавіч захоча, то я магу падшукаць яму лёгкую для яго гадоў работу — у музеі, дзе я працую дырэктарам. Я прашу мне адпісаць хутчэй, бо скора прыйдзецца запаўняць штаты і г. д. У нас ёсць у доме невялікі пакой і кухня — можа быць, Вам наогул варта жыць тут — прыязджайце і паглядзіце. Калі спадабаецца, то будзеце жыць колькі захочаце.

Хачу паведаміць, што Пастановай Савета Міністраў БССР ад 21 чэрвеня цётцы Лене, як і ўсім другім сёстрам і брату майго бацькі, устаноўлена з 1/VII 57 г. пажыццёвая пенсія ў размеры 200 руб.[лёў] у месяц. Для хутчэйшага

афармлення пенсіённай кніжкі вельмі добра прыехаць да нас хутчэй. Я ўжо забыўся: у якім доме вы жывяце — сваім, ці ў дзяржаўнай кватэры.

Прашу таксама паведаміць, на якой пасадзе і ў якасці каго працаваў у апошнія гады Міхаіл Іванавіч.

Прывітанне Вам ад Міхася, Зарыны, цёткі Міхаліны.

Прыязджайце. Чакаем Вас.

Цалуем Вас крэпка.

*Даніла.*
*27/VI 57 г.*

Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў сямейным архіве Міцкевіча Д.К.

Ліст у канверце, адпраўлены па адрасе: УССР, гор. Горловка, Зелёная улица, д. № 32, квартира 7. Лойко Елене Михайловне.

Адрас адправіцеля: Минск, просп. Сталина 108-а, кв. 1. Д.К. Мицкевичу.

*цётка Лена* — Лойка Алена Міхайлаўна (1893–1980), родная сястра Якуба Коласа. Разам з мужам Лойкам М.І. пасля 1913 года жылі і працавалі ў Данбасе, г. Горлаўка.

*Міхаіл Іванавіч* — Лойка Міхаіл Іванавіч (1887–1982), муж Лойка А.М., працаваў у Горлаўцы на чыгунцы кладаўшчыком.

*цёткі Міхаліны* — Міцкевіч М.М., гл. каментарый да № 31.

*другім сёстрам і брату майго бацькі* — Міцкевіч Міхаліне Міхайлаўне, Белай Юзэфе Міхайлаўне (1891–1964), Бруй Марыі Міхайлаўне (1900–1995), Міцкевічу Іосіфу Міхайлавічу (1895–1980).

*Міхася* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*Зарыны* — Міцкевіч З.У., гл. каментарый да № 21.

## № 35

## Ліст Міцкевіча Д.К. да Міцкевіч А.Ц. ад 12.10.1974 г.

*Боржоми-Ликани*
*12 октября 1974 г.*

Дорогая Аллочка!

Наконец-то я получил сегодня письмо от тебя и Верочки. Вчера получил письмо от Янки Брыля, а сегодня и от Михаила Тихоновича Лынькова. Позвони им по телефону и передай от меня сердечную благодарность за внимание.

Завтра утром уезжает большинство наших земляков. Это Леонид Ильич Гурский (зам. директора Физико-технического Института — там, где работает Михась), Аркадий Павлович Севержицкий — работник Госплана, живёт недалеко от нас — в доме, где цветочный магазин (у входа в Ботанический сад), по Ленинскому проспекту, и бригадир колхоза им. Свердлова Жлобинского района — Владимир Иванович Кравченко с женой — простой, симпатичный человек. Из минчан остаются две дамы, но я их почти не знаю.

Будет скучновато, но уже почти прошла половина срока, а это время как-то протекает быстрее.

Многие отдыхающие жалуются на то, что здесь скучновато. Нет ни магазинов, ни весёлых мест, вроде несвижской «Лилии». Правда, большинство людей здесь страдают различными болезнями, при которых совсем нельзя употреблять ничего спиртного.

А грузины совершенно не те, которых я, например, знал в Цхалтубо в 1955 г. Сейчас в Грузии идёт большая работа по наведению порядка, по борьбе с различными злоупотреблениями, которые раньше были. Почти в каждом

номере республиканской газеты «Заря Востока» приводятся материалы об этом. Многие лица, занимавшие ранее ответственные посты, сняты с работы, исключены из партии и отданы под суд.

Погода до сих пор у нас хорошая. Днём тепло, на небе ни облачка. Утром холодно, но после восхода солнца быстро теплеет. Вечера тоже прохладные. Воздух настолько чистый, что моя рубашка (бежевая, нейлоновая) до сих пор чиста. А ведь я выехал в ней сюда из Минска и ношу каждый день. Раза три надевал светлый костюм. Днём в нём хорошо, но часам к 17 надо одеваться теплее.

Экскурсий пока никаких не было. Дело в том, что подавляющее большинство отдыхающих — грузины, в основном из Тбилиси, и, конечно же, никто из тбилисцев не поедет отсюда на экскурсию в Тбилиси. Может быть, приедут новые больные из России, Украины, Белоруссии и других мест, тогда легче будет куда-нибудь поехать.

Осень чувствуется и здесь, хотя мы находимся в южной части Грузии, недалеко от турецкой границы. Когда я приехал сюда, пожелтевших деревьев было больше, чем у нас в Минске. Горы сейчас необычайно красивы. Они покрыты смешанным лесом — сосны, ели и лиственные деревья разных пород. Сейчас они желтеют, краснеют и на солнце это смотрится очень хорошо. 9 октября после обеда я и наш земляк Кравченко (бригадир колхоза, ему 41 год) поднимались в горы, к развалинам древней крепости. Перешли реку Куру по висячему мосту, вначале был пологий подъём, а потом очень крутой. Поднялись по вертикали на 170 метров. Очень устали, трудновато быллo спускаться. Мне ещё сегодня побаливают мышцы ног (передние, выше колена). Зато оттуда очень красивый вид на Ликани, на наш санаторий, на санатории ВЦСПС, которые не видны от нас, на реку Куру.

Наш лечащий врач — Додо Михайловна Гиуашвили — уезжает в Москву на стажировку. Теперь нас лечит зам.[еститель] главного врача Маргарита Павловна. Назначила мне лечебную гимнастику, но в очень умеренном виде.

И всё-таки изжога беспокоит. Правда, не так, как в первые дни. Тогда я пил по 12–14 стаканов боржоми в день, позавчера совсем не чувствовал изжоги, а вчера к вечеру пришлось выпить 4 стакана боржоми, чтобы всё прошло.

Почти каждый день у нас кино. Есть хороший кинозал в помещении столовой (она также шикарно сделана). Просмотрел фильмы: «Дурман» (болгарский), «Персональное задание» (чехословацкий), «Последний подвиг Камо», «Тройная проверка» (Латвия), «Серенада солнечной долины», «Большая любовь» (французский, комедия), «Привидения в замке Шпессарт» (ФРГ, комедия).

С 3 октября перешёл на ограниченное питание (без хлеба, масла, сахара, полдников, и только три последних дня ел мацони — кислое молоко). Вчера взвешивался, похудел только на 3 кг. Мне кажется, что калорийность блюд здесь выше, чем в Друскениках.

Передавай привет и крепко поцелуй Верочку. Привет Алёне, Андрею, Ире, Любочке, Люсику. Привет Михасю и его семье, тёте Лене, дяде Мише, сотрудникам музея. Крепко целую

*твой Данила.*

Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў сямейным архіве Міцкевіча Д.К.

*Ліст дасланы з Баржомі ў Менск па адрасе:* 220012, Минск-12, Ленинский проспект, 68-б, кв.1. Алевтине Тимофеевне Мицкевич. *Адваротны адрас:* Грузинская ССР, Боржоми-2, Санаторий 4-го Главного управления «Боржоми-Ликани», дача 1, палата 11. Д.К. Мицкевичу.

*Боржоми* — курортны горад і раённы цэнтр у Грузіі; цэнтр Баржомскай групы курортаў.

*Ликани* — курорт Баржомскай групы.

*Аллочка* — Міцкевіч Аляўціна Цімафееўна (нар. у 1930 г.), жонка Міцкевіча Д.К. з 1960 г.

*Верочки* — Міцкевіч Вера Даніілаўна (нар. у 1961 г.), дачка Міцкевіча Д.К. ад другога шлюбу.

*Янки Брыля* — Брыль Іван Антонавіч, гл. раздзел V.

*Михаила Тихоновича Лынькова* — Лынькоў М.Ц., гл. каментарый да № 12.

*Леонид Ильич Гурский* — Гурскі Леанід Ілліч (нар. у 1936 г.), беларускі вучоны, фізік. У той час намеснік дырэктара Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР. Сын пісьменніка Іллі Гурскага.

*Михась* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*Аркадий Павлович Севержицкий* — Севяржыцкі Аркадзь Паўлавіч, адпачываў у санаторыі, працаваў у Дзяржплане БССР.

*Владимир Иванович Кравченко с женой* — Краўчанка Уладзімір Іванавіч, брыгадзір калгаса імя Свярдлова Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, адпачываў у санаторыі разам з жонкай Краўчанка Любоўю Фёдараўнай.

*несвижской «Лилии»* — прадуктовы кіёск на тэрыторыі тагачаснага санаторыя ў Нясвіжы.

*Цхалтубо* — курорт у Грузіі.

*реку Куру* — Кура́ (груз. Мтквары), рака ў Закаўказзі, даўжыня 1364 км. Цячэ па Турцыі, Грузіі, Азербайджане, упадае ў Каспійскае мора.

*Додо Михайловна Гиуашвили* — Гіўашвілі Дадо Міхайлаўна, лечачы доктар у санаторыі.

*Маргарита Павловна* — Манчхава Маргарыта Паўлаўна, намеснік галоўнага ўрача санаторыя.

*в Друскениках* — курорт у Літве.

*Алёне* — Міцкевіч Алена Данілаўна (нар. у 1958 г.), дачка Міцкевіча Д.К. ад першага шлюбу.

*Андрею* — Міцкевіч Андрэй Данілавіч (нар. у 1952 г.), сын Міцкевіча Д.К. ад першага шлюбу.

*Ире* — Юшкевіч (дзяв. Міцкевіч) Ірына Цімафееўна (нар. у 1938 г.), родная сястра Міцкевіч А.Ц.

*Любочке* — Бацеміна (дзяв. Юшкевіч) Любоў Леанідаўна (нар. у 1969 г.), пляменніца Міцкевіч А.Ц.

*Люсику* — Юшкевіч Леанід Пятровіч (нар. у 1940 г.), муж Юшкевіч І.Ц.

*тёте Лене* — Лойка А.М., гл. каментарый да № 34.

*дяде Мише* — Лойка М.І., гл. каментарый да № 34.

*сотрудникам музея* — супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

## № 36

## Ліст Міцкевіча Д.К. да Слесарэнкі А.А. ад 24.10.1986

*24 кастрычніка 1986 г.*

Любецка-піцундскаму вандроўніку
Алексію!

Некалькі дзён як атрымаў твой ліст. Адразу не адказаў — рыхтаваўся да папярэдняга запісу па тэлебачанні. Гэты запіс адбыўся ўчора ў музеі. Запісвалі Максіма Лужаніна і мяне, нашы ўспаміны пра сустрэчы і сувязі бацькі з рускімі савецкімі паэтамі і пісьменнікамі. Усяго закрануць не хапіла часу, таму прыгадваліся Ісакоўскі, Твардоўскі, Гарадзецкі, Фадзееў і Пракоф’еў. Як зробяць мантаж — будзе ў эфіры. А зараз рыхтуемся да правядзення свята паэзіі на радзіме бацькі на Стаўбцоўшчыне (у выпадку дрэннага надвор’я ў Палацы культуры калгаса «Нёман» у Новым Свержані). А 3 лістапада зноў выязджаем на свята «Каласавіны» ў Акінчыцы. 4 і 5 будзе канферэнцыя ў зале акадэмічнай бібліятэкі.

Вось, у асноўным, такія навіны. Мала і рэдка дзе бываю, таму і мала ведаю навін.

Нядаўна прыйшла Пастанова Сакратарыята СП СССР па пісьму, якое рыхтавалі мы, а падпісалі Гілевіч і Каваленка.

Дано ўказанне ўсім літаратурным газетам і часопісам СП адпаведна адзначыць коласаўскія даты. Шкада, што пастанова запазнілася, і «тоўстыя» часопісы калі і дадуць, то са спазненнем.

Сакратарыят СП СССР хадайнічае перад Дзяржтэлерадыё пра адзначэнне гэтых дат і просіць выканкамы Масквы, Ленінграда, Пярмі і Курска прысвоіць назву Коласа вуліцам гэтых гарадоў. Так што праца ідзе.

… Жадаю падмацаваць здароўе, весела правесці час.

Прывітанне знаёмым, якія могуць трапляцца там — Мікалаю Аляксандравічу Упеніку ў прыватнасці.

*24/X Подпіс Міцкевіча Д.К.*

P.S. Курбека — малайчына. Не бярэ ні кроплі.

Каментарый:

Ліст знаходзіцца ў сямейным архіве А.А. Слесарэнкі.

Ліст у канверце, адпраўлены па адрасе: Грузинская ССР, Абхазская АССР, Пицунда-4, Литфонд. Алексею Алексеевичу Слесаренко.

*Любецка-піцундскаму…* — Слесарэнка А.А. у той час адпачываў на Каўказе ў Піцундзе, а душою і думкамі быў заўсёды ў родным Любечы на Чарнігаўшчыне.

*Максіма Лужаніна* — Максім Лужанін, гл. раздзел V.

*Ісакоўскі* — Ісакоўскі Міхаіл Васілевіч (1900–1973), расейскі паэт, перакладчык.

*Твардоўскі* — Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), расейскі паэт.

*Гарадзецкі* — Гарадзецкі С.М., гл. каментарый да № 17.

*Фадзееў* — Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч (1901–1956), расейскі пісьменнік.

*Пракоф'еў* — Пракоф'еў Аляксандр Андрэевіч, гл. раздзел V.

*Палацы культуры калгаса «Нёман» у Новым Свержані* — у сапраўднасці Палац культуры калгаса «Нёман» знаходзіцца ў вёсцы Стары Свержань.

*акадэмічнай бібліятэкі* — Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

*Гілевіч* — Гілевіч Ніл Сымонавіч, гл. раздзел V. У 1980–1989 гг. першы сакратар праўлення СП БССР.

*Каваленка* — Каваленка Віктар Антонавіч (1929–2001), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. У той час дырэктар Інстытута літаратуры НАН Беларусі.

*Мікалаю Аляксандравічу Упеніку* — Упенік Мікалай Аляксандравіч (1914–1994), украінскі паэт.

*Курбека* — Курбека Іван Сцяпанавіч, гл. раздзел V.

*Раздзел III*

# *Асобныя допісы Данілы Міцкевіча*

Памяць у Данілы Канстанцінавіча была выключная, нават фенаменальная. Пра гэта сведчылі многія з тых, хто працаваў і быў знаёмы з ім. Шырокія веды меў у розных галінах навукі, асабліва ў хіміі, біялогіі, геаграфіі. Успамінаецца пачатак 1996 года, калі мая родная цётка па матчынай лініі з мужам былі запрошаны на працу ў Кітай у горад Ухань. Бацька падрабязна расказаў ім пра горад, раку, клімат. Яны адпрацавалі навучальны год, вярнуліся з Кітая летам 1997 года і расказалі нам з маці, наколькі былі здзіўлены ведамі Данілы Канстанцінавіча, адпаведнасці ягонай інфармацыі рэчаіснасці.

Даніла Канстанцінавіч заўсёды грунтоўна падыходзіў да прапаноў выступіць па радыё, у друку, на мерапрыемствах. Рыхтаваўся загадзя, рабіў накіды на паперы, перачытваў адпаведныя тэматыцы творы ці ўрыўкі з твораў Коласа, праглядаў іншую літаратуру, пісаў чарнавікі, а тады ўжо аддаваў на передрукоўку. Найбольш актыўна ён спрычыніўся да публіцыстыкі з сярэдзіны 1980-х гадоў, калі ўжо перайшоў з адказнай дырэктарскай пасады на навуковага супрацоўніка музея. У 1982 годзе адзначалі 100-годдзе Якуба Коласа адкрыццём трэцяй па ліку экспазіцыі ў музеі, шматлікімі мерапрыемствамі як у Беларусі, так і ў Маскве, Кіеве, тагачасным Ленінградзе.

У асноўным усё, што было напісана Данілам Канстанцінавічам за апошнія 10 гадоў жыцця, увайшло ў яго кнігу «Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа», укладанне якой бацька даверыў мне. Навуковым рэдакта-

рам кнігі стаў па просьбе бацькі выдатны вучоны і сябар нашай сям'і Генадзь Васілевіч Кісялёў. Ён жа даў гэтай кнізе назву і напісаў да яе прадмову. У архіве Данілы Міцкевіча яшчэ заставаліся чарнавікі розных выступленняў, успамінаў. Напрыклад, яго ўспаміны пра гісторыю ліста Якуба Коласа ў ЦК КПБ у 1956 годзе пра стан беларускай мовы я запісвала ў рабочы сшытак пад дыктоўку бацькі, калі ён знаходзіўся ў стацыянары 21 чэрвеня 1996 года, за два тыдні да яго смерці. Гэтыя ўспаміны былі ўключаны Віталем Уладзіміравічам Скалабанам у зборнік дакументаў і матэрыялаў «Купала і Колас, вы нас гадавалі» (гл. раздзел «Бібліяграфічны паказальнік»).

Пры падрыхтоўцы Збору твораў Якуба Коласа ў дваццаці тамах узнікла неабходнасць патлумачыць дзённікавыя запісы паэта ад 1 кастрычніка 1943 года. Даніла Канстанцінавіч у апошні год свайго жыцця ўважліва пераглядаў папярэдні коласаўскі чатырнаццацітомнік. На палях усіх тамоў рабіў заўвагі, даваў тлумачэнні. Ведаў, што будзе перавыданне. Тлумачэнні па вышэйзгаданым дзённікавым запісе не змяшчаліся на палях апошняга, чатырнаццатага тома, таму напісаны на асобных лістках, якія былі мною падрыхтаваны і надрукаваны ў часопісе «Роднае слова» ў 2008 годзе.

Да розных юбілейных дат пададзены ў перыядычны друк «Згадкі пра Міхася Ціханавіча» і «Якуб Колас і музыка».

У раздзел уключаны тэкст выступлення ў мастацкім вучылішчы імя А. Глебава да 75-годдзя з дня нараджэння Янкі Брыля.

Івана Антонавіча і Данілу Канстанцінавіча звязвалі доўгія гады сяброўства і супрацоўніцтва. Яны былі блізкія і па ўзросце, і па светапоглядзе, і нават па сваёй прыроднай мажнасці. У 1956 годзе Янка Брыль запісаў у сваіх нататках

на смерць Якуба Коласа, што «мы згубілі любімага народам, самага буйнога пісьменніка і заступніка нацыянальнай культуры».

З запісаў Данілы Міцкевіча. 20 чэрвеня 1966 года: «*Ездзілі ў Акінчыцы — Альбуць — Смольню — Мікалаеўшчыну — Ласток (мікрааўтобус «РАФ») — я, Янка Брыль, Іван Мележ, Алесь Савіцкі. Агляд будаўніцтва філіяла і падрыхтоўка да 100-годдзя школы*» [гаворка ішла пра сярэднюю школу імя Якуба Коласа ў Мікалаеўшчыне. — *Заўв. В.М.*]. 20 мая 1970 года: «*У музеі былі чатыры славацкія пісьменнікі, перакладчыца з Масквы. Разам з імі былі Янка Брыль, Ніл Гілевіч і Анатоль Вярцінскі. Паездка на Стаўбцоўшчыну*». 12 студзеня 1971 года: «*Паездка ў Вільнюс з Янкам Брылём. Паехалі цягніком. Сустрэў нас Адам Іосіфавіч Мальдзіс. Былі ў СП. Ездзілі ў Павільнюс. Былі ў міністра культуры Літвы. Прынялі нас вельмі ветліва*».

На пачатку 2000 года, калі ўжо была падрыхтавана да друку кніга Данілы Міцкевіча «Любіць і помніць», выдавецтву «Полымя» спатрэбілася рэцэнзія на кнігу. Звярнуцца да Янкі Брыля мне параіў Генадзь Кісялёў. Іван Антонавіч адразу пагадзіўся, праўда, з адзінай умовай, каб гэта рэцэнзіраванне афармілі на грамадскіх пачатках, без дагавору і аплаты. Спецыяльна ў «Дадатак» кнігі ён напісаў свой успамін пра Данілу Канстанцінавіча «Балючая, светлая памяць», даў мне вельмі карысныя парады, зрабіў слушныя заўвагі. Я ўдзячна Янку Брылю за гэтую простую і тактоўную дапамогу ў стварэнні кнігі. Пасля смерці майго бацькі Іван Антонавіч нячаста, але заўсёды па святах званіў нам з маці, віншаваў, пытаўся пра жыццё-быццё. З ім было лёгка сябе пачуваць.

Уладзімір Караткевіч — чалавек-легенда, гонар беларускай нацыі, пісьменнік ад Бога, не пабаюся такіх высокіх

слоў. Пачатак 1970-х гадоў — пачатак сяброўства сям'і Данілы Міцкевіча і прыгожай пары Караткевічаў. Шмат розных гісторый можна было б прыгадаць. Цытую запіс Данілы Канстанцінавіча ад 13 красавіка 1978 года, зроблены пасля пахавання Антона Бялевіча: «*Быў на могілках У.С. Караткевіч. Я яго з могілак завёз дахаты. Ён перажываў смерць Антона Бялевіча. Я працытаваў Амара Хайяма: «Бог нашей драмой коротает вечность, сам сочиняет, ставит и глядит». На гэта мне Караткевіч сказаў, што Хайяма перакладаў дрэнны перакладчык Восіп Румер, і прачытаў эпіграму:*

*Из праха встал Омар Хайям.*
*— Кто переводчык?!*
*— Осип Румер. —*
*Омар послал его к чертям,*
*Перевернулся, снова умер».*

У 1970-х гадах Караткевіч падараваў Данілу Канстанцінавічу карэктуру свайго рамана «Леаніды не вернуцца да зямлі» з аўтарскімі праўкамі. Раман і аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» планавалася выдаць у зборніку ў 1963 годзе, але паводле распараджэння цэнзараў набор быў рассыпаны.

У архіве Данілы Міцкевіча захаваліся тэзісныя накіды да будучага артыкула пра Уладзіміра Караткевіча. Артыкул, на вялікі жаль, не быў напісаны, але і гэты тэкст падаўся мне цікавым і прадстаўлены ў раздзеле пад назвай «Знаёмства з Уладзімірам Караткевічам».

Упершыню ў гэтай кнізе друкуецца «Коласаў адрасат» — матэрыял пра Аляксандру Антонаўну Кетлер, знаёмую паэта з 1945 года. Было вядома, што ў яе захоўваецца калекцыя рукапісаў Якуба Коласа — вершы, лісты, дароўныя надпісы. Доўгія гады гэтай сітуацыяй апекавала-

ся тагачасная галоўная захавальніца фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Антаніна Міхайлаўна Гарон. Яна наведвала сям'ю Кетлер, тактоўна, неназойліва, але неаднаразова прапаноўвала перадаць рукапісы ў музей. Нарэшце ў 1992–1993 гадах Кетлер А.А. пагадзілася прадаць калекцыю ў музей, але зрабіла запіс, што вершы могуць быць адкрыты для даследавання і друку праз пяць гадоў, а лісты Якуба Коласа да яе — праз дваццаць гадоў. Даніла Канстанцінавіч ведаў сям'ю Кетлер А.А. па 1940–1950-х гадах, разумеў: пройдзе час, будуць адкрыты для даследвання і друку лісты песняра, што выклікае пэўны інтарэс. І таму пакінуў свае ўспаміны, якія, не сумняваюся, праліваюць святло на асобу адрасаткі Коласа.

## Гісторыя аднаго ліста

*Успаміны Д.К. Міцкевіча*

Якуба Коласа ўсё жыццё, з самых першых крокаў літаратурнай дзейнасці, клапаціў стан, развіццё беларускай мовы. Турбавала гэта праблема да канца жыцця. Колас даволі часта выступаў з канкрэтнымі прапановамі.

У апошнія месяцы жыцця займаўся праблемным артыкулам аб беларускай мове, які збіраўся перадаць кіраўніцтву ЦК КПБ. Ён добра ўсведамляў, што такую заяву ён можа перадаць толькі першаму сакратару ЦК, бо інакш гэта нічога не дало б.

У дзень сваёй смерці, 13 жніўня 1956 г., у панядзелак, ён узяў надрукаваны тэкст і павёз у ЦК для ўручэння толькі К.Т. Мазураву. Паколькі яго заўсёды прымалі без перашкод і папярэдніх дамоўленасцяў, то ён не сумняваўся, што перадасць ліст непасрэдна Мазураву.

Аднак якраз у пачатку дня была нарада, у якой прымаў удзел Мазураў. Колас у ЦК пісьма не пакінуў. 13 жніўня

1956 г. было 5 гадоў унучцы Марыі. Колас купіў ёй каробку цукерак і вярнуўся дахаты.

Дамашнія не ведалі, што Колас раніцою вазіў пісьмо ў ЦК. Днём Колас памёр. У ЦК было вядома, што Колас піша нейкае пісьмо па праблеме беларускай мовы.

Таму праз некалькі дзён пасля смерці Коласа мне пазваніў сакратар ЦК Ц.С. Гарбуноў. Гарбуноў сказаў, што яму вядома пра пісьмо, і папрасіў неадкладна даставіць яго ў ЦК. Я знайшоў пісьмо ў пісьмовым стале Коласа і паехаў на машыне ў ЦК. Там без фармальнасцей прапусцілі і запрасілі ў кабінет Ц.С. Гарбунова на чацвёртым паверсе. У кабінеце Гарбунова быў былы памочнік першага сакратара М.С. Патолічава Шыраеў Міхаіл Рыгоравіч, які быў маім добрым знаёмым. Я перадаў Ц.С. Гарбунову пісьмо Коласа па пытаннях мовы (машынапіс з подпісам), Гарбуноў уголас прачытаў тэкст пісьма. Пасля падняўся, паціснуў мне руку і сказаў, што я свабодны. Пісьмо Гарбуноў пакінуў сабе. Я выйшаў з кабінета.

А яшчэ да таго, як аднесці пісьмо, я перадрукаваў яго дома на машынцы і схаваў у сейфе.

Некаторыя пісьменнікі памылкова сцвярджаюць, што Коласа не прынялі, ён расхваляваўся і таму хутка памёр. Гэта няпраўда.

*21 чэрвеня 1996 г.*

*[Друкуецца паводле кн.: Купала і Колас, вы нас гадавалі. Дакументы і матэрыялы. Кн. 2: 1939–2009, частка 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У.Скалабан. — Мн., 2012. — С. 200–201].*

## Якуб Колас і музыка

Беларускі народ можа ганарыцца сваёй багацейшай музычнай спадчынаю. Нашы песні прыгожыя і чароўныя.

Музыку любілі ў сям'і бацькоў Якуба Коласа. Сястра паэта Алена Міхайлаўна Лойка прыгадвае: «Хораша брат іграў на скрыпцы. Іх вучылі ў семінарыі. А Уладзя (старэйшы брат Коласа) — на гармоніку. Сам па сабе. Дык яны выйдуць, помню, вечарам, сядуць на двару і як зайграюць! Рэха разлятаецца навокал. Назаўтра хто прыйдзе з Акінчыц: «Малайцы, хлопцы! Дзякую за канцэрт!» Наогул у нас у сям'і любілі музыку, песні. Усе ўмелі спяваць. Я нават у хоры царкоўным была, у Мікалаўшчыне». Колас чуў, як спявала яго маці, даводзілася з дзяцінства слухаць песні сялян. Гэта запомнілася на ўсё жыццё. Пэўныя музычныя веды дала вучоба ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі.

У Першую сусветную вайну Коласу давялося служыць у арміі — у Маскоўскім вайсковым вучылішчы, у запасным палку ў Пярмі, на Румынскім фронце. Часамі бацька прыгадваў вайсковую службу і спяваў салдацкія песні той пары. Я паспрабую ўзгадаць частку радкоў з дзвюх песень:

Тучки тёмны, тучки грозны
По поднебесьи плывут.
Эй, эй, о-хо-хо,
По поднебесьи плывут.
Наши славные стрелочки
В соучении идут.
Эй, эй, о-хо-хо,
В соучении идут.
Они идут, маршируют,
Между собою говорят —

і далей, гэтак жа з прыпевам, спяваюцца наступныя радкі:

Трудно, трудно нам, ребята,
Как немецкий город брать.
А ещё, братцы, труднее
Нам под пушки подбежать.
Мы под пушки подбежали,
Закричали там: «Ура!»
Задрожала вся земля,
Сила русская взяла.
Офицерам — похвала,
Солдатушкам — награда.

А вось як пачыналася другая — жартоўная — песня:

Пошли девки в Дон купаться (2 разы)
В Дон купаться кума,
В Дон купаться…

У нас дома былі дзве скрыпкі. Меншая, больш простая, вісела ў бацькавай спальні над яго ложкам, большая, даражэйшая, ляжала ў футарале. Бацька гадзінамі граў на сваёй скрыпцы беларускія народныя песні. З класічных кампазітараў яму найбольш падабаліся Чайкоўскі і Грыг, але ж сваё роднае было бліжэй і мілей.

А па радыё найбольш любіў слухаць народныя песні сербаў і харватаў. Вельмі падабалася яму мелодыя марша Ваенна-паветранага флоту кампазітара Сяргея Васіленкі, якая часта гучала ў гады вайны.

Спявала беларускія народныя песні і наша маці. Асабліва любілі слухаць у яе выкананні песні: «З гары па даліне галубы лcraталі» і «Ой, зацвіла ружа, белы цвет».

Калі ставіўся спектакль па п’есе Коласа «Вайна вайне», кампазітар спектакля Міхаіл Красеў вывучаў беларускую музыку. Ён быў у нас і прасіў паслухаць народныя песні. Помніцца, маці спявала «Ой, цёмна ночанька, яшчэ цямней будзе…».

Памятаю, як маці спявала песню на словы бацькавага верша «Каханне»: «Ці помніш ты, Ганна, шчаслівы мамэнт, як граў раз на дудцы нябожчык Вінцэнт?». Акампаніраваў на скрыпцы бацька. Толькі не ведаю, чыя была музыка, ды і мелодыя не запомнілася.

Тэма музыкі сустракаецца ў творчасці Якуба Коласа. Самы яскравы прыклад — гэта яго славутая паэма «Сымон-музыка». Яна напісана пра лёс музы́кі, пра му́зыку і сама з'яўляецца музычнай. Коласу было вядома, што паводле гэтай паэмы стваралася опера кампазітарам Канстанцінам Галкоўскім. Мела намер зрабіць тое самае і кампазітар Варвара Гайгерава. Вялікаю падзеяю ў культурным жыцці рэспублікі, у музычнай каласіяне, была пастаноўка на сцэне нашага Вялікага тэатра оперы і балета оперы Анатоля Багатырова «У пушчах Палесся». Прэм'ера адбылася 28 жніўня 1939 года. Перад вайною была зроблена новая рэдакцыя оперы. Бацьку асабліва падабаліся арыі Кузьміча, Аўгінні, Андрэя, арыя «Ты прыйдзі, вясна жаданая, прыйдзі». Дзед Талаш ніяк не мог змірыцца, што ў оперы пяюць, а не гавораць. Цікава, што ён трапна падказаў мастаку оперы Сяргею Нікалаеву, як аформіць месца схавішча партызан — за дрэвам.

Якуб Колас цікавіўся развіццём музычнай справы ў рэспубліцы. Хочацца прывесці ўрывак з пісьма Коласа да тагачаснага сакратара ЦК КПБ Цімоха Гарбунова, якому бацька пісаў з Ташкента 17 чэрвеня 1942 года: «Вельмі дзякую за Ваша пісьмо, за пахвальнае слова майму вершу «Вясною»… Хацелася б ведаць, як мая «Партызанская». Можа б пры здарэнні пераслалі музыку песень? Тут жа ёсць беларускі джаз пад мастацкім кіраўніцтвам Эдзі Рознера. Пры ўсім маім скептыцызме ў адносінах да джаза, я з прыемнасцю слухаў яго выступленне. Джаз робіць вельмі

прыемнае ўражанне. Нумары падаюцца з вялікім густам, умела, з захаваннем пачуцця меры. Карыстаецца джаз вялікім поспехам. Шкода толькі, што ў рэпертуары мала беларускіх нумароў, што ўсведамляе і кіраўніцтва джаза. Тут хацелася б сказаць Вам колькі слоў аб беластоцкім ансамблі песні і танца, кіраўніком якога быў у свой час Шырма. Ансамблю трэба аказаць маральную, матэрыяльную і іншую дапамогу. Вам будуць пісаць пра гэта прадстаўнікі ансамбля. Прашу ўважна паставіцца да іх паведамленняў. Ансамбль перажывае цяжкі час. Прычым некаторыя адказныя работнікі пазіраюць на ансамбль не па-бальшавіцку. Адзін нават дагаварыўся да таго, што беларуская музыка і песня такі прымітыў, з якім зазорна выходзіць у свет. Гэты ж ансамбль мае свой твар. З'яўляецца чымся новым у галіне мастацтва, калі на яго сцэну выходзіць сялянства, а тутэйшыя знатакі музыкі і сцэны дабіваюцца трафарэтнага прафесіяналізму. Пагутарыце з Панцеляймонам Кандратавічам. На мой погляд, ансамбль заслугоўвае таго, каб яму давесці болей увагі і клопату…».

І гэта было сказана Якубам Коласам у грозны час вайны. Ён вельмі любіў і паважаў Рыгора Шырму, як выдатнага музычнага дзеяча і вучонага.

Якуб Колас быў сябрам Камітэта па дзяржаўных прэміях. Яму даводзілася знаёміцца і з музычнымі творамі, якія вылучаліся на атрыманне прэміі. Помніцца, што ён падтрымаў вядомага ўкраінскага кампазітара Канстанціна Данькевіча, твор якога спадабаўся бацьку, нягледзячы на тое што Ілля Эрэнбург знаходзіў гэты твор прымітыўным.

Багатая творчая спадчына Якуба Коласа з'яўляецца невычэрпнай крыніцай натхнення для кампазітараў. Каля трыццаці нашых кампазітараў стварылі музыку на творы Коласа.

Да 100-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа створана опера «Новая зямля» паводле аднайменнай паэмы. У оперы гучыць выдатная музыка кампазітара Юрыя Семянякі. Завяршаецца і фільм-опера «У пушчах Палесся» кампазітара Анатоля Багатырова. Гэта значная падзея ў культурным жыцці рэспублікі, дарагія падарункі да 100-годдзя народнага песняра.

*[Выступленне на Беларускім радыё ў 1982 г., друкуецца паводле: Даніла Міцкевіч. Якуб Колас і музыка / публік. В. Міцкевіч // ЛіМ. — 2009. — 2 кастр. (№ 37). — С. 15.]*

## Тлумачальныя запісы даваенных эпізодаў

…Маецца на ўвазе лета 1937 года, калі Колас з сям'ёю першы год адпачываў у Вусці. У ліпені адбылося вяселле. Мой даўні прыяцель (з 1929 года, мы разам з ім вучыліся ў 25-й школе-дзевяцігодцы, хутка рэарганізаванай у хімпрафшколу) і равеснік Уладзімір Іванавіч Петухоўскі ажаніўся з Яўгеніяй Пятроўнай Увядзенскай — далёкай родзічкай мамы, выхаванкай нашай сям'і. Вяселле адбылося ў Менску, у нашым доме па Вайсковым завулку. Яно прайшло весела, з вялікім банкетам у нашым доме. Бацька і маці, Юрка і Міхась у гэты час адпачывалі ў Вусці, і мы паехалі туды на працяг вяселля. Апрача маладажонаў і нас былі сястра маладога Валя Петухоўская, мой і Ул.І. Петухоўскага сябар (яшчэ па 25-й школе) і равеснік Віталь Усцінавіч Філіповіч. І малады, і В.У. Філіповіч былі ў той час студэнтамі ленінградскіх ВНУ: Петухоўскі —Тэхналагічнага інстытута, Філіповіч — Ленінградскага індустрыяльнага. У вяселлі прымаў удзел і Фелікс Міхайлавіч Лагута — у той час асістэнт хімфака БДУ, а ў Вусці быў яшчэ і Аляксандр Ігнатавіч Мурач — сябра Юркі, вучыўся разам з ім на геафаку БДУ.

Стаяла цудоўнае летняе надвор'е, было весела, там гулялі дні два ці тры. Той-сёй з кампаніі ўхіляўся ад заклікаў: «Пі да дна!» і ўпотай зліваў частку чаркі ў слоік. Застолле цягнулася доўга, тостаў было шмат, і такога «зелля» набралася нямала. Праз пару дзён да Коласа прыехаў Іосіф Львовіч Дорскі, у той час загадчык літаратурнай часткі Віцебскага тэатра, БДТ-2 (пазней і цяпер — імя Якуба Коласа). У той час тэатр працаваў над п'есай Коласа «Вайна — вайне», і артысты нярэдка прыязджалі ў Вусце. Дорскаму падабалася прыгожая маладая, і ён гучна сказаў усім, што сядзелі за сталом: «Хачу быць п'яным». Ну што ж! Мы пазлівалі ўсе недапіткі і далі госцю (увогуле не вялікаму аматару чаркі), што ў нас было. А калі не хапіла, то паехалі з ім на аўтамашыне ў Пухавічы купіць яшчэ гарэлкі і віна. Па дарозе добра падпіўшы, Дорскі чытаў нам свае вершы і пытаўся: «Што — не горш, чым у Шэкспіра, праўда?» Усе мы, аматары падпіць, тут жа падхапілі: «Што ты, Іосіф! Гэта куды мацней за Шэкспіра». Пасля мы шмат гадоў пазней прыгадвалі і рагаталі. Вярнуліся назад, банкет працягваўся, згодна жаданню Дорскага яго падпаівалі — Лагута, як непераўзыдзены мастак падпаіць любога, а Петухоўскі — з рэўнасці.

Пачаліся танцы. Паспрабаваў паскакаць і Дорскі. Узяў партнёршу, адну з дзяўчат, — Лору (дачку аднаго з вусцянцаў Ігналі Дзяткі) і тут жа грымнуўся на падлогу, ды яшчэ пры гэтым выдаў непрыстойны гук пад рогат вясёлай кампаніі. Пасля кідаўся да нас дужацца. Але дзецюкі былі здаровыя. На ганку дома ён счапіўся з Юркам, на дапамогу яму кінуўся прыяцель. Я гляджу — ломяць Дорскага праз поручні ганка — адзін ухапіўся за галаву і плечы, другі трымае за ногі. Я спалохаўся, адкінуў іх — баяўся, што

зламаюць хрыбет. А ён накінуўся на мяне. Давялося мне абараняцца і хапіць яго адным прыёмам — заціскаючы яму шыю сагнутай правай рукою. Ён хутка знямогся, неяк абмяк і ўжо не мог ні стаяць, ні нават сядзець. Вечарэла, і я з Петухоўскім, ухапіўшы Дорскага за рукі, павалаклі ў гумно. Там трэба было падняць яго, ён быў вельмі грузны, цяжкі. Тады мы залезлі на сена і, узяўшы Дорскага за рукі, рыўком ускінулі яго на сена. Пасля гэтага пайшлі. Бацька, шукаючы яго, знайшоў у гумне, узяў кажушок і накрыў, бо ночы ўсё-такі ў нас не цёплыя. Назаўтра раніцаю бачым карціну: ляжыць Дорскі, побач на сене сучка са шчанятамі, непадалёку ўгары на жэрдках куры, а ўнізе свіння. Мы яго раскатурхалі, павялі мыцца на Балачанку. Ён спалохана спытаў, як сябе паводзіў, бо нічога не памятаў. Казаў, што адчувае сябе так, нібыта яго моцна-моцна пабілі. Але мы яго супакоілі, памыліся, прапанавалі чарку на пахмелле за снеданнем, але ён са страхам адмовіўся.

Што датычыць вішнёвых костачак і п’янага шчанюка.

Сапраўды, у час адзначэння вяселля ў Вусці нехта з нас выкінуў на двор вішнёвыя костачкі з бутэлькі, дзе на вішнях настойвалася гарэлка. Даволі вялікае шчаня з прагнасцю з’ела костачкі, пасля чаго стала ласкавым, вясёлым, але хадзіць не магло — завальвалася то на правы бок, то на левы, што, вядома, смяшыла ўдзельнікаў вяселля, якія і самі былі вясёлыя…

Срэбранае вяселле бацькоў мы адзначалі дома ў Менску, у пачатку чэрвеня 1938 года. Быў разгул яжоўскага тэрору, нядаўна арыштавалі дзядзьку Сашу, члена нашай сям’і, адчувалася, што пагроза вісела і над Коласам і ўсімі намі. Бацькі не хацелі гучна адзначаць у такіх умовах такую дату. Мы ўсё ж вырашылі адзначыць у вузкім сямейным

коле. Прысутнічаў з пабочных толькі Віталь Філіповіч з маладой жонкай. Яны на кароткі час прыехалі ў Менск да бацькоў Філіповіча і былі ў нас. Я заказаў у кандытарскай торт з надпісам «Пінск 1913 — Менск 1938». Але Пінск у той час знаходзіўся ў панскай Польшчы, і работнікі кандытарскай праявілі бальшавіцкую пільнасць і назву Пінска не дазволілі зрабіць на торце. Давялося надпіс замяніць.

Увосень 1940 года ўрачыста адзначалася 35-годдзе з пачатку літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Купалу паднеслі вялікі прыгожы торт. Яго і паставілі на стале, дзе сядзеў юбіляр разам з начальствам і ганаровымі гасцямі. Прадстаўнік Літвы (яна зусім нядаўна стала савецкай) віншаваў Купалу, пасля падышоў да стала паціснуць руку юбіляру, але пры гэтым зачапіў цвёрдым манжэтам значную частку крэму з паверхні торта.

Вось што вельмі каратка запісаў Колас у сваім дзённіку.

*[Друкуецца паводле: Вера Міцкевіч. Урывак з дзённіка Якуба Коласа ва ўспамінах сына Данілы // Роднае слова. — 2008. — № 5. — С. 16–17.]*

## Згадкі пра Міхася Ціханавіча

Перш за ўсё хацеў бы адзначыць дружбу Якуба Коласа і Міхася Лынькова. Сяброўскія адносіны паміж імі ўсталяваліся з сярэдзіны 1930-х гадоў. Лынькоў быў частым і жаданым госцем Коласа і ў даваенны час, і ў Маскве, і ў Клязьме ў час вайны, і ў пасляваенным Менску. Колас таксама часта бываў у Лынькова ў гасцях і ў Менску, і на возеры Нарач, дзе Лынькоў збудаваў сабе дачу.

Лынькоў быў на першай, устаноўчай асамблеі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, і пазней шмат гадоў быў у складзе беларускай дэлегацыі ў Нью-Йорку. Ён любіў но-

выя, арыгінальныя рэчы. Неяк прывёз з Амерыкі лодачны матор. Тады гэта была рэдкая рэч. Бацька некалькі разоў ездзіў да Лынькова на Нарач, Міхась Ціханавіч вазіў яго на маторцы па возеры. У апошніх пісьмах да яго бацька жартоўна называў сябра «Міхал-адмірал» і «Вялікі нарачанскі флатаводца».

У часе вайны Лынькова напаткала вялікае асабістае гора: яго жонка і маленькі сынок засталіся на акупіраванай тэрыторыі і былі знішчаны ў гета.

Сталася так, што выпадкова Колас паспрыяў стварэнню новай сям'і Лынькова. Неяк восенню 1945 года Лынькоў завітаў у драўляны Коласаў дамок, які стаяў там, дзе цяпер музей. Лынькоў, на той час старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, заехаў да Коласа ў госці на сваёй службовай аўтамашыне. Пачаўся вельмі моцны лівень. А побач з домам Коласа стаяла былая дача колішняга віцэ-прэзідэнта Акадэміі Навук Т. Домбаля. У 1945 годзе ў ёй месцілася Акадэмія Навук. Рабочы дзень скончыўся, і адна з супрацоўніц Акадэміі Соф'я Захараўна Куспіц, ратуючыся ад дажджу, забегла ў дом Коласа. Яе запрасілі за стол. Так яна пазнаёмілася і з гаспадаром хаты, і з Лыньковым. Калі Лынькоў паехаў дамоў, ён запрасіў падвезці Соф'ю Захараўну. Так ён знайшоў сабе жонку.

Пасля смерці бацькі Міхась Ціханавіч без напаміну аддаў музею пісьмы, запіскі бацькі да яго, фатаграфіі. Справа ў тым, што Лынькоў быў добрым фатографам, часта фатаграфаваў бацьку і на Нарачы, і ў Каралішчавічах, і ў Менску. Некаторыя з яго фотаздымкаў змешчаны ў творах Якуба Коласа. Пісем і запісак было каля 70, каля 50 апублікаваны ў 14-томніку Коласа. Яны гавораць пра сардэчнасць, любоў, пашану і павагу Коласа да Лынькова.

Лынькоў быў чулым і сардэчным чалавекам, добрым таварышам. Пры арганізацыі нашага музея ён многім дапамог музею.

Колас яго любіў і паважаў. І хаця двойчы крытыкаваў — за мову раманаў «На чырвоных лядах» і «Векапомныя дні», Лынькоў не пакрыўдзіўся.

Памяць пра гэтага выдатнага пісьменніка і цудоўнага чалавека будзе вечна жыць у сэрцах тых, хто сустракаўся з ім.

*[Друкуецца паводле: Даніла Міцкевіч. Згадкі пра Міхася Ціханавіча [Лынькова] / публікацыя В. Міцкевіч // Літаратура і мастацтва. — 1999. — 26 лістапада (№ 47). — С. 6.]*

## Да 75-годдзя з дня нараджэння Янкі Брыля
## *(Выступленне ў мастацкім вучылішчы імя А. Глебава)*

З Янкам Брылём я пазнаёміўся у пасляваенны час, у канцы 1940-х гадоў. А хутка, 4 жніўня гэтага года, Янку Брылю споўніцца 75 гадоў.

Прыгадваецца сустрэча Якуба Коласа з маладымі тады беларускімі пісьменнікамі. Мне пашчасціла быць на гэтай сустрэчы. Яна адбылася ў цёплы, летні, сонечны дзень ужо далёкага 1949 года на сядзібе Якуба Коласа, там, дзе зараз знаходзіцца наш музей.

Да Коласа ў госці прыйшлі Янка Брыль, Іван Мележ, Іван Шамякін, Аляксей Русецкі, Мікола Аўрамчык, Кастусь Кірэенка, Іван Грамовіч, Антон Бялевіч. Быў там і Максім Лужанін, які ў той час працаваў рэферэнтам Якуба Коласа, быў яго сябрам.

З тых часоў пачалося наша знаёмства. Янка Брыль часта бываў у доме Коласа дарагім госцем народнага паэта.

Янка Брыль прымаў удзел у пахаванні свайго старэйшага сябра — Якуба Коласа, напісаў шчымлівы водгук «Наш вянок» [Брыль Я. Наш вянок // Літаратура і мастацтва. — 1956. — 16 жніўня, № 34. — С. 2. — *Заўв. В.М.*]. Іван Антонавіч прымаў і прымае самы актыўны ўдзел у справе ўвекавечвання памяці Якуба Коласа. Ён — сябра вучонага савета музея, сістэматычна прымаў удзел у абмеркаванні экспазіцыі музея і філіялаў музея ў Смольні, Акінчыцах, Альбуці, адкрыцці мемарыяльных дошак. Сёлета спаўняецца 25 гадоў з пачатку адкрыцця філіяла музея ў Смольні. Янка Брыль сярод іншых выдатных дзеячаў літаратуры і культуры Беларусі і Узбекістана выступіў тады з прамовай.

Частым удзельнікам шматлікіх тэлевізійных перадач з музея быў Янка Брыль. Ён выступае і ў некалькіх кінафільмах пра музей і філіял.

А нядаўна, 2 лістапада мінулага года, ён разам з Сяргеем Грахоўскім, Васілём Зуёнкам, Алесем Разанавым і Леанідам Дранько-Майсюком прымаў удзел у Каласавінах — свяце, якое ўжо шмат гадоў музей наладжвае да дня нараджэння Якуба Коласа.

Я вельмі шчаслівы і ганаруся тым, што лёс наканаваў мне знаёмства і сяброўства з такім выдатным пісьменнікам і чалавекам, як Янка Брыль.

Народнага пісьменніка Янку Брыля ведаюць і любяць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Яго творы перакладзены на мовы ўсіх рэспублік былога Савецкага Саюза і на мовы многіх замежных краін.

Я запрашаю вас, дарагія сябры, шырока выкарыстоўваць у сваіх мастацкіх работах творчасць нашага шаноўнага госця. Варта было б такім чынам адзначыць яго 75-годдзе.

Увогуле хачу сказаць, што наша беларуская літаратура з'яўляецца невычэрпнай крыніцай для мастацкай творчасці ва ўсіх яе жанрах.

Паколькі я выступаю ад музея Якуба Коласа, хачу звярнуць вашу ўвагу і на яго творчасць. Сёлета мы будзем адзначаць 110-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа.

Яго творчасць, яго жыццё можа і павінна стаць крыніцай для творчасці мастакоў. Яго дзіцячыя і юнацкія гады праходзілі на чароўнай па сваёй прыгажосці Стаўбцоўшчыне, дзе цячэ бацька-Нёман, дзе мноства найпрыгажэйшых лясоў, лугоў, дзе захаваліся мясціны, дзе жыў будучы народны паэт. Яны з вялікім майстэрствам апеты і апісаны ў «Новай зямлі», «На ростанях», многіх вершах і апавяданнях Якуба Коласа. Часта гэтыя мясціны з'яўляюцца прадметна-пейзажнымі ілюстрацыямі да твораў Коласа. Дык перанясіце гэта на палатно, зрабіце скульптуры, вырабы прыкладнога мастацтва. Я запрашаю вас, дарагія сябры, часцей бываць у нашым музеі, у яго філіялах — Смольні, Акінчыцах, Альбуці. Жадаю вам поспехаў у вучобе і жыцці.

Жыве Беларусь!

3/IV1992 Маст[ацкае]вучыл[ішча] імя А.К. Глебава, у 14 г[адзін]. Разам з Янкам Брылём. Выкладчык — Валянціна Міхайлаўна.

*[Сямейны архіў, рукапіс Міцкевіча Д.К.]*

## Знаёмства з Уладзімірам Караткевічам
*(тэзісы да артыкула)*

Блізкія, сяброўскія адносіны склаліся ў мяне з Караткевічам з пачатку 1970-х гадоў. Мы даволі часта бывалі адзін у аднаго ў гасцях. У Караткевіча было многа сяброў. Найбольш блізкімі былі Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс,

Генадзь Кісялёў, Мікалай Грынчык. Чалавек ён быў гасцінны. Ён быў надзвычайна цікавым субяседнікам. Вельмі цікава расказваў розныя гісторыі і здарэнні з сабою і сваімі сябрамі. Апавядальнік ён быў проста выдатны. Калі б яго розныя размовы і ўспаміны былі б запісаны на стужку — можна смела было б друкаваць іх. Колькі гумару было ў яго. Даваенная радыёперадача з А. Бялевічам.

Ён быў вельмі простым чалавекам, але гэта была прастата мудрасці, вялікага таленту. Здзіўлялі яго фенаменальная памяць і сапраўды энцыклапедычныя веды.

Заваёва Вавілона персамі цара Кіра (Угбару) у 538 годзе да н. э. Пір Валтасара, сына апошняга цара Вавілоніі Набаніда. Я сказаў — 539 год, а Караткевіч паправіў — 538 год.

Мене, тэкел, упарсіс.

Мене — вылічыў Бог царства тваё і паклаў канец яму.

Тэкел — Ты ўзважаны на вачах і знойдзены вельмі лёгка.

(Упарсіс) — Перэс — Падзелена царства тваё і дана Мідзянам і Персам.

Караткевіч, як і Колас, выступаў ва ўсіх жанрах літаратуры — паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка. І нават больш — кінасцэнарыст. У яго быў талент жывапісца. Ён вельмі добра ведаў беларускі фальклор і гісторыю Беларусі. Добра ведаў літаратуру ўвогуле. Гесіод (8–7 ст. да н. э.). Спяваў рэдкія, забытыя беларускія песні.

Караткевіч вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Там быў выдатны прафесар, акадэмік Аляксандр Іванавіч Бялецкі. Бялецкі вельмі любіў Караткевіча, высока цаніў яго вучонасць і завяшчаў сваю бібліятэку Караткевічу. Гэта вельмі знамянальна!

Памятаю, як у 1974 годзе па просьбе Караткевіча і Мальдзіса мне давялося арганізаваць паездку славацкіх і польскіх пісьменнікаў у Коласавы мясціны на Стаўбцоўш-

чыне. Гэлена Брындзова з мужам і зяцем, Фарнальчыкі з Познані — Хрысціна і Фелікс. Як шлі-ехалі ў Ласток. Як іх прымалі сяляне Мікалаеўшчыны.

Караткевіч — поўнасцю абыякавы да ўсялякіх інтрыг у Саюзе пісьменнікаў, ніколі не імкнуўся стаць якім-небудзь «начальнікам», быў вельмі далёкі ад усяго гэтага. Імкненні пісьменнікаў — званні, ордэны, узнагароды, дэпутацтва, лаўрэацтва — абсалютна не цікавіла Караткевіча.

Далма. Стравы. Зёлкі.

«Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

50-годдзе У.С. Караткевіча. 28/XI 1980 года — афіцыйны вечар у Доме літаратара. Вечар вёў Васіль Быкаў. Выступленні былі цікавымі, дасціпнымі, глыбокімі. А назаўтра, у суботу 29/XI 1980 года, банкет у кавярні Дома пісьменнікаў (на II паверсе). Вёў Рыгор Барадулін. Пасля Гілевіча і Законнікава далі слова мне.

Цабэрак. Хлеб, каўбаса (сялянская), сала, нізачка часнаку, ручнічок, галіна каліны, хрэн, сальнічка с соллю. Пляшка самагону (гарэў!), маленькая чарачка. Пляшка і чарачка зроблены майстрамі. Падарунак вельмі спадабаўся юбіляру і гасцям, яго часта прыгадвалі на вечары.

*[Сямейны архіў, рукапіс Міцкевіча Д.К.*
*без назвы, недатаваны].*

## Коласаў адрасат
*(пра А.А. Кетлер)*

Мне стала вядома, што наш музей набывае пісьмы Якуба Коласа да Аляксандры Антонаўны Кетлер. Гэта вельмі добрая і патрэбная справа. Наколькі мне вядома, перапіска вялася недзе з сярэдзіны 1945 года. Мне невядомы змест пісем, але я думаю, што яны прадстаўляюць каштоўнасць

для даследчыкаў. Магу толькі падзяліцца думкамі пра гісторыю знаёмства і асобу Коласавага адрасата.

У пасляваенны час рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия» часта звярталася да Якуба Коласа з просьбамі напісаць артыкулы на розныя злабадзённыя тэмы. Змяшчаліся і яго вершы ў перакладзе на рускую мову. Рэдакцыя месцілася ў старым будынку Дома друку (цяпер рог пр-та Францыска Скарыны і вул. Сурганава). Там знаходзілася і Белдзяржвыдавецтва, многія рэдакцыі другіх рэспубліканскіх газет і часопісаў. Дом друку знаходзіўся блізка ад дома, дзе мы жылі, і бацька часта там бываў.

Неяк улетку 1945 года рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия» наладзіла банкет. Не памятаю зараз — з якой нагоды: ці гэта было 3/VII 1945 года ў першую гадавіну вызвалення Менска, ці нейкі юбілей газеты. Рэдакцыя запрасіла на сустрэчу Якуба Коласа. Абслугоўваць шаноўнага госця даручылі галоўбуху рэдакцыі (ці бухгалтару?) Аляксандры Антонаўне Кетлер. Гэта была 30-гадовая жанчына, сямейная, мела мужа і дачку-малалетку Нэлу. Яна пражывала недзе блізка ад нас па вул. Ціхай (зараз — Багдана Хмяльніцкага).

З таго часу пачаліся сустрэчы і перапіска паміж Якубам Коласам і А.А. Кетлер. Наколькі я памятаю, значна часцей пісаў бацька. Бацька адчуваў сваю адзіноту. У 1945 годзе апрача яго ў драўлянай хаце жыў я, жыла выхаванка нашай сям’і Вольга Антонаўна Прачук і хатняя гаспадыня, ужо старая жанчына Марыя Рыгораўна [Георгіеўна. — *Заўв. В.М.*] Татур — полька, якая пазней выехала да сваякоў у Польшчу. А В.А. Прачук праз год выйшла замуж і паехала працаваць настаўніцай у гарадскі пасёлак Плешчаніцы.

А.А. Кетлер, пустая і нікчэмная жанчына, ганарылася тым, што Колас удзяляе ёй такую увагу, і вымагала пада-

рункі, часамі ездзіла з бацькам у грыбы і нават аднойчы ў Маскву. У яе былі меркантыльныя інтарэсы, яна прымала падарункі і грошы. Часта бацька бываў у яе дома. Некалькі разоў у 1945-м і першай палове 1946 года яна бывала і ў нас дома, як правіла, са сваімі сяброўкамі з рэдакцыі. Мне не падабалася бесцырымоннасць у паводзінах А.А. Кетлер. Яна не была палюбоўніцай Коласа, але ёй падабаліся ўвага і пачуцці Коласа да яе, якія яна спрытна выкарыстоўвала. Я гэта добра адчуваў, бачыў няшчыры і фальшывы характар яе адносін да бацькі. Як правіла, такія сустрэчы суправаджаліся выпіўкамі, шкоднымі для яго здароўя. Аднойчы, летам 1946 года я прыйшоў дамоў. На верандзе драўлянага дома сядзелі 10–12 работнікаў рэдакцыі, яны бессаромна падпаівалі бацьку. Я ім некалькі разоў казаў, што трэба даць адпачыць Коласу, але яны не звярталі ўвагі на мае просьбы. Давялося стукнуць кулаком па сталу і выгнаць нахабнікаў. Пасля гэтага яны ўжо да нас не прыходзілі. Перастала бываць у нашым доме і А.А. Кетлер.

Неяк, прыкладна ў 1946 годзе, быў званок. Пазнаўшы мой голас, трубку павесілі. Тут жа пазванілі яшчэ раз. Жаночы голас прадставіўся: звоніць жонка Панамарэнкі — Вера Георгіеўна. Прасіла пазваць бацьку. Ён зняў трубку. Аказваецца, А.А. Кетлер папрасіла кагосьці са сваіх сяброўак так прадставіцца, бо бацька гаварыў менавіта з ёю. Мне прадстаўляцца яна не хацела.

Фальшывасць адносін А.А. Кетлер да яго бацька добра разумеў. Пра гэта сведчыць і верш, напісаны ім 20 верасня 1945 года:

Я зачыню наглуха ў сэрца дзверы
І волі звадлівым пачуццям больш не дам —
Няхай загоіцца хоць той глыбокі шрам,
Што болямі, пакутамі прамерыў.

І позіркам падступным і ліслівым,
І словам голасу, салодкім, як мядок,
Не вер, мой друг, не вер ты ім, браток, —
Надуманы іх чары і парывы.

Спадае жар у прохладзі змяркання.
Дык цвёрда памятай, у мыслях мей адно:
Ты верас выцвіўшы, паблеклае руно,
І шчырага не стрэнеш ты кахання.

Ён гэта адчуваў розумам. Але ж пачуцці бралі верх… Сустрэчы працягваліся. Была і перапіска. Думаю, што ў пісьмах Коласа да А.А. Кетлер могуць быць цікавыя матэрыялы. Як відаць з пісем Коласа да другіх асоб, у такіх пісьмах ёсць шмат каштоўнага матэрыялу. Апрача чыста біяграфічных звестак (месца знаходжання, даты паездак, удзел у розных мерапрыемствах, знаходжанне ў месцах адпачынку, у бальніцах і санаторыях, сустрэчы з рознымі людзьмі, звесткі пра надвор'е, збор грыбоў і г. д.) у пісьмах часта можна знайсці інфармацыю пра творчы працэс, гісторыю напісання літаратурных твораў, ацэнкі і характарыстыкі пісьменнікаў, як сяброў, так і ўвогуле другіх пісьменнікаў, цікавыя развагі. Зусім магчыма, што такое можна напаткаць і ў пісьмах Коласа да А.А. Кетлер.

У эпісталярнай спадчыне Якуба Коласа пісьмы да знаёмых жанчын займаюць значнае месца. Варта прыгадаць яго перапіску з С. Сомавай, М. Прозаравай, Т. Ганчаровай, Н. Нагіной, Н. Загурскай-Паддубнай, А. Рабінінай і другімі. У свой час яны з ахвотай і бязвыплатна перадалі дарагія для іх пісьмы Коласа нашаму музею. Толькі А.А. Кетлер інтымныя пачуцці Коласа зрабіла прадметам гандлю. Мне здаецца, што і гэта дае ёй пэўную характарыстыку.

Нядаўна, тут у бальніцы [у жніўні–кастрычніку 1995 г. Д.Міцкевіч знаходзіўся ў лечкамісіі. — *Заўв. В.М.*] лячыўся

Георгій Ціханавіч Кавалеўскі — былы дырэктар Інстытута эканомікі АН БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Ён мне казаў, нібыта аднойчы Кетлер [муж А.А. Кетлер. — *Заўв. В.М.*] выказаў незадавальненне адносінамі яго жонкі А.А. Кетлер да Якуба Коласа. Неўзабаве Цанава выклікаў яго і прыгразіў яму, каб той не лез у іх адносіны.

*Подпіс Д. Міцкевіча 16/XI 1993 — 17/IX 1995*

*[Сямейны архіў, рукапіс Міцкевіча Д.К.]*

*Раздзел IV*

# «Пішу Вам кароценькае пісямко...»

## *Лісты розных асоб*

У сямейным архіве Данілы Канстанцінавіча захавалася шмат лістоў, паштовак, віншаванняў. У большасці сваёй — на бытавую тэматыку. Звярталіся таксама з рознымі просьбамі і прапановамі. Калі будаваўся філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне (хутар Смольня) і стваралася экспазіцыя, ішло аднаўленне мемарыяльных сядзіб у Акінчыцах, Альбуці, праводзіліся рэстаўрацыйныя работы ў Ластку, часта пісаў з Мікалаеўшчыны загадчык філіяла, дваюрадны брат Уладзімір Іванавіч Міцкевіч, каб вырашыць розныя рабочыя моманты. Звярталіся пісьмова расейскія, украінскія пісьменнікі і перакладчыкі да Данілы Канстанцінавіча і як да дырэктара музея, і як да сябра. Гэта лісты Паўла Кабзарэўскага, Міколы Нагнібеды, Яўгена Мазалькова, Сяргея Гарадзецкага і іншых.

Захаваўся стос пажоўклых, перакладзеных у некалькі разоў, старых паштовак ваеннага часу ад сяброў-таварышаў, многія з якіх пісалі з фронту: Мікалай Міцкевіч, Апанас Ахрэм, Віталь Філіповіч, Баніфацый Козак, Уладзімір Петухоўскі, Аляксей Лантас. На пачатку траўня 1945 года ўжо ў пераможаным Кёнігсбергу загінуў Аляксей Лантас.

У паштоўцы сябра Віталя Філіповіча ад 13 верасня 1941 года ёсць інфармацыя пра Янку Купалу. У каментарыі да тэксту паштоўкі мной пададзены ўрывак з успамінаў В.У. Філіповіча, што датычыць «турбот з шафёрам» Янкі Купалы.

Дзелавы ліст расейскага паэта і перакладчыка Яўгена Сямёнавіча Мазалькова яшчэ раз сведчыць, якая крапатлівая праца вялася па зборы, апрацоўцы, захаванню літаратурнай спадчыны народнага паэта Беларусі Якуба Коласа першымі супрацоўнікамі музея і асабіста Данілам Канстанцінавічам. З многімі пісьменнікамі яго звязвалі сяброўскія адносіны. Прывяду ліст жонкі Мазалькова Калерыі Іванаўны ад 8 ліпеня 1965 года: «*Розы... На Московском столе это чудо природы!.. Уважаемые Алла Тимофеевна и Даниил Константинович! Сердечно благодарю Вас за доставленное удовольствие, за Ваши ни с чем несравнимые по красоте розы. Мой милый супруг привёз их в полной свежести, — в гостинице дали банку с водой, — и я могу ими любоваться. Ещё раз благодарю Ваши сердца и руки. Горячий привет от Евгения Семёновича. С уважением Калерия Ивановна*».

З Барысам Паўлавічам Макарцавым сям'я Якуба Коласа пазнаёмілася ў 1938 годзе на адпачынку на Пухавіччыне, дзе Макарцаў быў камандзірам авіяцыйнай часці. Завязалася сяброўства сем'ямі, перапіска. Барыс Паўлавіч стаў пісьменнікам, драматургам. У 1952 годзе ў лісце да агульнай знаёмай Таісіі Мікалаеўны Ганчаровай Якуб Колас успамінаў, як яна пераплыла раку Балачанку, каб дастаць на другім беразе ракі газету «Правда», якую скінуў з самалёта Барыс Макарцаў. Пасля смерці Якуба Коласа Барыс Паўлавіч Макарцаў перадаў лісты паэта ў музей, перапісваўся з Данілам Канстанцінавічам. Сустракаліся яны і ў Маскве.

Пра Аляксея Аляксеевіча Слесарэнку трэба сказаць асобна. Ён быў сватам — адным з трох — майго бацькі ў 1960 годзе. Яшчэ ў 1945 годзе пазнаёміўся з Якубам Коласам, падрыхтаваў мастацкія кампазіцыі па творах паэта. Паспяхова выступаў чытальнікам-дэкламатарам

па ўсім былым Савецкім Саюзе. Празаік, нарысіст, акцёр. У 1960–1970-я гады працаваў у музеі Якуба Коласа. Чалавек творчы, эмацыянальны, прамалінейны, няўрымслівы, ён заводзіўся з паўабарота. Эрудзіраваны, цікавы суразмоўца, бясконца спрачаўся, з нечым пагаджаўся ці не пагаджаўся. Да маёй маці, да ўсіх нас, дзяцей, унукаў Коласа, адносіўся з любоўю. З запісных кніжак Данілы Міцкевіча: «*Вечарам хадзілі на прагулку з А. Слесарэнкам*», «*Быў і балбатун А.А. Слесарэнка*», «*15.XI.1970 г. зайшлі І. Шамякін і А. Слесарэнка — віншаваць мяне са званнем заслужанага дзеяча культуры БССР*», «*22.III.1974 г. ...выступаў з А.А. Слесарэнкам у архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме...*». У раздзеле V «Ад усяго сэрца дару…» прыведзены цікавыя інскрыпты А.А. Слесарэнкі. Амаль гімнам гучаць радкі з ліста Аляксея Слесарэнкі да сябра Данілы: «Буду завучваць, давучваць і паравучваць Коласаўскія тэксты».

№ 37

## Паштоўка Філіповіча В.У. да Міцкевіча Д.К. ад 13.09.1941

Данила!

Ни от Юрки, ни от тебя, исключая твоей дорожной открытки, ничего не получаю. Как я уже писал, я часто бываю в Москве и захожу на Б.[ольшую] Грузинскую к Ивану Доминиковичу, от них и Елисеева вам всем привет. Одно время И.[ван] Д.[оминикович] плохо себя чувствовал, да и много было забот с шофёром и вообще с хозяйством, но Артымик у них остался и всё утряслось.

Я от своей половины получаю очень редко письма, и она мои тоже не чаще — долго идут.

Очень рад вместе с вами после получения известия, что Юрка нашёлся. Я был почему-то в этом уверен, будем надеяться, что и в дальнейшем настанет тот день, когда мы снова дружной семьёй встретимся. Как Ташкент, что ты делаешь? Пиши по старому адресу: г. Истра Моск.[овская] обл.[асть], п/я 8, литер 11, Филипповичу В.У.

Заезжал вчера в Москву за И.[ваном] Д.[оминиковичем] и встретил в ресторане минчан.

С приветом всем вашим.

*Витя.*

Письмо Конст.[антина] Михайловича, М.[арии] Д.[митриевны] получил недавно, послал письмо вам.

## Каментарый:

Паштоўка захоўваецца ў сямейным архіве Міцкевіча Д.К.

На паштоўцы адрас: куда: г. Ташкент Уз.ССР, Первомайская, 20 Союз писателей, кому: Я. Коласу для Данилы Константиновича.

Адрас адправіцеля: г. Истра Моск. обл. п/я 8 лит. 11 Филипповичу В.У.

*Філіповіч Віталь Усцінавіч*, гл. каментарый да № 29.

*...от Юрки* — Міцкевіч Георгій (Юрый) Канстанцінавіч (1917–1941?), родны брат Міцкевіча Д.К., сярэдні сын Якуба Коласа, ваяваў на Заходнім фронце.

*Ивану Доминиковичу* — Янка Купала (Луцэвіч Іван Дамінікавіч) (1882–1942), народны паэт Беларусі.

*...и Елисеева* — Елісееў Канстанцін Сцяпанавіч (1890–1968), расейскі графік, мастак тэатра і кіно. З 1922 г. жыў у Маскве.

*Артымик у них остался...* — Яртымік Ілля, шафёр Янкі Купалы.

З успамінаў Філіповіча В.У. пра падзеі жніўня–верасня 1941 г.: «*Вскоре семья Якуба Коласа уехала из Москвы в Ташкент, а Янка Купала и Владислава Францевна перебрались на ул. Б. Грузинская и поселились на квартире художника Елисеева. Шофёр Янки Купалы Артымик, солдат старых дореволюцион-*

*ных армий, а впоследствии Красной Армии, где он служил рядовым в конном обозе, наконец, при Советской власти стал шофёром и ездил в Минске на подаренной властями Янке Купале машине «Шевроле». Но при переезде в Москву временно не мог приспособиться к московским улицам, и машина стояла во дворе дома Елисеева. Я несколько раз на ней ездил, и Иван Доминикович предложил мне взять её себе, но я отказался, всё равно её у меня забрало бы начальство полка, в котором я служил. Шофёра Артымика призвали на военную службу. Я решил пойти к райвоенкому с просьбой вернуть шофёра Янке Купале, какой прок армии от старого вояки, а Янка Купала со своими больными ногами нуждался хотя бы и в таком шофёре. Военком отказал мне. И я пришёл домой, помог Янке Купале одеть свой парадный костюм, прикрепил к лацкану орден Ленина и орден Знак Почёта, и мы вдвоём пошли снова в военкомат, где вид Ивана Доминиковича сделал своё дело, солдат Артымик был возвращён Купале. Однажды я приехал в Москву на грузовой машине, за боеприпасами и заглянул на Грузинскую, тётя Владя встретила меня с мольбой, срочно надо было вернуть Янку, он в это время пошёл в гостиницу «Москва» и, наверное, там застрял в ресторане. Я прямо на грузовой машине подъехал к гостинице и действительно в ресторане на третьем этаже застал сидящим за столиком Янку Купалу, а за соседним столиком шла пьяная драка между танкистами и лётчиками. Я вовремя увёл Ивана Доминиковича и по ночной Москве отвёз его на своей грузовой машине домой*» [ДзЛММЯК, КП-31522].

*Я от своей половины...* — Фядзюніна Яўгенія Мікалаеўна (1917–2010), жонка Філіповіча В.У., знаходзілася ў эвакуацыі ў Омску з сынам Уладзімірам, 1940 года нараджэння.

№ 38

## Ліст Макарцава Б.П. да Міцкевіч А.Ц. і Міцкевіча Д.К. ад 10.08.1966

Дорогие Аллочка и Даник!

Большое Вам спасибо за копии писем Якуба Коласа — для меня это святыня!

Буду думать о воспоминаниях, это ведь надо сделать очень хорошо и оригинально, хватит ли у меня сил и умения? А вспомнить есть чего — мне посчастливилось быть свидетелем многих интересных моментов из жизни Великого Поэта. Никто не мог так просто и тепло относиться к людям, как Якуб Колас. У него было удивительное лицо, словно пропитанное солнечными лучами. И тихий, спокойный, но полный какой-то непонятной силы внушения голос. Он мог в простых словах сказать то, что запоминалось на всю жизнь. А его неповторимая любовь к природе — «дубок» для него был олицетворением чего-то живого. Собирая грибы, он обращался с ними ласково, словно со своими внучатами. Так любить людей, природу мог только великий человек.

Как великолепно он мог зажигаться настроением своего собеседника, как тактично и по-отечески он мог поддержать бодрость духа и влить надежду на хороший исход любого дела. Он любил авиацию и авиаторов, интересовался ходом прогресса этого рода войск. А сколько было естественного юмора в живой натуре поэта. Его остроты никогда не были саркастическими, он любил шутить легко и весело. Его рассказы о «похождениях» за границей каждый слушал с большим наслаждением. Случалось мне быть и в его «святое святых» — кабинете «на верху». Это был своеобразный храм творчества. Меня всегда охватывало ка-

кое-то торжественное настроение, когда я подходил к столу, где работал Якуб Колас. Я никогда ничего не спрашивал, я только смотрел и слушал.

Так я могу писать бесконечно о Якубе Коласе. Он стоит передо мной живой и бессмертный.

Ещё раз спасибо! Будете в Москве — прямо к нам. Привет от «колхоза» Макарцевых.

*Ваш Б. Макарцев*
*10.8.66.*

## Каментарый:

Ліст захоўваецца ў сямейным архіве Міцкевіча Д.К.

Ліст у канверце з адрасам: БССР, г. Минск, Ленинский прос., 66-а. Литературный музей Якуба Коласа. Мицкевичу Даниилу Константиновичу.

Адрас адпраўіцеля: Москва, А-319, Черняховского, 4, кв. 107. Макарцев Б.П.

*Макарцаў* — Макарцаў Барыс Паўлавіч (1903–1985), расейскі драматург, празаік. Знаёмы з Якубам Коласам і яго сям'ёй з лета 1938 г., калі паэт праводзіў адпачынак на Пухавіччыне. У той час Макарцаў Б.П. — ваенны лётчык, камандзір авіяцыйнай часці ў Пухавічах і Менску.

*Его рассказы о «похождениях» за границей...* — паездка Якуба Коласа ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў у 1935 г. у Парыж на Міжнародны кангрэс пісьменнікаў у абарону культуры.

*...от «колхоза» Макарцевых* — так жартаўліва Макарцаў Б.П. назваў сваіх сямейнікаў.

## № 39

## Ліст Мазалькова Я.С. да Міцкевіча Д.К. ад 10.02.1967

Дорогой Даниил Константинович!

Давно не писал Вам, — болела Калерия Ивановна, затем сам грипповал и вообще слишком много забот.

В начале ноября этого года — 85 лет со дня рождения Якуба Коласа.

Может быть, Вы дадите письма Константина Михайловича, которые я передал Вам, в «Неман», а если они не захотят — в «Полымя», в связи с этой датой. Я думаю, М. Танк поддержит это дело.

Что у Вас нового?

Сердечный привет Алле Тимофеевне и Вам от Калерии Ивановны.

*Ваш Евг.[ений] Мозольков.*
*10/II 67 г.*

### Каментарый:

Ліст захоўваецца ў сямейным архіве Міцкевіча Д.К.

*Мазалькоў Яўген Сямёнавіч* (1909–1969), расейскі літаратуразнавец, перакладчык, крытык.

*Калерия Ивановна* — Мазалькова (Ігнатовіч) К.І., гл. раздзел V.

*Алле Тимофеевне* — Міцкевіч А.Ц., гл. каментарый да № 35.

*М. Танк* — Максім Танк (гл. раздзел V) — у той час галоўны рэдактар часопіса «Полымя», у 1967–1990 гг. — старшыня праўлення СП Беларусі.

Лісты Якуба Коласа да Мазалькова Я.С. былі надрукаваны ў часопісе «Нёман» у 1970 г. (гл. раздзел «Бібліяграфічны паказальнік»).

## № 40

## Ліст Слесарэнкі А.А. да Міцкевіча Д.К. [ад 18.07.1972]

Даніла, Дарагі!

Дзьве ночы праспаў я ўжо на ўкраінскім беразе Дняпра, у палатцы. В[алянціна] Ц[імафееўна] забаставала і першую ноч заставалася ў хаце. На другі дзень к вечару з'явілася, як на галгофу, але пераначавала і заявіла, што адчувае сябе бадзёрай і «не пойдзе на дно». Более таго, сцвярджае, што няма нічога лепшага ў нашым стагоддзі, як сонца, вада і паветра.

Тут, сапраўды, стаяць лагодныя дні і калі не быць дурнем, дык можна назапасіць сабе моцы. Буду завучваць, давучваць і перавучваць Коласаўскія тэксты. А метацца не буду. Камандзіроўкі не ўдалося схапіць, дык чаго мне са скуры вылазіць! Будзе яшчэ на тое час.

Хачу і пісьмова сказаць, што ты не шануешся і бастуеш больш зацята, чым вядомая і ўсё тая ж В[алянціна] Ц[імафееўна]. Няхай бы ты хаця ў Нёмане срэбнаводным папаласкаўся трохі.

Як адзагарала Верачка? І куды менавіта, разам са сваёй нестарэючай мамай, накіруюцца абедзьве?

Маё запрашэнне прыехаць сюды з усёю сям'ёю тваёю, застаецца ў сіле. Гэта было б усім прыемна і карысна.

Будзе вольная хвіліна і ахвота — чыркані: Любеч, Чарнігаўскай, да запатрабавання (мне).

Жадаю здароўя і шчасця! Вітай Міхася. Няхай прыязджае з сям'ёю сюды, купаецца.

*Аляксей Слесарэнка*

## Каментарый:

Ліст захоўваецца ў сямейным архіве Міцкевіча Д.К.

Ліст у канверце, дата ўзноўлена па штэмпелю. Дасланы з в. Любеч Чарнігаўскай вобл. УССР на адрас: Беларуская ССР, Мінск, Ленінскі пр-т, 68-Б, кв. 1. Данілу Міцкевічу.

*Слесарэнка Аляксей Аляксеевіч* — гл. раздзел V.

*В.Ц.* — Слесарэнка Валянціна Цімафееўна (1928–1997), жонка Слесарэнкі А.А.

*Як адзагарала Верачка?* — Міцкевіч В.Д., гл. каментарый да № 35. Адпачывала ў піянерскім летніку «Геолаг» на возеры Вяча пад Менскам.

*мамай* — Міцкевіч А.Ц., гл. каментарый да № 35.

*Міхася* — Міцкевіч М.К., гл. каментарый да № 4.

*Раздзел V*

# «Ад усяго сэрца дару…»

## *Дарчыя надпісы Міцкевічу Д.К.*

Адну з кніжных шафаў хатняй бібліятэкі Данілы Канстанцінавіча займаюць кнігі, брашуры, часопісы з дарчымі надпісамі. У гэтай кнізе інскрыпты прадстаўлены самым вялікім па аб'ёме раздзелам у алфавітным парадку.

Дарчыя надпісы Данілу Канстанцінавічу пакінулі многія: пісьменнікі, навукоўцы, супрацоўнікі музеяў і сябры юнацтва. За кожным надпісам праглядаецца свая гісторыя. І, безумоўна, было б цікава прадставіць кожную з іх, што наўрад ці магчыма. Але паспрабую расставіць некаторыя акцэнты.

Кнігі дарылі ў знак павагі, з падзякай за дапамогу і парады ў сваёй творчай працы, на памяць пра сяброўства, пра Якуба Коласа, якога многія з адрасатаў ведалі асабіста. А ў асобе Данілы Канстанцінавіча бачылі першага заступніка спадчыны Якуба Коласа. Дарагога варты запіс Мікалая Іванавіча Міцкевіча, выхаванца сям'і Коласа: «Дарагому Даніілу Канстанцінавічу Міцкевічу, які замяніў мне брата і шмат дапамог у жыцці…».

Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі падпісаў Данілу Канстанцінавічу сваю знакамітую паэму пра байца Васіля Цёркіна коратка і лаканічна размашыстым почыркам. 20–24 чэрвеня 1949 года ў Менску праходзіў Другі з'езд пісьменнікаў БССР, 23 чэрвеня адкрывалі помнік Янку Купалу ў Цэнтральным скверы сталіцы рэспублікі. У гэтых мерапрыемствах прымаў удзел Аляксандр Твардоўскі, расейскі паэт, былы франтавік, сябар і калега Якуба Коласа.

А 25 чэрвеня адбылася іх сустрэча ў доме народнага паэта. І пра пісьменніцкія справы, пра маладых літаратараў пагаварылі, і па-сяброўску за сталом пасядзелі. Даніла Канстанцінавіч атрымаў у падарунак ад Твардоўскага кнігу з дарчым надпісам. Прыгожая кніга ў супервокладцы, з малюнкамі Арэста Вярэйскага. Бацька з вялікай пашанай успамінаў Аляксандра Трыфанавіча, высока цаніў яго грамадзянскую пазіцыю. У нашай хаце захоўваецца кружэлка з запісам паэмы «Цёркін на тым свеце» ў аўтарскім выкананні, якую любіў часам паслухаць мой бацька і нават цытаваў праз шмат гадоў. У 1977 годзе Даніла Канстанцінавіч па музейных справах звяртаўся ў Савет Міністраў БССР. Пры ўваходзе ў Дом урада быў заведзены на той час — цытую па запісах — «*дурны парадак: не пускаць з партфелямі, трэба партфелі здаваць на вешалку*». На што бацька запісаў далей: «*Праўду казаў А. Твардоўскі: Дураков — хоть пруд пруди, да каких ещё набитых, что в Системе, что в Сети…*».

З Якубам Коласам, пазней з Данілам Канстанцінавічам і Аляўцінай Цімафееўнай Міцкевічамі сябравала паэтычная сямейная пара з горада на Няве — Марыя Іванаўна Камісарава і Мікалай Леапольдавіч Браўн. Паэзію беларускіх песняроў Коласа і Купалы Мікалай Браўн называў «сапраўднай народнай стыхіяй», удзельнічаў у стварэнні «Антологии белорусской поэзии» (Ленінград, 1948), дзе прадстаўлены яго пераклады сямнаццаці беларускіх аўтараў. З Марыяй Іванаўнай яны неаднаразова наведвалі Менск, Стаўбцоўшчыну, Наваградак. Сустракаліся ў Ленінградзе (Санкт-Пецярбургу), дарылі кнігі. Ужо пасля смерці Мікалая Леапольдавіча, у Менску выйшла кніга выбраных вершаў у перакладзе на беларускую мову. У вершы «Беларусі» (у перакладзе Пятра Прыходзькі) гучаць словы любові і пяшчоты да суседкі-рэспублікі і беларусаў:

Самацветам народнае слова іскрыцца,
Ў ім і ясныя зоркі й зарніцы гарацьь.
Гэта песні Купалы звіняць, бы крыніцы,
Гэта Коласа думы, як птахі, ляцяць.

Я лаўлю тыя думы і песні ў дубровах,
Нібы п'ю з серабрыстай крыніцы ваду.
Ты навек увайшла ў маё сэрца і слова,
Беларусь, мая песня, сястра Беларусь.

«Тры грацыі рознай нацыі» — так жартаваў Якуб Колас на падараваны яму фотаздымак у Ташкенце ў 1943 годзе. На ім — сяброўкі па пяры — паэтэсы і перакладчыцы Зульфія, Эдзі Агняцвет і Святлана Сомава.

У чэрвені 1967 года народная паэтэса Узбекістана Зульфія брала ўдзел у дэкадзе ўзбекскай літаратуры і мастацтва ў Беларусі. 8 чэрвеня ўрачыста адкрылі філіял Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў Смольні. Тады ж і падаравала Зульфія свае кнігі старэйшаму сыну песняра. Эдзі Агняцвет падчас вайны знаходзілася ў эвакуацыі ў Ташкенце, сябравала з Якубам Коласам і яго сям'ёй, ліставалася з паэтам. Шмат гадоў прымала ўдзел у коласаўскіх мерапрыемствах, была сябрам музея песняра, перадала ў музей рукапісы паэта. Святлана Аляксандраўна Сомава захавала шмат вершаў, лістоў Якуба Коласа. У 1967 годзе Даніла Канстанцінавіч сустракаўся з ёй у Маскве. На жаль, арыгіналы рукапісаў перадаць у музей яна не пажадала. Яны былі перафатаграфаваны, часткова надрукаваны ў Зборы твораў паэта ў 14 тамах, а найбольш поўна — у апошнім, 20-томным выданні.

Можна і далей бясконца адчыняць куфар з гісторыяміпрыгадкамі, многія з якіх заслугоўваюць асобных старонак і асобных артыкулаў, што, спадзяюся, будзе абавязкова зроблена.

Адкрывае раздзел «Ад усяго сэрца дару…» жартаўлівы надпіс Мірзы Масэсавіча Авакава, сябра Данілы Канстанцінавіча, у доме якога ў 1959 годзе выпадкова сустрэліся ўпершыню мае бацькі. Дзядзьку Мірзу любілі мы, Коласавы ўнукі. Ён быў вясёлы, гаваркі, з намі гуляў у дзіцячыя гульні.

Апошні ў раздзеле дароўны запіс належыць выдатнай паэтэсе, «кветцы Палесся» Яўгеніі Янішчыц. Мне адразу прыпамінаюцца яе задуменнасць, сціплы позірк, мілая рэдкая ўсмешка, нават нейкая адсутнасць у рэальнасці. Прыкладна сярэдзіна 1970-х гадоў. Красавік. Чырвоны касцёл у Менску. Канцэртовая зала. Дзённы час. Літаратурна-музычная сустрэча, прымеркаваная да чарговай гадавіны з дня нараджэння Леніна. Выступленне швагра майго бацькі — Леаніда Пятровіча Юшкевіча, таленавітага піяніста і педагога тагачаснай кансерваторыі, цяпер ён прафесар Беларускай акадэміі музыкі. Ён граў любімую санату Леніна — «Апасіянату» Л. Бетховена. Запомнілася і эмацыянальнае, узнёслае выступленне Яўгеніі Янішчыц: твар свеціцца радасцю, вочы блішчаць, голас усхваляваны. Пасля канцэрта ўсе разам выйшлі на плошчу, пайшлі пешшу. Яўгенія-Жэнечка ўжо іншая — уся ў сабе, сваіх думах, вочы сумныя, далёкія. Развіталіся. У мяне нейкая ўнутраная занепакоенасць, па юнацкай нястрыманасці кажу: «Яна такая незвычайная, але ж вельмі сумна выглядае, нешта здарыцца ў яе жыцці». Бацька ў адказ: «Не выдумляй, ты яшчэ зусім дзяўчо. Вясна на двары, радуйся і не кажы розных глупстваў». А я на ўсё жыццё запомніла тыя яе вочы і свае прадчуванні. Яўгенія Іосіфаўна падпісала Данілу Канстанцінавічу сваю кнігу лірыкі і напрыканцы паставіла двукроп’е. Відаць, невыпадкова, бо на наступнай старонцы кнігі надрукаваны верш без назвы. І дароўны надпіс

атрымаўся з працягам. Таму мне падалося лагічным даць некалькі радкоў з таго верша.

## Мірза Авакаў

**На добрую память Даниле от Мирзы. 14/XII-61 г.**

*На кнізе:* М.М. Аваков. Правопреемство Советского государства. М., 1961.

**«Если бы ты знал…». Дорогому Мушкетеру от еще живого автора. М. Аваков. 25/VI-67 г.**

*На аўтарэфераце:* М.М. Аваков. Правопреемство государств, возникших в результате социальных революций и национально-освободительной борьбы : автореферат диссертации на соискание ученой степени доктора юридических наук. Л., 1967.

*Авакаў Мірза Масэсавіч* (1925–1987), юрыст-міжнароднік. Сябар Міцкевіча Д.К. з пачатку 1950-х гг.

## Эдзі Агняцвет

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу, якога помню з Доміка пад Мінскімі соснамі — з пажаданнем вялікага шчасця ў Новым Годзе. Эдзі Агняцвет. 17.XII.70 г.**

*На кнізе*: Эдзі Агняцвет. Піянерская гама : вершы і паэмы. Мн., 1970.

*Агняцвет Эдзі* (сапр. *Каган Эдзі Сяменаўна,* 1913–2000), беларуская паэтэса.

## Алесь Адамовіч

**Дарагому Даніле Канстанцінавічу — шчыра!** Подпіс А.М. Адамовіча.

*На кнізе:* Я з вогненнай вёскі… Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік. Мн., 1975.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу-Коласу ад душы!** Подпіс А.М. Адамовіча**.**

*На кнізе:* Алесь Адамович. Кузьма Чорный. Уроки творчества. М., 1977.

**Паважанаму Данілу Канстанцінавічу — шчыра! Алесь Адамовіч.**

*На кнізе:* Алесь Адамович. Хатынская повесть. Каратели. М., 1983.

**Дарагому Даніле Канстанцінавічу. Алесь Адамовіч. 15.3.87**

*На часопісе:* Новый мир. 1987. № 3. С. 3. (Алесь Адамовіч. Последняя пастораль.)

*Адамовіч Алесь (Аляксандр) Міхайлавіч* (1927–1994), беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, кінасцэнарыст, грамадскі дзеяч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1976).

## Заір Азгур

**Даніле Міцкевічу — у знак найлепшых пачуццяў і пажаданняў. Азгур. 19 мая 1962 г.**

*На кнізе:* Заір Азгур. Незабыўнае. Мн., 1962.

**Данілу, другу і таварышу на добры ўспамін. Заір Азгур. 1993, 10 жнівень.**

*На кнізе:* Заир Азгур. То, что помнится… Рассказ о времени, об искусстве и о людях. Мн., 1977.

**Даниле Мицкевичу. Заір Азгур. 27 [нрзб] 94 г.**

*На кнізе:* Заір Азгур. То, что помнится… Книга вторая. Мн., 1984.

*Азгур Заір Ісакавіч* (1908–1995), беларускі скульптар, народны мастак Беларусі і СССР, аўтар помніка Якубу Коласу ў Менску.

## Валянціна Аколава

**Шаноўнаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — ад случанкі Валі Аколавай: шчыра, з любасцю, да Беларусі… На духоўную еднасць! 13 жніўня 1991 г. Менск. Валянціна Аколава.**

**Хітрэц-гандляр сівы залоціць волас…**
**Нашто яму духоўнае пісьмо?!**
**— Ах, дзядзька Колас, мудры дзядзька Колас,**
**Мінулага і сённяга — вязьмо…**
**Надзейліва, змайстравана бацькамі,**
**Стагоддзю сённяму — і заўтраму ў запас…**
**Народнымі і мудрымі радкамі**
**Шапчу: «Ваш сын — як мужны князь пры Вас!!!»**

*На кнізе:* Валянціна Аколава. Вяртанне ў заўтра : лірыка. Мн., 1990.

*Аколава Валянціна Валянцінаўна* (нар. у 1954 г.), беларуская паэтэса, перакладчыца.

## Сцяпан Александровіч

**Глыбокапаважанаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — сыну Вялікага Якуба Коласа. 24.IV.1962 г. Сц. Александровіч.**

*На кнізе:* Сцяпан Александровіч. Ад роднае зямлі… Мн., 1962.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай. 24.II.1966 г. Сц. Александровіч.**

*На кнізе:* Сцяпан Александровіч. Па слядах паэтычнай легенды. Мн., 1965.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — сыну Вялікага Якуба Коласа. Сц. Александровіч. 1.VII.1966 г.**

*На кнізе:* Степан Александрович. От родной земли… Мн., 1966.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай. 12.VIII.1971 г. Сц. Александровіч.**

*На кнізе:* С.Х. Александровіч. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай. 2 лютага 1973 г. Сц. Александровіч.**

*На кнізе:* Сцяпан Александровіч. На шырокі прастор. Аповесць пра Якуба Коласа. Мн., 1972.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай. 11 верасня 1975. Сц. Александровіч.**

*На кнізе:* Сцяпан Александровіч. Тут зямля такая… Мн., 1974.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай і ўдзячнасцю. 21.XI.1981. Сц. Александровіч.**

*На кнізе:* Сцяпан Александровіч. Слова — багацце : літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1981.

*Александровіч Сцяпан Хусейнавіч* (1921–1986), беларускі літаратуразнавец, крытык і празаік, краязнавец.

## Сцяпан Андруховіч

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу. С. Андруховіч. 13/VII-70 г.**

*На каталогу*: Выстаўка твораў мастака С.А. Андруховіча, прысвечаная 60-годдзю з дня нараджэння : каталог. Мн., 1969.

*Андруховіч Сцяпан Адамавіч* (1909–1989), беларускі мастак, жывапісец.

## Артысты БДТ імя Якуба Коласа

**Данілу Канстанцінавічу! На ўспамін у час наведвання коласаўскага музея. Хай будзе светлым гэты дзень і добра, добра на душы. З павагай З. Канапелька.** Подпісы Т. Мархель, Л. Трушко і яшчэ пяці чалавек. **2 чэрвеня 1987 г.**

*На кнізе*: Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Мн., 1986.

## Анатоль Астрэйка

**Даніле Міцкевічу. Чалавеку добрага сэрца. Шчыра. З павагай. Анатоль Астрэйка. 25.1.61. Мінск.**

*На кнізе:* Анатоль Астрэйка. Зямля мая : вершы. Мн., 1952.

*Астрэйка Анатоль (Акім) Пятровіч* (1911–1978), беларускі паэт, перакладчык.

## Мікола Аўрамчык

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу з любоўю і павагай, ад усяго сэрца. Мікола Аўрамчык. 26.1.61 г.**

*На кнізе:* Мікола Аўрамчык. Ключы жураўліныя. Мн., 1960.

*Аўрамчык Мікола (Мікалай ) Якаўлевіч* (нар. у 1920 г.), беларускі паэт, празаік, перакладчык.

## Майсей Ахрыменка

**Глубокоуважаемому Даниилу Константиновичу Мицкевичу от автора. 11/VII-49 г.** Подпіс М.П. Ахрыменкі.

*На кнізе:* М.П. Охрименко. Практическое руководство по озеленению городов и крупных населенных пунктов БССР. Мн., 1947.

*Ахрыменка Майсей Пятровіч*, вучоны-батанік; да вайны працаваў у аранжарэі Батанічнага сада АН БССР.

## Апанас Ахрэм

**Другу и товарищу Даниле Константиновичу в личную библиотеку. Афанасий. Москва. 4.3.46 г.** Подпіс А.А. Ахрэма.

*На кнізе:* Г.Д. Смит. Атомная энергия для военных целей. М., 1946.

**Даниле от Афанасия. 18.VIII.51 г. Минск.** Подпіс А.А. Ахрэма.

*На часопісах:* Журнал общей химии АН СССР. 1950. Т. XX, вып. 12 ; Известия АН СССР. 1950. № 6. (И.Н. Назаров и А.А. Ахрем. Производные ацетилена.)

**Дорогому Даниле. 1.VIII.55 г. Ахрем. г. Минск.**

*На часопісе:* Журнал общей химии АН СССР. 1955. Т. XXV, отдельный оттиск. (И.Н. Назаров и А.А. Ахрем. Производные ацетилена.)

**Дорогому Даниле Константиновичу на добрую память от автора. 11.XII.58 г.**

*На зборніку:* Доклады АН СССР. 1958. Т. 120. № 4. (М.И. Батуев, А.А.Ахрем и др. Оптическое исследование конформаций некоторых гем-замещенных циклогексанов.)

**Дорогому Даниилу Константиновичу на добрую память в знак старой дружбы. А. Ахрем. 28.VI.59. г. Минск.**

*На часопісе:* Известия АН СССР. 1959. № 3. (А.А. Ахрем. Совещание по конформационным представлениям в органической химии.)

**Дорогому Даниилу Константиновичу на добрую память. А. Ахрем. 1967 г.**

*На кнізе:* А.А. Ахрем, А.И. Кузнецова. Тонкослойная хроматография. М., 1964.

**Дорогому Даниле в день 60=и летия с наилучшими пожеланиями в знак давнишней дружбы. А. Ахрем. 29.09.74 г. Минск.**

*На кнізе:* А.А. Ахрем и др. Экдизоны — стероидные гормоны насекомых. Мн., 1973.

**Дорогому Даниилу Константиновичу на добрую память и с наилучшими пожеланиями. А. Ахрем. X.1995 год.**

*На кнізе:* А.А. Ахрем, Н.В. Ковганко. Экдистероиды. Мн., 1989.

*Ахрэм Апанас Андрэевіч* (1913–2010), беларускі вучоны, хімік-біяарганік. Сябар Міцкевіча Д.К. з даваенных гадоў.

## Алесь Бажко

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу, даўняму сябру, цудоўнаму чалавеку і земляку свайму на добры ўспамін з найлепшымі пажаданнямі. Алесь Бажко. Мінск. 1 VII 80 г.**

*На кнізе:* Алесь Бажко. Перад вераснем. Позняе ворыва. Мн., 1979.

*Бажко Алесь (Аляксандр) Цімафеевіч* (1918–2013), беларускі пісьменнік.

## Рыгор Барадулін

**Даніла Канстанцінавіч, з пашанай і павагай прыміце гэтую кніжыцу. Ваш Рыгор. 6.1.72 г.**

*На кнізе:* Рыгор Барадулін. Станцыя кальцавання : гумарыстычныя вершы. Мн., 1971.

**Данілу К. Міцкевічу**

**Дажджом лугавым**
**Аблачына радуе.**
**Пасаг багаты ў багатай скрыні.**
**Ад яблыні яблык далёка не падае.**
**І паўтараецца бацька ў сыне.**
**Сын бацькаву мулкую думку**
**Пялегуе.**
**Бядзіць яго бацькаў клопат пякучы.**
**Бо мусіць знадзеіць**
**Траву палеглую,**
**Як вольнакроны думак на кручы.**
**Лёс на буслова гняздо**
**Выгне кола сам.**
**Каравай не таннай славай**
**Пячэцца.**

**Сьлядамі веры**
**За бацькам Коласам**
**Ісьці нялёгка,**
**Таму й пачэсна!**

**17.XI.94. Менск. Рыгор Барадулін.**

*На кнізе:* Беларусь мяне збеларушвае. Словы любові : вершы / пераклады Рыгора Барадуліна. Мн., 1993.

*Барадулін Рыгор Іванавіч* (1935–2014), беларускі паэт, перакладчык. Народны паэт Беларусі (1992).

## Мікалай Барысевіч

**Вельмішаноўнаму Данілу Канстанцінавічу ад навуковага рэдактара. 4.09.79 г.** Подпіс Барысевіча М.А.

*На кнізе:* Акадэмія навук Беларускай ССР. Мн., 1979.

*Барысевіч Мікалай Аляксандравіч* (нар. у 1923 г.), беларускі вучоны, фізік, прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў 1969–1987 гг.

## Алесь Бачыла

**Дарагому Данілу Міцкевічу з самымі шчырымі пажаданнямі. Алесь Бачыла. 29.XI.59.**

*На кнізе:* Алесь Бачыла. Зоры вясеннія. Мн., 1954.

**Д. Міцкевічу. Ад душы і ў памяць многіх сустрэч. Алесь Бачыла. 29.XI.59 г.**

*На кнізе:* Алесь Бачыла. Яснае світанне. Мн., 1958.

**Данілу Міцкевічу ад самага шчырага сэрца. Алесь Бачыла. 29.XI.59.**

*На кнізе:* Алесь Бачыла. Юнацтва : вершы і паэмы. Мн., 1959.

*Бачыла Алесь (Аляксандр) Мікалаевіч* (1918–1983), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

## Міхаіл Безбародаў

**Глубокоуважаемому Данилу Константиновичу Мицкевичу от автора. 7 янв. 1949, г. Минск.** Подпіс М.А. Безбародава.

*На кнізе:* М.А. Безбородов. М.В. Ломоносов и его работа по химии и технологии силикатов. М.; Л., 1948.

*Безбародаў Міхаіл Аляксеевіч* (1898–1983), беларускі вучоны, фізікахімік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

## Анатоль Белы

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з найлепшымі пажаданнямі ў Адраджэнне Беларусі, а таксама з нагоды 125 угодкаў скону К. Каліноўскага. Анатоль Белы. 31.V.89 г.**

*На каталогу*: Кастусь Каліноўскі і студзеньскае паўстанне 1863 года на Беларусі : збор мастацкіх твораў. Мн., 1989.

*Белы Анатоль Яўхімавіч* (1939–2011), беларускі грамадскі дзеяч, калекцыянер, заснавальнік Старадарожскага музея выяўленчага мастацтва.

## Мацвей Беляніцкі

**Дорогому Даниле Константиновичу Коласу на добрую память о консультации во время моей работы над картиной «Первый арест Якуба Коласа». 8 июля 1970 г. М. Беленицкий.**

*На каталогу*: Выстаўка твораў мастака М.З. Беляніцкага, прысвечаная 60-годдзю з дня нараджэння : каталог. Мн., 1969.

*Беляніцкі Мацвей Захаравіч* (1909–1990), беларускі мастак, жывапісец.

## Мікалай Браўн

**Дорогому, замечательному, полюбившемуся мне глубоко, человеку, которого никогда не забудет мое сентиментальное сердце — Даниле Константиновичу — Коласу — Мицкевичу — в память любви моей к поэту и человеку — великому отцу его — Якубу Коласу. Николай Браун. 1958, 29 января.**

*На кнізе:* Николай Браун. Разговор с другом : стихи. Л., 1957.

**Дорогому Даниле Константиновичу Мицкевичу-Коласу, человеку большой души, светлого напоминания о Константине Михайловиче в дни встреч, задушевных бесед — на добрую, долгую память. Николай Браун. 1961, 21 августа.**

*На кнізе:* Николай Браун. Молодость. Л., 1960.

**Дорогому Даниле Константиновичу Мицкевичу — сердечному человеку с самым сердечным расположением. Николай Браун. 1962, 4 июля.**

*На кнізе:* Николай Браун. Стихотворения. М., 1958.

**Дорогим Даниле Константиновичу и Алле — голоса тех, кто вечно будет с нами — дружески с любовью. Н. Браун. Ленинград. 1963, V, 19.**

*На кружэлцы:* Говорят писатели (Л. Толстой, А. Куприн, В. Вересаев, В. Брюсов, В. Маяковский, С. Есенин, Э. Багрицкий, А. Серафимович, А. Луначарский, М. Горький, П. Павленко, Н. Островский, В. Вишневский, А. Толстой, А. Фадеев, А. Довженко. Комментирует: И. Андроников). Апрелевский завод грампластинок.

**Давним дорогим друзьям — Алле Тимофеевне и Даниле Константиновичу — с глубоким уважением и неизменной крепкой любовью. Николай Браун. 1972, 23 ноября. Ленинград.**

*На кнізе:* Николай Браун. Избранное : в 2 т. Л., 1972. Т. 1.

**Дорогим и навечно милым друзьям — Алле Тимофеевне и Даниле Константиновичу — очень сердечно — Николай Браун. 1972. 23. XI.**

*На кнізе:* Николай Браун. Вехи времени. Л., 1971.

*Браўн Мікалай Леапольдавіч* (1902–1975), расейскі паэт, перакладчык.

## Аркадзь Брыж

**Даниле Константиновичу Мицкевичу и его дому — от московского гостя, заходившего осенью 1976 года во время Дней польской литературы. Бриш. см. стр. 248 стихи памяти Якуба Коласа.**

*На кнізе:* Книга друзей. М., 1975.

*Брыж (Бриш) Аркадзь Адамавіч* (нар. у 1917 г.), расейскі вучоны, распрацоўшчык ядзернай зброі. Сын Брыжа Адама Лукіча, настаўніка, знаёмага сям'і Якуба Коласа. У першыя дні акупацыі Менска Брыжы перавезлі сейф з папялішча дома Коласа і схавалі яго па вуліцы Красівай. Пасля вызвалення Менска сейф адкапалі, і цяпер ён знаходзіцца на часовым захоўванні ў сталічным музеі песняра.

## Янка Брыль

**Дарагому другу Данілу — міламу, светламу чалавеку. 4.VIII.77 г. Янка Брыль.**

*На кнізе:* Янка Брыль. Акраец хлеба : аповесць, апавяданні, лірычныя запісы. Мн.,1977.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу — у знак сяброўскай павагі і з найлепшымі пажаданнямі. 30.IX.84. Янка Брыль.**

*На кнізе:* Янка Брыль. Збор твораў : у 5 т. Мн., 1979. Т. 1: Апавяданні.

**Дарагому сябру Данілу Канстанцінавічу. Я. Брыль. 26.VII.85.**

*На кнізе:* Янка Брыль. Сёння і памяць : апавяданні, мініяцюры, эсэ. Мн., 1985.

**Дарагім Данілу Канстанцінавічу і Але Цімафееўне на добры ўспамін. 8.II.93 г. Я. Брыль.**

*На кнізе:* Янка Брыль. Проблiскі : мініяцюры. Мн., 1992.

*Брыль Янка (Іван) Антонавіч* (1917–2006), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік Беларусі (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1982).

## Антон Бялевіч

**Дарагому, шчыраму другу майму Данілу Міцкевічу. Сардэчна. А. Бялевіч. 26/I 61 г.**

*На кнізе:* Антон Бялевіч. Дарогай шчасця : вершы і паэмы. Мн., 1952.

**Дарагому Данілу Міцкевічу. Ад усяго сэрца — А. Бялевіч. 27/I — 61 г.**

*На кнізе:* Антон Бялевіч. З добрай доляй заручоныя : нарысы. Мн., 1960.

**Дарагому Данілу Міцкевічу — сыну Якубаву, цудоўнаму чалавеку, якога я шчыра люблю. З пашанай. А. Бялевіч. 27/ IV.71 г.**

*На кнізе:* Антон Бялевіч. Чарадзеі : кніга ўспамінаў. Мн., 1970.

*Бялевіч Антон Пятровіч* (1914–1978), беларускі паэт, празаік, публіцыст.

## Рыгор Бярозкін

**Данілу Канстанцінавічу з пачуццём самай шчырай і сардэчнай прыязнасці. Р. Бярозкін. 29-XI-59.**

*На кнізе*: Рыгор Бярозкін. Паэзія праўды. Мн., 1958.

*Бярозкін Рыгор Саламонавіч* (1918–1981), беларускі крытык, літаратуразнавец.

## Юрый Вадзецкі

**Многоуважаемому Даниилу Константиновичу на добрую память от автора. 30.VII.1978 г.** Подпіс Ю.В. Вадзецкага.

*На кнізе:* Ю.В. Вадецкий. Бурение нефтяных и газовых скважин. М., 1978.

*Вадзецкі Юрый Вячаслававіч* (1923–2006), расейскі вучоны ў галіне нафтавай прамысловасці і бурэння скважын. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расеі.

## Леанід Вазнячук

**Вельмiпаважаным і дарагім Алле Цімафееўне і Данілу Канстанцінавічу Міцкевічам з глыбокай пашанай і найлепшымі пажаданнямі ад аўтараў. 22.I.80. Мінск.** Подпіс Л.М. Вазнячука.

*На кнізе:* Л.Н. Вознячук, М.А. Вальчик. Морфология, строение и история долины Немана в неоплейстоцене и голоцене. Мн., 1978.

*Вазнячук Леанід Мікалаевіч* (1929–1981), беларускі вучоны, геолаг.

## Іосіф Васілеўскі

**Даниле Константиновичу Мицкевичу с чувством самого глубокого уважения, от всего сердца. И. Василевский. 23 апреля 1980 г.**

*На кнізе*: Извечной песни голоса : белорусская лирика / составитель и переводчик Иосиф Василевский. Мн., 1980.

*Васілеўскі Іосіф Іосіфавіч* (1911–1994), расейскі паэт, перакладчык.

## Вучні СШ № 68 г. Мінска

**Найшаноўнаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — у знак вялікай удзячнасці за даўнюю дружбу з нашай школай. На ўспамін аб сустрэчы. Удзячныя вучні СШ № 68 г. Мінска. Настаўнік** [подпіс настаўніка]. **16 снежня 1992 г.**

*На кнізе:* Уладзімір Арлоў. Еўфрасіння Полацкая = Евфросиния Полоцкая. Мн., 1992.

**Нашаму даўняму сябру — дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу, каб заўжды быў здаровы. Удзячныя вучні СШ № 68. Дні 70-годдзя паэмы «Новая зямля». 7 снежня 1993 г.**

*На кнізе:* Янка Брыль. Праблískі : мініяцюры. Мн., 1992.

## Выкладчыкі Менскага педінстытута замежных моў

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — удзельніку канферэнцыі з нагоды 110 гадавіны нараджэння Якуба Коласа — на добры ўспамін. Мінскі педінстытут замежных моў. Выкладчыкі і сябры. 17.XI.92 г.**

*На зборніку:* Carmina Prima : зборнік вершаў, перакладаў і празаічных твораў студэнтаў і выкладчыкаў Інстытута замежных моў. Мн., 1992.

## Анатоль Вялюгін

**Д.К. Міцкевічу. На добры ўспамін аб нашай дружбе — Анатоль. 29.II.59 г.**

*На кнізе:* Анатоль Вялюгін. На зоры займае : кніга паэзіі. Мн., 1958.

*Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч* (1923–1994), беларускі паэт, кінадраматург, перакладчык.

## Сяргей Гарадзецкі

**Дорогому Даниле Константиновичу Мицкевич[у] в залог общей работы над «Рыбаковой Хатой». С. Городецкий. 47.VII.5. Минск.**

*На кнізе:* Сергей Городецкий. Песня дружбы. Мн., 1947.

**Дорогому Даниле Константиновичу и в его лице всей семье великого моего друга Якуба Коласа с любовью. Сергей Городецкий. Москва. 1957 г.**

*На кнізе:* Сергей Городецкий. Стихотворения. М.; Л., 1956.

*Гарадзецкі Сяргей Мітрафанавіч* (1884–1967), расейскі паэт, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Знаёмы з Я. Коласам і яго сям'ёй з 1933 г., вёў перапіску з народным паэтам на працягу 30 гадоў.

## Цімох Гарбуноў

**Паважанаму Данілу Канстанцінавічу на ўспамін. Ц. Гарбуноў. 2.X.61 г.**

*На кнізе:* Т.С. Горбунов. Народы-братья. О связях белорусского народа с народами Прибалтики. Мн., 1961.

*Гарбуноў Цімох Сазонавіч* (1904–1969), беларускі партыйны і грамадскі дзеяч, гісторык.

## Аляксей Гардзіцкі

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з найлепшымі пажаданнямі. 15.XII.72 г. А. Гардзіцкі.**

*На кнізе:* Аляксей Гардзіцкі. Сустрэчы. Мн., 1972.

*Гардзіцкі Аляксей Кузьміч* (1934–1999), беларускі літаратуразнавец, празаік.

## Галіна Гарэцкая

**Шаноўнаму Данілу Канстанцінавічу на добрую памяць аб маёй маці, аўтарцы гэтай кніжкі. Галіна Гарэцкая. 2.IX.83 г. Мінск.**

*На кнізе:* Леаніла Чарняўская. Апавяданні. Мн., 1983.

*Гарэцкая Галіна Максімаўна* (1921–2006), выкладчыца, захавальніца спадчыны сваіх бацькоў — Максіма Гарэцкага і Леанілы Чарняўскай.

## Ларыса і Гаўрыла Гарэцкія

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — ад родных Максіма Гарэцкага. Л. і Г. Гарэцкія. 13.VII.73.**

*На кнізе*: Максім Гарэцкі. Выбраныя творы : у 2 т. Мн., 1973. Т. 1: Апавяданні і драматычныя абразкі.

*Гарэцкі Гаўрыла Іванавіч* (1900–1988), беларускі вучоны, геолаг, географ, эканаміст, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Родны брат Максіма Гарэцкага.

*Гарэцкая-Парфяновіч Ларыса Восіпаўна* (1902–1994), жонка *Гарэцкага Г.І.*

## Ніл Гілевіч

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — з паклонам перад светлай памяццю вялікага Коласа, пра якога тут ёсць некалькі старонак. 31.7.87. Ніл Гілевіч.**

*На кнізе:* Нил Гилевич. В это верю. О поэзии : сборник статей. М.,1986.

*Гілевіч Ніл Сымонавіч* (нар. у 1931 г.), беларускі паэт, літаратуразнавец, фальклярыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1991).

## Іван Грамовіч

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу на ўспамін з вялікай пашанай. Іван Грамовіч. 25.I.61 г.**

*На кнізе:* Іван Грамовіч. Рына-Марына : апавяданні. Мн., 1958.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — за нашу дружбу, за маю любоў да Вас, за пашану вялікіх Коласаўскіх запаветаў — шчыра, ад сэрца. Іван Грамовіч. 26.VII.68 г.**

*На кнізе:* Іван Грамовіч. Выбранае. Мн., 1968.

*Грамовіч Іван Іванавіч* (1918–1986), беларускі пісьменнік, перакладчык, сцэнарыст.

## Сяргей Грахоўскі

**Дарагім і шаноўным Коласянятам — Але Цімафееўне, Веры і Данілу Канстанцінавічу жадае доўгага і шчаслівага веку аўтар гэтай Споведзі, асвечанай імём Вялікага Коласа. 26/XI.95 г. Менск. Сяргей Грахоўскі.**

*На кнізе:* Сяргей Грахоўскі. Споведзь : аповесці і вершы. Мн., 1990.

*Грахоўскі Сяргей Іванавіч* (1913–2002), беларускі пісьменнік, паэт, перакладчык.

## Яўгенія Дэйч

**Глубокоуважаемому Даниилу Константиновичу Мицкевичу — на самое доброе воспоминание об Александре Иосифовиче. Е. Дейч. 12 ноября 1974. Москва.**

*На кнізе*: Александр Дейч. Дыхание времени : статьи. Портреты. Очерки. М., 1974.

*Дэйч Яўгенія Кузьмінічна* (нар. у 1919 г.), расейскі літаратуразнавец. Жонка А.І. Дэйча.

## Барыс Ерафееў

**Дорогому Даниле Константиновичу от автора на добрую память. 8/X.46.** Подпіс Б.В. Ерафеева.

*На зборніку:* Доклады АН СССР. 1946. Т. LII, № 6. (Б.В. Ерофеев. Обобщенное уравнение химической кинетики и его применение к реакциям с участием твердых веществ.)

**Дорогому Даниле Константиновичу на добрую память. [дата нрзб].** Подпіс Б.В. Ерафеева.

*На часопісе:* Журнал физхимии. 1946. Т.  XX, вып. 10. (Б.В. Ерофеев и др. Кинетика термического распада оксалата серебра.)

*Ерафееў Барыс Васілевіч* (1909–1995), беларускі вучоны, фізікахімік.

## Алесь Есакоў

**Паважанаму Даніле Канстанцінавічу! З павагай. Ад аўтара. Ал. Есакоў. 28.IX.1972 г.**

*На кнізе:* Алесь Есакоў. Янка Купала і беларускі тэатр. Мн., 1972.

*Есакоў Алесь (Аляксандр) Аляксандравіч* (1911–1985), беларускі крытык і тэатразнавец. У 1960–1974 гг. супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

## Даніла Жаркоўскі

**Глубокоуважаемому другу Даниле Константиновичу Мицкевичу от автора. 3-VI-52 г.**

*На часопісе:* Известия АН БССР. 1952. № 2. (Д.В. Жарковский, С.М.Липатов. К вопросу структуры целлюлозы разных модификаций.)

*Жаркоўскі Даніла Уладзіміравіч* (1904–1987), беларускі вучоны, хімік.

## Васіль Жураўлёў

**Мудраму і добразычліваму чалавеку, Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — з глыбокай павагай і самымі добрымі пажаданнямі на будучае. Вас. Жураўлёў. 30.VII.91 г.**

*На кнізе:* В.П. Жураўлёў. Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана. Мн., 1991.

*Жураўлёў Васіль Пракопавіч* (нар. у 1931 г.), беларускі вучоны, крытык і літаратуразнавец.

## Мікола Жыгоцкі

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу, сыну народнага паэта, першаму дырэктару музея, з якім большую палову жыцця працаваў у Літаратурным музеі Якуба Коласа. 18.12.93 г. Мікола Жыгоцкі.**

*На кнізе:* Мікола Жыгоцкі. Сэрца пакідаю вам : Па Коласаўскіх мясцінах. Мн., 1993.

**Шаноўнаму Данілу Канстанцінавічу, сыну песняра, добраму і спагадліваму чалавеку, з якім мне пашчасціла быць заснавальнікам музея Якуба Коласа, доўгія гады працаваць пад яго кіраўніцтвам. 24.12.93 г. М. Жыгоцкі.**

*На кнізе:* Мікола Жыгоцкі. Легендарны дзед. Мн., 1993.

*Жыгоцкі Мікола (Мікалай) Рыгоравіч* (нар. у 1931 г.), філолаг, журналіст. Супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў 1957–2012 гг.

## Аляксей Зарыцкі

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу на добры ўспамін. 29.11.59 г. А. Зарыцкі.**

*На кнізе:* Аляксей Зарыцкі. Залатое дно : вершы і паэмы. Мн., 1955.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу. З любоўю і павагай. 29.11.59 г. А. Зарыцкі.**

*На кнізе:* Аляксей Зарыцкі. Праз бурныя парогі : паэмы. Мн., 1957.

*Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч* (1911–1987), беларускі паэт, перакладчык.

## Алесь Звонак

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з пачуццём сяброўства і павагі ад шчырага сэрца. 29.XI.59 г. Ал. Звонак.**

*На кнізе:* Алесь Звонак. Табе адной : выбраныя вершы 1925–1956. Мн., 1957.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу. З самым сардэчным пачуццём сяброўства і павагі. 19.VIII.60. г. Мінск. Ал. Звонак.**

*На кнізе:* Алесь Звонак. Навальніца будзе : п'еса па матывах трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». Мн., 1960.

*Звонак Алесь (Пётр) Барысавіч* (1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык.

## Зульфія

**Дорогому Даниле Константиновичу с чувством верности дружбе, любви к великой поэзии и святой семье. Зульфия. Минск, июнь, 1967 г.**

*На кнізе:* Зульфия. Дар долины : стихи. М., 1966.

**Дорогой Данила Константинович! Святая память о Вашем великом отце, поэте, друге большом будет жить в сердцах Узбекского Народа. Самыми лучшими пожеланиями. Ваша Зульфия. Минск, июнь, 1967.**

*На кнізе:* Зульфія. Лірыка. Мн., 1967.

*Зульфія* (сапр. *Ісраілава Зульфія*, 1915–1996), узбекская паэтэса, перакладчыца. Народная паэтэса Узбекістана.

## Павел Кабзарэўскі

**Моему доброму другу Даниилу Константиновичу Мицкевичу, с добрым весенним приветом.** Подпіс П.С. Кабзарэўскага. **Ленинград. 6 апреля 1960 г.**

*На кнізе*: Белорусские басни / составитель П.С. Кобзаревский. Ленинград, 1959.

*Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч* (сапр. *Гардон Фавій Залманавіч*, 1909–1970), расейскі перакладчык, складальнік зборнікаў і анталогіі беларускай літаратуры.

## Павел Кавалёў

**Даўно і шчыра паважанаму Даніле Канстанцінавічу Міцкевічу — на доўгі ўспамін пра ўсё добрае, што было паміж намі. Пав. Кавалёў. 23.V.87 г.**

*На кнізе:* Павел Кавалёў. На усё жыцце : нарысы, успаміны. Мн., 1986.

*Кавалёў Павел Нічыпаравіч* (1912–1995), беларускі пісьменнік.

## Уладзімір Казбярук

**Глыбокапаважанаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з пажаданнямі поспехаў у працы і жыцці ад аўтара. У. Казбярук. 28.IX.1962 г.**

*На брашуры:* У.М. Казбярук. Якуб Колас (жыццё і творчасць). № 13. Мн., 1962.

**Глыбокапаважанаму Даніле Канстанцінавічу Міцкевічу ад аўтара. У. Казбярук. 7.VIII.1963 г.**

*На аўтарэфераце дысертацыі:* В.М. Казберук. Творчество Якуба Коласа дооктябрьского периода. Мн., 1963.

**Паважанаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з пажаданнем добрага здароўя і найлепшых поспехаў у жыцці. У. Казбярук. 11.XI.1968 г.**

*На кнізе:* У.М. Казбярук. Якуб Колас у школе : дапаможнік для выкладчыкаў беларускай літаратуры. Мн., 1967.

*Казбярук Уладзімір Міхайлавіч* (нар. у 1923), беларускі літаратуразнавец і крытык.

## Мікалай Казлоў

**Мицкевичу на добрую память. 19.V.67.** Подпіс М.С Казлова.

*На зборніках:* Ученые записки Пермского педагогического института. Пермь, 1965. Т. 32; Труды Пермского сельскохозяйственного института. Каталитический синтез органических азотистых соединений. Пермь, 1964. Т. 25.

**Мицкевичу на добрую память.** Подпіс М.С. Казлова.

*На зборніку:* Каталитический синтез органических азотистых соединений / Труды Пермского сельскохозяйственного института. Сборник 2. Пермь, 1965. Т. 29.

*Казлоў Мікалай Сямёнавіч* (1907–1993), беларускі вучоны, хімік-арганік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984).

## Марыя Камісарава

**Дорогому Даниле Константиновичу Мицкевичу — на добрую память и добрые встречи, во имя братства, дружбы и святого дела поэзии. М. Комиссарова. 9.VII.62 г. Минск.**

*На кнізе:* Мария Комиссарова. Лиза Чайкина : поэма. М., 1958.

**Дорогому Даниле Константиновичу и Аллочке — на самую добрую память о встречах в Купаловские дни — с крепким рукопожатием. М. Комиссарова. 9.VII.62 г. Минск.**

*На кнізе:* Мария Комиссарова. Моя тропинка продолжается : стихи. Л., 1961.

**Дорогим Даниле Константиновичу и Алле Тимофеевне Мицкевичам на добрую память, на новые встречи — сердечно. 3.XI.62 г. М. Комиссарова.**

*На кнізе:* Мария Комиссарова. Самое дорогое : стихи. М.; Л., 1962.

**Очень милым и дорогим моему сердцу, давним и добрым друзьям моим — Алле Тимофеевне, Даниилу Константиновичу и Верочке Мицкевичам — мое «Ожидание встречи» с вами, всегда с вековечной любовью. М. Комиссарова. 17.VIII.1975 г. Ленинград.**

*На кнізе:* Мария Комиссарова. Ожидание встречи. Л., 1973.

*Камісарава Марыя Іванаўна* (1904–1988), расейская паэтэса, перакладчыца. Жонка *Браўна М.Л.*

## Уладзімір Караткевіч

**Даражэнькай Але і Данілу Канстанцінавічу Міцкевічам на добры ўспамін ад аўтара. Ул. Караткевіч. 25 студзеня 75 г.**

*На кнізе*: Владимир Короткевич. Колосья под серпом твоим : роман. М., 1974.

**Мілым Данілу і Але Міцкевічам, каб жылося ім добра побач з намі яшчэ сто год. Ул. Караткевіч. 12 снежня 78 г.**

*На кнізе:* Уладзімір Караткевіч. З вякоў мінулых : апавяданні, аповесці. Мн.,1978.

**Мілым Данілу Канстанцінавічу і Але Міцкевічам на знак бязмернай павагі, якая роўная хаця-б павазе да іхняга бацькі. Ул. Караткевіч. 11 лютага 81 г.**

*На кнізе:* Уладзімір Караткевіч. Выбраныя творы : у 2 т. Мн., 1980. Т. 1.

**Дарагому другу Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — з любоўю. Ул. Караткевіч. 6 лютага 84 г.**

*На кнізе:* Уладзімір Караткевіч. Чорны замак Альшанскі : раман, аповесць. Мн., 1983.

*Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч* (1930–1984), беларускі пісьменнік, паэт, сцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1984).

## Канстанцін Караткоў

**Глубокоуважаемому Данилу Константиновичу Мицкевичу от автора.**

*На кнізе і зборніку:* К.Н. Коротков. Канифоль и скипидар. Мн., 1950; Известия АН БССР. 1951. № 1. (К.Н. Коротков, Х.А. Черчес. Состав скипидара, полученного из поверхностного болотного осмола.)

*Караткоў Канстанцін Мікалаевіч* (1890–1954), беларускі вучоны, хімік-арганік.

## Дзмітро Касарык

**Высокодостойному Д.К. Мицкевичу. На память о нашем поклонении святой могиле великого сына Беларуси Якуба Коласа — от Дм. Косарика.**

*На кнізе:* Дмитро Косарик. Дума над Тясмином. М., 1971.

*Касарык Дзмітро* (сапр. *Каваленка Дзмітрый Міхайлавіч*, 1904–1992), украінскі пісьменнік, празаік, літаратуразнавец.

## Генадзь Кісялёў

**Шаноўнаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу на добрую памяць. Генадзь Кісялёў. 5.XI.77.**

*На кнізе:* Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / укладальнік Г.В. Кісялёў. Мн., 1977.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу, дастойнаму сыну вялікага бацькі, з пачуццём глыбокай павагі. 1.4.81. Генадзь Кісялёў.**

*На кнізе:* Пуцявінамі Янкі Купалы : дакументы і матэрыялы / укладальнік Г.В. Кісялёў. Мн., 1981.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з найлепшымі пажаданнямі працвітання і падзякаю за дапамогу і каштоўныя парады. Генадзь Кісялёў. 24.5.1982.**

*На кнізе:* З жыццяпісу Якуба Коласа: дакументы і матэрыялы / укладальнік Г.В. Кісялёў. Мн. 1982.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з самымі сардэчнымі пажаданнямі. 18.3.89. Генадзь Кісялёў.**

*На кнізе:* Киселев Г. Разыскивается классик. Мн., 1989.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу сардэчна Генадзь Кісялёў. 24.3.90.**

*На кнізе:* Кісялёў Г. Шляхам гадоў : гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1990.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу з сардэчнымі пажаданнямі. Г. Кісялёў. 30.9.90.**

*На кнізе:* Кісялёў Г. На пераломе дзвюх эпох. Паўстанне 1863 года на Міншчыне. Мн., 1990.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу, прыхільнасць і добрае стаўленне якога лічым для сябе за вялікі гонар. 17.3.93. Г. Кісялёў.**

*На кнізе:* Кісялёў Г. Ад Чачота да Багушэвіча. Мн., 1993.

**Данілу Канстанцінавічу, дарагому нашаму юбіляру, яшчэ раз далучаючыся да шчырых віншаванняў: шчасця Вам і Вашаму дому, усіх дабротаў. Г. Кісялёў. 16.11.94.**

*На кнізе:* Кісялёў Г. Радаводнае дрэва. Мн., 1994.

*Кісялёў Генадзь Васілевіч* (1931–2008), беларускі гісторык, літаратуразнавец, пісьменнік, археограф. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1990). Навуковы рэдактар кнігі Д. К. Міцкевіча «Любіць і помніць» (2000).

## Георгій Колас

**Уважаемому Даниле Константиновичу от автора. С искренней симпатией.** Подпіс Г. д. Коласа. **25/VI-68 г.**

*На кнізе*: Георгий Колос. Диалог через рампу. Мн., 1967.

**Шаноўнаму Данілу — ад Данілавіча, Канстанціна-вічу — ад Георгія, Міцкевічу — ад Коласа. З прыхільнасцю, з прыязнасцю, з любоўю. 25.02.93.**

*На кнізе:* Георгій Колас. Аўтографы Андрэя Макаёнка. Мн., 1992.

*Колас Георгій Данілавіч* (1929–1994), беларускі крытык, публіцыст, кінадраматург.

## Якуб Колас

**Дарагому сыну Данілу на памяць і на напамінанне аб абароне дысертацыі. Якуб Колас. 23 VII 1946 г.**

*На кнізе:* Якуб Колас. Паэмы. Мн., 1946. (ДзЛММЯК, КП-24572/Кн-10368.)

## Мікалай Корзун

**Майму дарагому Данілу Канстанцінавічу з любоўю. М. Корзун. 1/VI 80. СП БССР.**

*На кнізе:* Николай Корзун. Витя Ситница : документальная повесть. Мн., 1980.

*Корзун Мікалай Паўлавіч* (1934–1995), беларускі пісьменнік. Супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў 1976–1978, 1982–1985 гг.

## Яўген Крупенька

**Дарагому і паважанаму Данілу Канстанцінавічу — чалавеку, якога я люблю. Яўген Крупенька. 31/X.75.**

*На кнізе:* Яўген Крупенька. Бусліны човен : лірыка. Мн., 1975.

*Крупенька Яўген Міхайлавіч* (1936–1990), беларускі паэт, перакладчык.

## Анатоль Кудласевіч

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу, сыну вялікага паэта, добраму чалавеку ад аўтара, які вучыўся ў той школе, у якой ваш бацька настаўнічаў з 1902–04 г.** Подпіс А.А. Кудласевіча.

*На кнізе:* Анатоль Кудласевіч. Плакун-трава : вершы. Мн., 1993.

*Кудласевіч Анатоль Аляксеевіч* (нар. у 1961 г.), беларускі паэт, празаік, бард.

## Іван Кудраўцаў

**1 лістапада 1995 г. Глыбокапаважаны Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, чалавек шчодрай душы і шчырага сэрца! Прымі гэты неацэнны дар — бацькава дзіцятка, якому ўжо семдзесят гадкоў. Хай яно вяртае цябе ў незабыўныя гады маладосці, памнажае жыццёвую бадзёрасць… З найлепшымі пажаданнямі Кудраўцаў.**

*На кнізе:* Якуб Колас. Сымон Музыка. Мн., 1925.

*Кудраўцаў Іван Фёдаравіч* (1922–2004), беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец.

## Вячаслаў Кузняцоў

**Уважаемому Даниле Константиновичу на память о встрече в Ленинграде. Вяч. Кузнецов.** І яшчэ чатыры подпісы.

*На кнізе:* Братство. Стихотворения поэтов братских республик. Л., 1982.

**Даниилу Мицкевичу с вечной памятью о богатыре белорусской поэзии Якубе Коласе сердечно от автора. Вяч. Кузнецов. 19 мая 1983 г. Ленинград.**

*На кнізе:* Вячеслав Кузнецов. Баллада о глобусе : книга стихов. Л., 1983.

*Кузняцоў Вячаслаў Мікалаевіч* (1932–2004), расейскі паэт, перакладчык.

## Аляксей Кулакоўскі

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу, майму лепшаму другу, на добрую памяць і са шчырым віншаваннем са слаўным юбілеем. Ад душы і сэрца жадаю светлага шчасця! 28 верасня 1984 г. Аўтар.**

*На кнізе:* Аляксей Кулакоўскі. Выбраныя творы : у 2 т. Мн., 1984. Т. 1.

*Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч* (1913–1986), беларускі пісьменнік, перакладчык, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў 1977–1986 гг.

## Іван Курбека

**Шаноўнаму і добраму Міцкевічу Д.К. ад Курбекі Янука. 10.7.79 г.**

*На кнізе:* Іван Курбека. Абы здароўе. Мн., 1979. (Бібліятэка «Вожыка». № 3 (135).)

**Сям'і шаноўнага ДК ад Курбекі-дружбака. 30.03.92 г.** Подпіс І.С. Курбекі**.**

*На кнізе:* Іван Курбека. Хітрыя літары : шарады, метаграмы, лагагрыфы, анаграмы. Мн., 1991.

*Курбека Іван Сцяпанавіч* (1934–2009), паэт-сатырык, літаратуразнавец, музейны дзеяч. Супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў 1964–2007 гг.

## Сцяпан Кухараў

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — на добры ўспамін аб нашым даўнім знаёмстве і як памятка пра Якуба Коласа, творы якога я палюбіў з маленства і які стаў і для мяне светлай Зоркай натхнення і сапраўд-**

**нага чалавекалюбства і чалавечнасці на ўсё жыццё. Шчыра Сцяпан Кухараў. 13.VIII.1991 г. Мінск.**

*На кнізе:* Сцяпан Кухараў. Сцішанае поле. Мн., 1986.

*Кухараў Сцяпан Іванавіч* (1919–2011), беларускі пісьменнік, нарысіст.

## Анатоль Лавыш

**Дорогому Данику в знаменательный день 4 мая 1960 года. Счастья тебе, дорогой друг.** Подпіс А.І. Лавыша.

*На кнізе:* Итоги второй мировой войны : сборник статей. М., 1957.

*Лавыш Анатоль Іосіфавіч* (1913–2004), прарэктар Беларускага політэхнічнага інстытута (цяпер — БНТУ) па вячэрняму і завочнаму навучанню ў 1966–1973 гг., сябар Міцкевіча Д.К. з 1929 г.

## Сяргей Ліпатаў

**Дорогому Данилу Константиновичу Мицкевичу на добрую память о нашей Ташкентской жизни и дружбе. 14.X.44.** Подпіс С.М. Ліпатава.

*На кнізе:* С.М. Липатов. Высокополимерные соединения. Мн. : Изд. АН БССР, 1943.

**Дорогому Даниилу Константиновичу Мицкевичу на добрую память от автора. 12.X.46.**

*На часопісе:* Коллоидный журнал. 1946. Т. VIII, вып. 1–2.

**Дорогому Даниилу Константиновичу Мицкевичу на добрую память от автора.**

*На часопісе:* Коллоидный журнал. 1946. Т. VIII, вып. 3.

*Ліпатаў Сяргей Міхайлавіч* (1899–1961), расейскі і беларускі вучоны, фізікахімік.

## Еўдакія Лось

**Д.К. Міцкевічу. Ад шчырага сэрца. Еўдакія Лось. 15/V.62 г. (стар.10).**

*На кнізе:* Еўдакія Лось. Палачанка. Мн., 1962. (На с. 10 — верш «Баравінка», прысвечаны Якубу Коласу.)

*Лось Еўдакія Якаўлеўна* (1929–1977), беларуская паэтэса.

## Максім Лужанін

**Данілу, міламу другу, залатому чалавеку. Максім Лужанін. 1.X.50.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Поступ : вершы і паэма. Мн., 1950.

**Дарагому Д.К. Міцкевічу, міламу Даніку, якога я шчыра люблю. Максім Лужанін. 17.I.53.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Святло Радзімы : вершы і паэмы. Мн., 1952.

**Д.К. Міцкевічу ў знак добрых пачуццяў. Цісну руку. Максім Лужанін. 14.V.58.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Прасторы. Мн., 1958.

**Данілу, добраму другу, скромная памятка аб нашым агульным вялікім Сябру. Максім Лужанін. 22.III.64.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Колас расказвае пра сябе. Мн., 1964.

**Дарагому Данілу, добраму другу, мілай душы чалавеку. Максім Лужанін. 10.XI.64.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Вачыма часу. Мн., 1964.

**Калі ты чуеш і пазнаеш у гэтай кнізе той Голас, што чуецца мне, будзем думаць, пачуюць і людзі. Данілу Міцкевічу — сардэчна. Максім Лужанін. 21.XII.64.**

*На кнізе:* Максим Лужанин. Якуб Колас рассказывает… М., 1964.

**Данілу Міцкевічу, добраму майму сябру з самымі лепшымі пажаданнямі і патайной надзеяй яшчэ раз**

**пабыць на коласавых мясцінах у добрым таварыстве. Максім Лужанін. 30.V.69.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Збор твораў : у 3 т. Мн., 1968. Т. 1: Вершы.

**Дарагі Даніла! Паважаю тваю добрую работу, тваю слаўную душу — люблю. Максім Лужанін. 18.X.71.**

*На кнізе:* Максим Лужанин. Шумели березы : стихотворения, поэмы. Л., 1971.

**Дарагому другу Данілу Міцкевічу, хай табе і дому ўсё будзе як найлепей. Максім Лужанін. 2.IV.73.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Рэпартаж з рубцом на сэрцы. Мн., 1973.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — дарагому майму сэрцу Даніку, добраму другу і таварышу. Максім Лужанін. 13.IV.83.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Колас расказвае пра сябе. Мн., 1982.

**Дарагому Данілу з любоўю, па-брацку. Максім Лужанін. 4.VIII.86.**

*На кнізе:* Максим Лужанин. Начало человека. М., 1985.

**Данілу і Але, добрым, з даўніх часоў сябрам. Максім Лужанін. 24.I.94.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Добры хлопец Дзік. Мн., 1993.

**Дарагім Данілу і Але з самымі лепшымі пажаданнямі і пачуццямі. 24.I.94. Максім Лужанін.**

*На кнізе:* Максім Лужанін. Выбраныя творы : у 2 т. Мн., 1993. Т. 1: Вершы.

*Лужанін Максім* (сапр. *Каратай Аляксандр Амвросевіч*, 1909–2001), беларускі паэт, празаік. Памочнік Якуба Коласа ў пасляваенныя гады. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1965).

## Канстанцін Лукашоў

**Даниилу Константиновичу Коласу с глубоким уважением. 26/VI.59 г.** Подпіс К.І. Лукашова.

*На кнізе:* К.И. Лукашев. Вклад белорусских ученых в развитие передовой советской науки и техники. Мн., 1959.

*Лукашоў Канстанцін Ігнатавіч* (1907–1987), беларускі вучоны, геолаг і геахімік.

## Уладзіслава Луцэвіч

**Майму «суседу» па «Якару», слаўнаму Данілу Канстанцінавічу на ўспамін аб Янку. В. Луцэвіч. 24/VI 46.**

*На кнізе:* Янка Купала. Выбраныя творы. Мн., 1946.

*Луцэвіч Уладзіслава Францаўна* (1891–1960), беларускі літаратуразнавец, культурны дзеяч, педагог. Жонка Янкі Купалы. Збіральніца спадчыны, арганізатар і першы дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў 1944–1960 гг.

## Калерыя Мазалькова

**Глубокоуважаемому Даниилу Константиновичу на добрую память о Евгении Семеновиче. К. Мозолькова. 24 февр.[аля] 1973 г.**

*На кнізе:* Евгений Мозольков. Поющая земля. О белорусской литературе. М., 1972.

*Мазалькова (Ігнатовіч) Калерыя Іванаўна* (1909–1975?), жонка Мазалькова Я.С.

## Альфрэд Майхровіч

**Даниле Константиновичу как знак глубокого уважения лично и ко всему роду. 16.II.70.** Подпіс А.С. Майхровіча**.**

*На кнізе:* А.С. Майхрович. Эстетические взгляды Якуба Коласа. Мн., 1970.

*Майхровіч Альфрэд Сцяпанавіч* (1937–2004), беларускі вучоны, філосаф-эстэтык.

## Мікалай Малёнак

**Глубокоуважаемому другу-товарищу Даниилу Константиновичу от автора. 2 сентября 1954 г.** Подпіс М.М. Малёнка.

**Многоуважаемому другу Данику от автора. 4 января 1955 г.** Подпіс М.М. Малёнка.

*На часопісах:* Журнал общей химии. М.; Л., 1954. Т. XXIV. (Н.М. Малёнок и С.Д. Кулькина. Окисление винилацетиленовых углеводородов органическими гидроперекисями.)

*Малёнак Мікалай Мітрафанавіч* (1908–1966), беларускі хімік, працаваў у Менскім медінстытуце.

## Адам Мальдзіс

**Паважаным Аліце Цімафееўне і Данілу Канстанцінавічу Міцкевічам з сардэчнымі пачуццямі. А. Мальдзіс. 25.I.1975.**

*На кнізе:* Адам Мальдзіс. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974.

**Паважаным Але Цімафееўне і Данілу Канстанцінавічу Міцкевічам з сардэчнымі пачуццямі — аўтар А. Мальдзіс. 26.IX.77.**

*На кнізе:* Адам Мальдзіс. Астравеччына, край дарагі… Мн., 1977.

**Дарагім Але Цімафееўне і Данілу Канстанцінавічу Міцкевічам з сардэчнымі пачуццямі. А. Мальдзіс. 16.XI.84.**

*На кнізе:* Адам Мальдзіс. Восень пасярод вясны. Мн., 1984.

**У добрыя рукі Алы Цімафееўны і Данілы Канстанцінавіча Міцкевічаў з сардэчнымі пачуццямі і святочным прывітаннем. 4.11.87.**

*На кнізе:* Адам Мальдзіс. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мн., 1987.

**Дарагім Міцкевічам. А. Мальдзіс. 1.10.88.**

*На брашуры:* Адам Мальдзіс. Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў. Мн., 1988.

**З сардэчнымі пачуццямі да Алы Цімафееўны і Данілы Канстанцінавіча — кніжку, дзе часта згадваецца светлае імя Коласа, уручае адзін з аўтараў А. Мальдзіс. 1.10.88.**

*На кнізе:* А.П. Лапінскене, А.І. Мальдзіс. Перазовы сяброўскіх галасоў. Мн., 1988.

**Дарагім Але Цімафееўне і Данілу Канстанцінавічу з сардэчнымі пачуццямі. А. Мальдзіс. 10.9.94.**

*На кнізе:* Адам Мальдзіс. І ажываюць спадчыны старонкі. Мн., 1994.

**Для дарагіх Алы Цімафееўны і Данілы Канстанцінавіча на добры ўспамін — адзін з аўтараў. А. Мальдзіс.**

*На кнізе:* Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс. Шляхі вялі праз Беларусь : нарыс. Мн., 1980.

**Дарагім Але Цімафееўне і Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу кнігу пра нашага незабыўнага Валодзю. А. Мальдзіс.**

*На кнізе:* Адам Мальдзіс. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. Мн., 1990.

*Мальдзіс Адам Восіпавіч* (нар. у 1932 г.), беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980).

## Хаім Мальцінскі

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ад усяго сэрца дару сваю кнігу. З глыбокай павагай да Вас. Хаім Мальцінскі. 29.IV.63. Мінск.**

*На кнізе:* Хаім Мальцінскі. Поплеч з сынамі ўсімі : вершы і паэма. Мн., 1963.

*Мальцінскі Хаім Ізраілевіч* (1910–1986), яўрэйскі паэт і пісьменнік.

## Сяргей Маркевіч

**Дорогому и глубокоуважаемому Данилу Константиновичу в знак уважения. С. Маркевич.**

*На кнізе:* С.В. Маркевич. Периодическая система элементов Д.И. Менделеева в свете новейших исследований. Мн., 1957.

**Дорогому Даниилу Константиновичу Мицкевичу автор С. Маркевич. 26.VIII.63.**

*На кнізе:* С.В. Маркевич. Большая химия. Мн., 1963.

**Дорогому Даниилу Константиновичу Мицкевичу — товарищу по работе в АН БССР, спутнику жизни и личному другу. С уважением и добрыми пожеланиями.** Подпіс С.В. Маркевіча.

*На аўтарэфераце:* С.В. Маркевич. Исследование изотопного обмена водорода на алюмосиликатах : автореферат диссертации на соискание ученой степени доктора химических наук. Мн., 1969.

*Маркевіч Сяргей Васілевіч* (1916–1996), беларускі вучоны, фізікахімік.

## Міхаіл Мацапура

**Глубокоуважаемому Даниилу Константиновичу Мицкевичу от автора. 18/X 49 г. М. Мацепуро.**

*На кнізе:* М.Е. Мацепуро. Технологические основы механизации уборки картофеля. Мн., 1949.

**Даниилу Константиновичу Мицкевичу.**

*На брашуры:* М.Е. Мацепуро. Краткая характеристика машин и орудий, разработанных институтом механизации сельского хозяйства АН БССР. Мн., 1951.

**Глубокоуважаемому Даниилу Константиновичу Мицкевичу. 14/XII-56 г.** Подпіс М.Я. Мацапуры.

*На кнізе:* М.Е. Мацепуро. Творческое применение учения академика В.П. Горячкина в научных исследованиях по механизации сельского хозяйства. Мн., 1956.

**Дорогому Даниилу Константиновичу в знак дружбы и большого уважения. 23/IV.62.** Подпіс М.Я. Мацапуры.

*На кнізе:* М.Е. Мацепуро. Ближайшие задачи ЦНИИМЭСХ и координируемых им учреждений. Мн., 1962.

*Мацапура Міхаіл Яфрэмавіч* (1908–1971), беларускі вучоны ў галіне механізацыі сельскай гаспадаркі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951; 1952).

## Леў Мірачыцкі

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў чэсць нашага знаёмства гэтую кніжачку прэзентуе аўтар. 3.1.1958 г. Леў Мірачыцкі.**

*На кнізе:* Леў Мірачыцкі. Сцежкамі вялікага паэта (пра Адама Міцкевіча). Мн., 1957.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў доказ глыбокай павагі на добры ўспамін. Леў Мірачыцкі. г. Мінск. 21.V.1961 г.**

*На кнізе:* Леў Мірачыцкі. З незабыўных дарог. Мн., 1961.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў юбілейны Дзень на добрую памятку з найлепшымі жычэннямі — здароўя, шчасця. Леў Мірачыцкі. 28 верасня 1989.**

*На кнізе:* Мирочицкий Л.П. Белорусско-чехословацкие культурные и научные связи. Мн., 1981.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў юбілейныя дні на добрую памятку аб сумеснай працы ў музеі Якуба Коласа з пажаданнямі многіх гадоў жыцця, здароўя, шчасця. Леў Мірачыцкі. 17.XI.1994.**

*На кнізе:* Леў Мірачыцкі. Беларуска-югаслаўскія культурныя і навуковыя сувязі. Мн., 1992.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў юбілейныя дні з запрашэннем для чытацкай вандроўкі па нашай мінуўшчыне. З верай у светлы лёс Айчыны. Леў Мірачыцкі. 17.XI.1994.**

*На кнізе:* Леў Мірачыцкі. Светлым ценем Адама Міцкевіча. Мн., 1994.

*Мірачыцкі Леў Паўлавіч* (1925–2002), беларускі гісторык-славіст, літаратар. Супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў 1958–1963 гг.

## Мікалай Міцкевіч

**Дарагому Даніілу Канстанцінавічу Міцкевічу, які замяніў мне брата і так шмат дапамог у жыцці, на памяць ад аўтара. 22 жніўня 1949 г.** Подпіс М.І. Міцкевіча.

*На аўтарэфераце:* Н.И. Мицкевич. Кинетика полиморфных превращений модификаций азотнокислого аммония : автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата химических наук. Мн., 1949.

**Дарагому Даніілу Канстанцінавічу Міцкевічу на памяць. 10.5.1951.** Подпіс М.І. Міцкевіча.

*На часопісе:* Журнал физической химии, 1950, т. XXIV, вып. 10. (Б.В.Ерофеев и Н.И. Мицкевич. Кинетика превращений полиморфных модификаций азотнокислого аммония.)

**Дорогому Даниилу Константиновичу от автора. 20.05.1963.** Подпіс М.І. Міцкевіча.

*На аўтарэфераце:* Н.И. Мицкевич. Сопряженное декарбоксилирование при жидкофазном автоокислении органических веществ : автореферат диссертации на соискание ученой степени доктора химических наук. Мн., 1963.

*Міцкевіч Мікалай Іванавіч* (1914–1991), беларускі вучоны, фізікахімік. Жыў і выхоўваўся ў сям'і Якуба Коласа ў 1928–1933 гг. Сын хатняга настаўніка Якуба Коласа Івана Васілевіча Міцкевіча (Яські Базылёва).

## Міхаіл Міцкевіч

**Дарагому брату ў дзень нараджэння ад аднаго з аўтараў кнігі, якую браць у рукі варта толькі пры стойкай бяссоніцы. Дадатак да яе можна перагортваць не адзін раз. 30.09.88. Міхась.**

*На кнізе:* Электроэрозионная обработка металлов / М.К. Мицкевич, А.И. Бушик, И.А. Бакуто и др.; под. ред. И. Г. Некрашевича. Мн., 1988.

*Міцкевіч Міхаіл Канстанцінавіч*, беларускі вучоны ў галіне металазнаўства. Доктар тэхнічных навук (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1980).

## Уладзімір Міцкевіч

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ад шчырага сэрца аўтар У. Міцкевіч. 18/VIII 67.**

*На кнізе:* Уладзімір Міцкевіч. Максім Танк у школе. Мн., 1966.

*Міцкевіч Уладзімір Аляксандравіч* (1919–2004), супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, зямляк і аднавясковец Якуба Коласа.

## Міхась Мушынскі

**Паважанаму Данілу Канстанцінавічу — ад аўтара з глыбокай падзякай за дапамогу ў працы над кнігай і пажаданнем поспеху ў пачэснай справе вывучэння і прапаганды мастацкай спадчыны Якуба Коласа. Мушынскі. 18.10.1965.**

*На кнізе:* Міхась Мушынскі. Ад задумы да здзяйснення. Мн., 1965.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай да яго шматгадовай шматграннай дзейнасці па беражліваму захаванню і прапагандзе неўміручай спадчыны вялікага песняра беларускага**

**народа Якуба Коласа і з добрымі пажаданнямі і падзякай за дапамогу ў працы. — Міхась Мушынскі. 5.1.1983.**

*На кнізе:* Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1982.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу — з глыбокай удзячнасцю за нязменную ўвагу да маіх літаратуразнаўчых прац і шчырыя і карысныя парады мне як даўняму даследчыку неўміручай спадчыны Якуба Коласа. 8.08.1990. — Міхась Мушынскі.**

*На кнізе:* Мушынскі М.І. І нічога, апроч праўды. Якой быць «Гісторыі беларускай літаратуры». Мн., 1990.

*Мушынскі Міхась (Міхаіл) Іосіфавіч* (нар. у 1931 г.), беларускі вучоны, літаратуразнавец, тэкстолаг, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1980).

## Іван Няхода

**Щоб моя душа за Данилом не нила — Вічно любаму. Міцкевіча Данила! Дружню! Ів. Нехода. 14.XI.962. Мінськ.**

*На кнізе:* Іван Нехода. Тобі, кохана! Київ, 1960.

*Няхода Іван Іванавіч* (1910–1963), украінскі паэт, пісьменнік, журналіст.

## Васіль Пансевіч-Каляда

**Уважаемому Даниле Константиновичу от автора. 25/I.49 г.** Подпіс В.І. Пансевіча-Каляды.

*На часопісе:* Известия АН БССР. 1948. № 6. (В.И. Пансевич-Коляда. Научная деятельность Н.А. Прилежаева.)

**Многоуважаемому Даниилу Константиновичу от автора.** Подпіс В.І. Пансевіча-Каляды.

*На часопісах:* Журнал общей химии. Отдельный оттиск. М.; Л., 1951. (В.И. Пансевич-Коляда. Исследование алленовых углеводородов.); Журнал общей химии. Отдельный оттиск. М.; Л.,

1951. (В.И. Пансевич-Коляда и Н.А. Прилежаев. Бромирование третичных спиртов.)

*Пансевіч-Каляда Васіль Іванавіч* (1901–1989), беларускі вучоны, хімік-арганік.

## Пімен Панчанка

**Дарагому другу Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу. Шчыра, ад усяго сэрца. Пімен Панчанка. 29/XI-59 г.**

*На кнізе*: Пімен Панчанка. Збор твораў : у 2 т. Мн., 1959. Т. 1: Вершы і паэмы. 1934–1945.

**Дарагому Данілу. На ўспамін аб нашай маладосці. Пімен. 29/XI-59 г.**

*На кнізе:* Пімен Панчанка. Кніга вандраванняў і любові. Мн., 1959.

**З найлепшымі пажаданнямі ў працы і жыцці — Данілу Міцкевічу. Пімен Панчанка. 29/XI-59 г.**

*На кнізе:* Пімен Панчанка. Шырокі свет : вершы. Мн., 1955.

**Дарагому Данілу Міцкевічу ад сэрца. Пімен Панчанка. 26/I-61 г.**

*На кнізе:* Пімен Панчанка. Нью-Йоркскія малюнкі. Мн., 1960.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу на ўспамін аб тых дарогах і тых днях, якія запомніліся, ад усяе душы — Пімен Панчанка. 9/II-84 г.**

*На кнізе:* Пімен Панчанка. Млечны шлях. Мн., 1980.

**Дарагому Данілу. Каб быў шчаслівы на Коласавай жаўранкавай зямлі. Пімен Панчанка. 9/II-84.**

*На кнізе:* Пімен Панчанка. Дзе начуе жаўранак. Мн., 1983.

*Панчанка Пімен Емяльянавіч* (1917–1995), беларускі паэт, перакладчык. Народны паэт Беларусі (1973).

## Уладзімір Паўлаў

**Шаноўнаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу і яго ўнукам — шчыра.** Подпіс У.А. Паўлава**. 13.1.95.**

*На кнізе:* Уладзімір Паўлаў. Колькі гусей убачыў Яўсей? Мн., 1994.

*Паўлаў Уладзімір Андрэевіч* (нар. у 1935 г.), беларускі пісьменнік, перакладчык.

## Піліп Пестрак

**Паважанаму Даніле Канстанцінавічу Міцкевічу — на ўспамін. 29.XI.59 г. П. Пестрак.**

*На кнізе:* Піліп Пестрак. Лясная песня. Мн., 1958.

*Пестрак Піліп Сямёнавіч* (1903–1978), беларускі пісьменнік, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1964).

## Аляксандр Пракоф'еў

**Даниле Константиновичу Мицкевичу — милому моему другу, — сердечно от меня и Нади. А. Прокофьев. 25/I 58 г.**

*На кнізе:* Александр Прокофьев. В пути. Л., 1953.

**Даниле Константиновичу Мицкевичу, как другу. А. Прокофьев. 17/VIII.61 г. Минск.**

*На кнізе:* Аляксандр Пракоф'еў. Прызнанне ў любві. Мн., 1961.

*Пракоф'еў Аляксандр Андрэевіч* (1900–1971), расейскі паэт, пераклаў на рускую мову многія творы Якуба Коласа, Янкі Купалы і іншых беларускіх паэтаў.

## Ідылія Пранскус

**Дорогим Даниле Константиновичу и Алечке с любовью. 22.I.79 г. И. Пранскус.**

*На кнізе*: Б. Пранскус-Жалёнис. Близкие дали : воспоминания. Вильнюс, 1978.

*Пранскус Ідылія Браніславаўна* (нар. у 1929 г.), літоўская піяністка, педагог. Дачка Б. Пранскуса-Жалёніса.

## Паўлюк Прануза

**Паважанаму і шаноўнаму Даніле Канстанцінавічу ў знак сустрэчы на літаратурным вечары ў санаторыі «Нясвіж» з пажаданнем усяго добрага. Ад сэрца. П. Прануза. 29.VII.68 г. Нясвіж.**

*На кнізе:* Паўлюк Прануза. Родныя мясціны. Мн., 1968.

*Пранузa Паўлюк (Павел) Кузьміч* (1918–2007), беларускі паэт, перакладчык.

## Васіль Праташчык

**Глубокоуважаемому Даниле Константиновичу от В. Протащика. 12 марта 1957 г.** Подпіс В.А. Праташчыка.

*На зборніку:* Институт химии АН БССР : сборник научных работ. 1956. № 5 (1). № 5 (2). (Б.В. Ерофеев, В.А. Протащик. Кинетика термического разложения карбоната магния и величина поверхности твердого продукта (MgO).)

**Многоуважаемому Даниле Константиновичу Мицкевичу. В память совместной работы от автора. 27 сентября 1958 года.** Подпіс В.А. Праташчыка.

*На аўтарэфераце:* В.А. Протащик. О роли поверхности и контакта между частицами в некоторых реакциях твердых веществ : автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата химических наук. Мн., 1958.

**Дорогому и глубокоуважаемому Даниле Константиновичу Мицкевичу на добрую память от исключительно благодарного автора по совместной работе в Институте химии АН БССР. Август 1974.** Подпіс В.А. Праташчыка.

*На брашуры:* В.А. Протащик. Новые закономерности в топохимии (новое в жизни, науке, технике). М., 1974. (Сер. 5, Химия.)

*Праташчык Васіль Ануфрыевіч* (1921–1994), беларускі вучоны, хімік.

## Пятро Прыходзька

**Дарагому, шматпаважанаму Данілу Канстанцінавічу, цудоўнаму чалавеку, другу, таварышу, шануючы светлую памяць яго незабыўнага вечна жывучага бацькі. Пятро Прыходзька. 12/IV-58 г. г. Мінск.**

*На кнізе:* Пятро Прыходзька. Пасля развітання. Мн., 1958.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу — на ўспамін аб самым лепшым у жыцці, ад шчырага сэрца. Пятро Прыходзька. 25/I-61.**

*На кнізе:* Пятро Прыходзька. Цёплы каравай : вершы. Мн., 1960.

*Прыходзька Пятро (Пётр) Фёдаравіч* (1920–2006), беларускі паэт, перакладчык.

## Яўгенія Пфляўмбаўм

**Дарагому Данілу Міцкевічу, даўняму, добраму, нашаму другу. 1.XII.92.** Подпіс Я.Э.Пфляўмбаўм.

**Дарагім Сябрам нашага дому з любоўю. 20.X.93.** Подпіс Я.Э. Пфляўмбаўм.

*На кнізе:* Яўгенія Пфляўмбаўм. На захадзе сонца. Вершы. Мн., 1992 [дзве адзінкі кнігі. — *Заўв. В.М.*].

*Пфляўмбаўм Яўгенія Эргардаўна* (1908–1996), беларуская паэтэса, перакладчыца. Жонка *М. Лужаніна*.

## Сяргей Пятровіч

**Даніле Канстанцінавічу Міцкевічу з падзякай за клопаты, звязаныя з падрыхтоўкай гэтай кнігі. 10-II-76 г.** Подпіс С.А. Пятровіча.

*На кнізе:* С. Пятровіч. Якуб Колас і беларускі тэатр. Мн., 1975.

*Пятровіч Сяргей Астапавіч* (1931–1981), беларускі тэатразнавец.

## Вячаслаў Рагойша

**Паважанаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з самымі цёплымі пачуццямі, дзякуючы за дапамогу ў адшуканні матэрыялаў для гэтай кнігі — Вячаслаў Рагойша. Мінск, 22.IV.72.**

*На кнізе:* В.П. Рагойша. Пераклаў Якуб Колас… Мн., 1972.

**Дарагім Аляўціне Цімафееўне і Данілу Канстанцінавічу з пажаданнем усяго найлепшага ў жыцці, з сардэчнасцю — Вячаслаў Рагойша. Мінск, 25.VIII.79 г.**

*На кнізе*: В.П. Рагойша. Гутаркі пра верш. Метрыка. Рытміка. Фоніка. Мн., 1979.

**Данілу Канстанцінавічу з глыбокай павагай і ўдзячнасцю, на глыбейшае знаёмства з маёй роднай Валожыншчынай — Вяч. Рагойша. Менск. 11.08.92.**

*На кнізе:* Вячаслаў Рагойша. Там, дзе бруіцца Ісляч… Мн., 1991.

**Данілу Канстанцінавічу, Але Міхайлаўне** [правільна — Цімафееўне. — *Заўв. В.М.*] **і Веры Міцкевічам з глыбокай павагай, сардэчнасцю і ўдзячнасцю. Няхай і далей адгукаюцца нашы сяброўскія словы ў сэрцах адзін аднаго! Вяч. Рагойша. 8.10.92 г.**

*На кнізе:* Вячаслаў Рагойша. І адгукнецца слова ў слове… Мн., 1992.

*Рагойша Вячаслаў Пятровіч* (нар. у 1942 г.), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык.

## Норберт Рандаў

**Спадару Данілу Міцкевічу першае поўнае выданне «Казак жыцьця» Якуба Коласа са шчырымі пажаданьнямі. Норберт Рандаў. 7 чэрвеня 1991 года. Берлін.**

*На кнізе:* Jakub Kolas. Märchen des Lebens. Berlin, 1988.

*Рандаў Норберт* (нар. у 1929 г.), нямецкі вучоны, славіст, перакладчык.

## Мэйнгард Рудзіціс

**Дорогому Даниилу Константиновичу Мицкевичу в дни латышской литературы в Белоруссии. Мейнхардс Рудзитис. Минск. 1959 г.**

*На кнізе:* Писатели Советской Латвии. Рига, 1955.

*Рудзіціс Мэйнгард* (1910–1966), латышскі паэт, перакладчык.

## Алесь Рыбак

**Дарагім Данілу Канстанцінавічу і Але Цімафееўне — шчыра, з вялікім хваляваннем аб сустрэчы ў Доме Коласа, з пажаданнем дабра, ладу ў жыцці, здароўя, з удзячнасцю, што Вы ёсць і заўсёды будзеце ў сэрцы маім. Красавік 1996 г. Алесь Рыбак.**

*На кнізе:* Алесь Рыбак. Абпаленыя крылы : раман, аповесць. Мн.,1994.

*Рыбак Алесь (Аляксандр) Пятровіч* (нар. у 1934 г.), беларускі пісьменнік.

## Багдан Рыльскі

**Шановному Данилові Костянтиновичу з почуттям щирої приязні і вдячності. 25.IX.74 р.** Подпіс Б.М. Рыльскага.

*На кнізе*: М. Рильський. Сонети / упорядкування Богдана Рильського. Київ, 1974.

*Рыльскі Багдан Максімавіч* (1930–1991), у той час дырэктар літаратурна-мемарыяльнага музея Максіма Рыльскага ў Кіеве. Сын *Максіма Рыльскага*.

## Максім Рыльскі

**Данилові Костянтиновичу Коласу-Міцкевичу від автора вірша «Дуб Данила». М. Рильський. 17/X.1962.**

*На кнізе:* Максим Рильський. Зграя веселиків : лірика 1959 року. Київ, 1960.

*Рыльскі Максім Тадэевіч* (1895–1964), украінскі паэт, вучоны, грамадскі дзеяч. На ўкраінскую мову перакладаў творы беларускіх паэтаў. Сябраваў з Якубам Коласам.

## Алесь Савіцкі

**Даніле Канстанцінавічу — чалавеку вялікага і добрага сэрца. На добрую памяць. З глыбокай павагай. Мінск, ліпень 1962. Алесь.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Кедры глядзяць на мора : аповесць. Мн., 1960.

**Даніле Канстанцінавічу — з глыбокай павагай, як абяцанне: «пасля паводкі», пад гоман соснаў, што гудуць тут, на святой коласаўскай зямлі, пусціць на плынь добрую сапраўдную крыгу. Мінск. 4 жніўня 1962. Алесь.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Пасля паводкі : аповесць. Мн., 1962.

**Даніле Канстанцінавічу на ўспамін пра мой славуты і цудоўны Полацк на Дзвіне. З павагай Алесь Савіцкі, што з граду Полацку. Жнівень 1962 г.**

*На буклеце:* Полацк : буклет. Мн., 1962.

**Гэта Вам, дарагі Даніла Канстанцінавіч, як падзяка, як прызнацельнасць шчырасці Вашага вялікага чалавечага сэрца і мужнага. З падзякаю за тое добрае, што я ўбачыў у Вас і чаму навучыўся. З найлепшымі пажаданнямі і павагаю. Ваш Алесь. 24-XII 63г.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Жанчына : раман. Мн., 1963.

**Гэта, мала сказаць Вам, дарагі Даніла Канстанцінавіч — на добры ўспамін. Важна, каб гэтае пажаданне сапраўды жыло ў душы. У знак таго, што яно — ёсць. З павагаю. Алесь Савіцкі. 1965 г. 20 красавіка. Мінск.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Белы гарлачык : апавяданні. Мн., 1965.

**Данілу Канстанцінавічу, чалавеку чуламу і сардэчнаму з глыбокай прызнальнасцю і падзякаю за творчую**

**атмасферу, у якой выспяваў гэты «Палын». З павагаю і найлепшым. Алесь Савіцкі. 19–10–68 г. г. Мінск.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Палын — зелле горкае : раман. Мн., 1967.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — на добры ўспамін з глыбокай падзякай за бацькоўскую цеплыню і сардэчнасць. Снежня 1982 г. Мінск.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Зямля не раскажа : раман. Мн., 1980.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — шчыраму і сардэчнаму чалавеку, сапраўднаму сыну свайго бацькі Якуба Коласа ад душы, ад сэрца — Алесь Савіцкі. Снежань 1982 г. г. Мінск.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Літасці не чакай : раман. Мн., 1982.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — з павагаю глыбокай і сардэчнасцю. Алесь Савіцкі. Снежань 1982 г. Мінск.**

*На кнізе:* Алесь Савіцкі. Толькі аднойчы : раман. Мн., 1979.

*Савіцкі Алесь (Аляксандр) Ануфрыевіч* (нар. у 1924 г.), беларускі пісьменнік. Супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў 1962–1970 гг.

## Барыс Сачанка

**Сыну вялікага Якуба Коласа Данілу Канстанцінавічу ў знак глыбокай павагі і ўдзячнасці. Шчыра. 30.IX.73 г.** Подпіс Б.І. Сачанкі.

*На кнізе:* Барыс Сачанка. Дарогі. Выбранае. Мн., 1971.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — сыну вялікага Коласа з глыбокай павагай. 23.V.75 г.** Подпіс Б.І. Сачанкі.

*На кнізе:* Барыс Сачанка. Чужое неба. Вузлы памяці. Мн., 1975.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай удзячнасцю і павагай. 3.2.81 г.** Подпіс Б.І. Сачанкі.

*На кнізе:* Барыс Сачанка. Вялікі лес : раман. Мн., 1980.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу. З глыбокай павагай, жадаючы дабра, шчасця і ўсяго самага лепшага. 23.IV.85 г. Бар. Сачанка.**

*На кнізе:* Барыс Сачанка. Жывое жыццё. Мн., 1985.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з самымі добрымі пачуццямі і глыбокай павагай. Бар. Сачанка. 16.V.90 г.**

*На кнізе:* Барыс Сачанка. Сняцца сны аб Беларусі… Мн., 1990.

*Сачанка Барыс Іванавіч* (1936–1995), беларускі пісьменнік, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1982).

## Тамара Сачанка

**Глыбокапаважанаму Данілу Канстанцінавічу ад маці аўтаркі — дэбютанта гэтай кніжачкі. Т. Сачанка. 29.01.90 г.**

*На кнізе:* Галіна Багданава. Папяровыя замкі : апавяданні. Мн., 1990. (Бібліятэка часопіса «Маладосць».)

*Сачанка Тамара Андрэеўна* (1936–2010), філолаг, навуковец. Супрацоўніца Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў 1965–1991 гг. Жонка *Б.І. Сачанкі*.

## Антон Семяновіч

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з найлепшымі пажаданнямі. 14 мая 1982 г.** Подпіс А.А. Семяновіча.

*На кнізе:* Янка Купала і Якуб Колас. Некаторыя аспекты творчасці / пад агульнай рэд. А.А. Семяновіча. Мн., 1982.

*Семяновіч Антон Аляксандравіч* (1917–2000), беларускі літаратуразнавец.

## Уладзімір Скарынкін

**І да Зуёнка,**
**і да Ніла**
**Быў сынам Коласа**
**Даніла.**
**А мне яшчэ**
**з дзяцінства люба**
**Уся паэзія Якуба.**
**Я рад Якубу праз Данілу**
**Аддаць удзячнасці даніну.**

**Шчыра. Ул. Скарынкін. 17.11.94 г.**

*На кнізе:* Уладзімір Скарынкін. Лосвіда : вершы і паэмы. Мн., 1993.

*Скарынкін Уладзімір Максімавіч* (нар. у 1939), беларускі паэт, перакладчык.

## Аляксандр Скрыган

**Даниил[у] Константиновичу от авторов (Скриган, Вернер).**

*На кнізе:* А.И. Скриган. Сосновое флотационное масло. Комплексное использование пневого осмола и древесины хвойных. Мн., 1948.

*Скрыган Аляксандр Іосіфавіч* (1905–1981), беларускі вучоны, хімік.

*Вернер Вікторыя Станіславаўна* (1914–?), беларуская вучоная, лесахімік.

## Аляксей Слесарэнка

**Гэтую кніжачку можна б назваць яшчэ: «Са словам Коласа», бо яно гучала на ўсіх дарогах. Дарагому Данілу Канстанцінавічу — сыну Коласа, другу найлепшаму,**

**натхніцелю ў творчасці, пабраціму і аднадумцу! З любоўю Аляксей Слесарэнка. 1 верасня 1965 Мінск.**

*На кнізе:* Аляксей Слесарэнка. Дарогі і песні. Мн., 1965. (Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы».)

**Шасцідзесяцігадоваму майму Данілу Міцкевічу, з пажаданнем светлых дзён яшчэ гадоў на сорак і болей. А тыя, якія звялі да нуля адданую маю дзейнасць, да таго як спрахнуць, няхай анямеюць, аслепнуць і аглохнуць. Лічу, што тады ім не ўдасца парушыць нашай шчырай, нічым не азмрочанай, шматгадовай дружбы. Аляксей Слесарэнка. 27 верасня, 1974. Мінск.**

*На кнізе:* О. Слєсаренко. Дорогі обличчя. Київ, 1974.

**Дарагому Данілу Міцкевічу — даўняму другу і таварышу. На светлы ўспамін аб мінулым. Аляксей Слесарэнка. 30 IX-1979. Мінск.**

*На кнізе:* Аляксей Слесарэнка. Жыццё ў мастацтве. Мн., 1977.

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў дзень яго тры разы па 25. Для глыбіннага вывучэння і ўступлення ў непахісныя шэрагі. Некалі цябе не прынялі ў камсамол як «элемента непралятарскага паходжання». Цяпер прымуць. «Павер майму вопыту…». Жадаю поспеху! P.S. Дзякуй за жалезны бюст правадыра ў мае́ — два па 35. Аляксей Слесарэнка.** [Верасень 1989. — *Заўв. В.М.*].

*На кнізе:* Устав Коммунистической партии Советского Союза. М., 1981.

*Слесарэнка Аляксей Аляксеевіч* (1919–2005), беларускі пісьменнік, акцёр эстрады. Супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў 1962–1974 гг.

## Анатоль Слесарэнка

**Дорогим моим Друзьям Алле и Даниилу Мицкевичам в знак моего глубокого уважения и любви. Анатоль Слесаренко. 27 IX 77. Киев.**

*На кнізе:* Анатолій Слесаренко. Пять песен о коммунистах. Киев, 1977.

*Слесарэнка Анатоль Аляксеевіч* (1923–1997), украінскі кінарэжысёр, сцэнарыст, пісьменнік, паэт. Брат *А.А. Слесарэнкі*.

## Святлана Сомава

**Дорогому Даниилу Константиновичу — на память. Светлана Сомова. 2/X-67 г.**

*На кнізе:* Светлана Сомова. Поэма о Поэте [пра Хаміда Алімджана. — *Заўв. В.М.*]. Ташкент, 1962.

*Сомава Святлана Аляксандраўна* (1911–1989), расейская паэтэса, перакладчыца. Была знаёма з Якубам Коласам і яго сям'ёй з 1942 г.

## Браніслаў Спрынчан

**Даниле Константиновичу Мицкевичу — от всего сердца. 2/IX-70 г.** Подпіс Б.П. Спрынчана.

*На кнізе:* Бронислав Спринчан. Черты лица : стихотворения и поэма. Мн., 1970.

*Спрынчан Браніслаў Пятровіч* (1928–2008), беларускі паэт, перакладчык.

## Уладзімір Стальмашонак

**Шматпаважанаму Даніле Канстанцінавічу Міцкевічу! Я ведаю, гэта кніжка ў Вас ужо ёсць, але ж з нагоды сённяшняй урачыстасці, дазвольце Вам яе як знак вялікай павагі да Вас, да памяці Вашага бацькі і, канешне, светлай памяці Вялікага паэта зямлі Беларус-**

**кай. Я сёння падлічыў, і, ведаеце, аж 10 партрэтаў мне давялося рабіць Якуба Коласа[…]. Вітаю Вас, здароўя Вам.** Подпіс У.І. Стальмашонка. **15.VII.93. Менск.**

*На кнізе*: Эрих Дарский. Владимир Стельмашонок. М., 1983.

*Стальмашонак Уладзімір Іванавіч* (1928–2013), беларускі мастак, жывапісец, педагог. Народны мастак Беларусі (1988).

## Уладзімір Стэльмах

**Дарагому майму сябру юнацтва Данілу Міцкевічу. На добры ўспамін аб гадах юнацтва і сталасці… З найлепшымі думкамі і пажаданнямі. 28/IV-67 г. Твой Ул. Стэльмах.**

*На кнізе*: У. Стэльмах. Кранаючы чуткія струны душы. Мн., 1966.

*Стэльмах Уладзімір Мацвеевіч* (1907–1974), беларускі тэатральны дзеяч, пісьменнік.

## Супрацоўнікі Літаратурнага музея Петруся Броўкі

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу. У дзень яго слаўнага 75-годдзя. Калектыў Літаратурнага музея П. Броўкі.**

*На кнізе:* Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986.

**Шаноўны і дарагі Даніла Канстанцінавіч! Віншуем Вас са слаўным юбілеем. Рады бачыць Вас, слухаць голас Ваш, чытаць Вашы змястоўныя допісы пра свайго бацьку, нашага песняра Якуба Коласа і яго сяброў яшчэ на працягу многіх-многіх гадоў. Жадаем Вам здароўя і радасці. Супрацоўнікі Літаратурнага музея Петруся Броўкі. 30.09.1994 г.**

*На кнізе:* Пятрусь Броўка. І маладосць і сталасць : вершы. Мн., 1980.

## Супрацоўнікі ЦНБ імя Я. Коласа НАН Беларусі

**Паважанаму Д.К. Міцкевічу ад калектыва супрацоўнікаў Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР.**

*На кнізе:* Янка Брыль. Жменя сонечных промняў. Мн., 1965.

## Максім Танк

**На добрыя ўспаміны аб нашых нарачанскіх сустрэчах дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — Максім Танк. Мінск. 10/XII-57 г.**

*На кнізе:* Максім Танк. След бліскавіцы : вершы. Мн., 1957.

*Максім Танк (*сапр. *Скурко Яўген Іванавіч,* 1912–1995), беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1968).

## Аляксандр Твардоўскі

**Даниилу Константиновичу Мицкевичу. А. Твардовский. 25.VI.49.**

*На кнізе:* Александр Твардовский. Василий Теркин. М.; Л., 1949.

*Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч* (1910–1971), расейскі паэт, грамадскі дзеяч. Перакладаў на рускую мову творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Аркадзя Куляшова і іншых беларускіх паэтаў.

## Мікола Ткачоў

**Вельмі паважанаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — сардэчна і з самымі добрымі пажаданнямі. М. Ткачоў. 11.IV.63 г.**

*На кнізе:* Мікола Ткачоў. Пошукі скарбаў. Мн., 1963.

*Ткачоў Мікола (Мікалай) Гаўрылавіч* (1918–1979), беларускі пісьменнік, перакладчык.

## Леанід Токараў

**Дорогой Даниил! На дружбу и [нрзб]. Жму руку. Леонид. 3.12.46. г. Минск.**

*На кнізе:* Леонид Токарев. В походе : стихи. Мн., 1946.

*Токараў Леанід Сцяпанавіч*, расейскі паэт, былы маёр. Быў знаёмы з Якубам Коласам і яго сям’ёй у 1940-х гг.

## Генадзь Тумас

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — ма́ю за шчасце ахвяраваць Вам на доўгі век сваё слоўка пра дзядзьку Якуба. Шчыра Генадзь Тумас. 1982.XII.2.**

*На кнізе:* Генадзь Тумас. Родны бераг песняра. Да 100-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Мн., 1982.

*Тумас Генадзь (*сапр. — *Тумаш Яўген Дзмітравіч,* нар. у 1940 г.), беларускі пісьменнік, перакладчык. Працаваў у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў 1974–1987 гг.

## Фелікс Фарнальчык

**Przemilemu Danile Mickiewiczowi i jego żonie Alle z serdecznym podziękowaniem za gościne na ziemi sławnego Jakuba Kołasa. Feliks Fornalczyk. Minsk, w sierpniu 1974.**

(У перакладзе з польскай мовы: **Міламу Даніле Міцкевічу і яго жонцы Але з сардэчнай падзякай за гасціннасць на зямлі слаўнага Якуба Коласа. Фелікс Фарнальчык. Мінск, у жніўні 1974.**)

*На кнізе:* Feliks Fornalczyk. Hardy lirnik wioskowy. Poznań, 1972.

*Фарнальчык Фелікс* (1928–1987), польскі літаратуразнавец, крытык, эсэіст.

## Фёдар Фёдараў

**Многоуважаемому Даниле Константиновичу Мицкевичу от автора. 25.9.51 г.** Подпіс Ф.І. Фёдарава.

*На зборніку:* Доклады АН СССР. 1949. Т. LXV. № 6. (Ф.И. Фёдоров. К вопросу о решении релятивистских волновых уравнений.)

**Дорогому другу Даниле на добрую память от автора. 11.V.58 г.** Подпіс Ф.І. Фёдарава.

*На кнізе:* Ф.И. Фёдоров. Оптика анизотропных сред. Мн., 1958.

*Фёдараў Фёдар Іванавіч* (1911–1994), беларускі вучоны, фізік-тэарэтык, стварыў навуковую школу Беларусі па тэарэтычнай фізіцы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1972) і Дзяржаўнай прэміі СССР (1976). Сын беларускага пісьменніка Янкі Маўра.

## Любоў Фіглоўская

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу ў знак памяці аб незабыўным Якубе Коласе, творчасць якога з'яўляецца невычарпальнай крыніцай творчага натхнення для працоўнага чалавека. 3/Х 1959 г. Л. Фіглоўская.**

*На кнізе*: Л.І. Фіглоўская. Творчасць Якуба Коласа. Мн., 1959.

*Фіглоўская Любоў Іванаўна* (1908–1979), беларускі літаратуразнавец.

## Ізраіль Флакс

**Қадрдон Даник хотира учун. Изя Флакс. Тошкент. 30.IX.42.**

(У перакладзе з узбекскай мовы: **Дарагому сябру Даніку на памяць. Ізя Флакс. Ташкент. 30.IX.42.**)

*На кнізе:* Краткий русско-узбекский словарь / под ред. проф. А.К. Боровкова. Ташкент. 1942.

**Дорогому Данику от Изи. 22/VIII 53 г.**

*На зборніку:* Доклады АН СССР. 1953. Т. XCI. № 1. (Ю.А. Дунаев и И.П.Флакс. Вторичная эмиссия при бомбардировке металической мишени многозарядными ионами.)

*Флакс Ізя (Ізраіль) Пятровіч* (1914–1985), расейскі вучоны, інжынер. Знаёмы сям'і Якуба Коласа, сябар Д.К. Міцкевіча з пачатку 1930-х гг.

## Яўген Хвалей

**Паважанаму Данілу Канстанцінавічу, сыну Якуба Коласа, — на добрую памяць. Шчыра. Зямляк Я. Коласа** — подпіс Я.І. Хвалея. **1.IX.1992. Музей Я. Коласа.**

*На кнізе:* Яўген Хвалей. Квадры памяці : вершы. Мн., 1992.

*Хвалей Яўген Іванавіч* (нар. у 1947 г.), беларускі пісьменнік.

## Мікола Хведаровіч

**Данілу Канстанцінавічу ад усяго сэрца з пашанай. М. Хведаровіч. 29/XI 59.**

*На кнігах:* Мікола Хведаровіч. Залаты лістапад : вершы. Мн., 1957; Микола Хведарович. Зацветает лён : стихи. М., 1959.

*Хведаровіч Мікола* (сапр. *Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч,* 1904–1981), беларускі паэт, празаік, перакладчык.

## Анатоль Чапураў

**Дорогой Данила Константинович, прими эту книжечку в знак моего дружеского чувства. С ленинградским приветом. А. Чепуров. 11 ноября 1962.**

*На кнізе:* Анатолий Чепуров. Перекресток свиданий : стихи разных лет. Л., 1962.

*Чапу́раў Анатоль Мікалаевіч* (1922–1990), расейскі паэт.

## Іван Чыгрын

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай і ўдзячнасцю. Аўтар. 21/ІІ 1971 г.** Подпіс І.П. Чыгрына.

*На кнізе*: І.П. Чыгрын. Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1971.

**Прыемна ўсведамляць, калі дзеці вялікіх людзей застаюцца вернымі сцвярджальнікамі неардынарных спраў сваіх бацькоў. Шаноўнаму Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу — аўтар. 12.ІІІ.1991 г.** Подпіс І.П. Чыгрына.

*На кнізе:* Іван Чыгрын. Рэальнае і магчымае. Проза Якуба Коласа. Мн., 1991.

*Чыгрын Іван Пятровіч* (1931–2006), беларускі літаратуразнавец, паэт.

## Іван Чыгрынаў

**Дарагому Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з даўняй, глыбокай і нязменнай павагай аўтар. 23.ІІ.73 года — у дзень 55-й гадавіны Савецкай Арміі. Ів. Чыгрынаў.**

*На кнізе:* Іван Чыгрынаў. Плач перапёлкі : раман. Мн., 1972.

*Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч* (1934–1996), беларускі пісьменнік, перакладчык, сцэнарыст. Народны пісьменнік Беларусі (1994).

## Іван Шамякін

**Але, Веры, Данілу Міцкевічам, дзецям і ўнучцы Вялікага Коласа, настаўніка майго. З любоўю, на добрую дружбу, з пажаданнем шчасця ўсім Вам. Іван Шамякін. 30.ІХ.79 г.**

*На кнізе*: Іван Шамякін. Збор твораў : у 6 т. Мн., 1977. Т. 1: Аповесці. Раман.

**Але Цімафееўне, Данілу Канстанцінавічу Міцкевічам — на добрую дружбу, з найлепшымі пажаданнямі. Іван Шамякін. 27.II.84 г.**

*На кнізе*: Іван Шамякін. Петраград — Брэст. Мн., 1983.

*Шамякін Іван Пятровіч* (1921–2004), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1972).

## Станіслаў Шушкевіч

**Данілу Канстанцінавічу з глыбокай павагай і пашанай. Станіслаў Шушкевіч. 17.I.1960. г. Мінск.**

*На кнізе:* Станіслаў Шушкевіч. Дарогаю вясны. Мн., 1959.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай і добразычлівасцю. Станіслаў Шушкевіч. 28 жніўня 1968 г.**

*На кнізе:* Станіслаў Шушкевіч. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968.

**Данілу Канстанцінавічу ад шчырага сэрца. Станіслаў Шушкевіч. 27.X.1969.**

*На кнізе:* Станіслаў Шушкевіч. Грушы на вярбе : вершы, байкі, эпіграмы. Мн., 1969.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з глыбокай павагай і добразычлівасцю. Станіслаў Шушкевіч. 14 красавіка 1982.**

*На кнізе:* Станислав Шушкевич. Друзьям : стихи. М., 1981.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу на добры ўспамін. З павагай і добразычлівасцю. Станіслаў Шушкевіч. 16.I.1984 г.**

*На кнізе:* Станіслаў Шушкевіч. Казачны церам : вершы, казкі. Мн., 1983.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу. Здароўя і творчых поспехаў жадаю Вам. З павагай. Станіслаў Шушкевіч. 26.III.1987.**

*На кнізе:* Станіслаў Шушкевіч. Казёл на верталёце : вершы. Мн., 1987.

**Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу з павагай і добразычлівасцю. Станіслаў Шушкевіч. 18.V.1988 г.**

*На кнізе:* Станіслаў Шушкевіч. Апавяданні пра Марата Казея. Мн., 1988.

*Шушкевіч Станіслаў Пятровіч* (1908–1991), беларускі паэт.

## Захар Шыбека

**Многоуважаемому Данилу Константиновичу от автора книги о дореволюционном Минске, увы, служившем тюрьмой для народных поэтов. 13 июня 1986 г. З. Шибеко.**

*На кнізе:* Захар Шибеко. Минск в конце XIX — начале XX в. : очерк. Мн., 1985.

*Шыбека Захар Васілевіч* (нар. у 1948 г.), беларускі гісторык.

## Аляксей Шыляеў

**Глубокоуважаемому Данилу Константиновичу с наилучшими пожеланиями и на добрую память. От автора. 9/XII-95 г.** Подпіс А.С. Шыляева.

*На кнізе:* А.С. Шиляев. Ультразвуковая обработка расплавов при производстве и восстановлении деталей машин. Мн., 1992.

*Шыляеў Аляксей Сямёнавіч* (нар. у 1929 г.), беларускі вучоны ў галіне матэрыялазнаўства.

## Вадзім Шэфнер

**Зарине Владимировне, Даниилу Константиновичу Мицкевичам — с благодарностью за гостеприимство и самыми лучшими пожеланиями. Вадим Шефнер. Ленинград. 11.V.59.**

*На кнізе:* Вадим Шефнер. Нежданный день : стихи. Л., 1958.

*Шэфнер Вадзім Сяргеевіч* (1914–2002), расейскі паэт, празаік.

## Вольга Якушка

**Дарагому Даніле Канстанцінавічу — Даніку ў дзень яго свята. Аўтар** (подпіс В.П. Якушка) **і прымкнуўшы** (подпіс А.І. Лавыша) (**Толік). 30.IX.1979.**

*На кнізе:* О.Ф. Якушко. Край озёрный. Мн., 1978.

*Якушка Вольга Піліпаўна* (1921–2012), беларуская вучоная, географ, геамарфолаг, лімнолаг. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). Жонка *Лавыша А. І.*

## Яўгенія Янішчыц

**Дарагому Данілу Міцкевічу на згадку. Жэня Янішчыц. 9.VII.1978 г., Альбуць:**

**…Дабрыдзень, ліст вясковага спакою,**
**Уяўнага, як люстра ціхіх вод.**
**Калі ж душа зліваецца з ракою —**
**Няма тады спадманнага спакою, —**
**Ёсць ціхіх думак вольны веснаход.**

**Ёсць мудрае, адзінае жаданне**
**Да рэшты зразумець, чаму з вякоў**
**Нам раніць сэрца кожнае вяртанне**
**І кожнае шчымлівае спатканне**
**Не умясціць у рамкі гучных слоў!**

*На кнізе:* Яўгенія Янішчыц. Ясельда : лірыка. Мн., 1978.

*Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна* (1948–1988), беларуская паэтэса, перакладчыца.

# Бібліяграфічны паказальнік

## 1959

1. Вялікі пясняр беларускага народа: зб. артыкулаў аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа / склад. І. Жыдовіч, **Д. Міцкевіч**. — Мінск : Выд. АН БССР, 1959.
2. Якуб Колас: Жыццё і творчасць: літаратурны альбом / АН БССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы, Літаратурны музей Якуба Коласа; уступ. артыкул і склад. Ю. Пшыркова; рэдкал.: П.У. Броўка (гал. рэд.), М. Лужанін, **Д.К. Міцкевіч**, Л.І. Фіглоўская; «Даты жыцця і творчасці Якуба Коласа» Н.Б. Ватацы. — Мінск : Вучпедвыд. БССР, 1959.

## 1962

3. Жыццё для народа: зб. матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа / склад. І. Жыдовіч, **Д. Міцкевіч**. — Мінск : Выд. АН БССР, 1962.
4. Пісьмы народнага паэта [Якуба Коласа] / падрыхтавалі да друку **Д. Міцкевіч** і М. Базарэвіч // Беларусь. — 1962. — № 12. — С. 24.
5. **Мицкевич Д.** Сердечные встречи // Советская Белоруссия. — 1962. — 3 ноября. — С. 3.

## 1964

6. [Колас, Якуб]. Дзённік Якуба Коласа / падрыхтавалі да друку **Д. Міцкевіч** і М. Базарэвіч // Полымя. — 1964. — № 5. — С. 132–156.

## 1961–1964

7. Якуб Колас. Збор твораў: у 12 т. / рэдкал.: В. Барысенка, П. Броўка, К. Крапіва, М. Лужанін, **Д. Міцкевіч,** Ю. Пшыр-

коў; аўтар уступнага артыкула П. Броўка. — Мінск : Дзярж-выд. БССР, 1961–1964.

## 1966

8. **Мицкевич Д**. Якуб Колас — поэт народный: беседа с сыном писателя, директором Литературного музея Якуба Коласа в Минске Д. Мицкевичем / записал А. Эвентов // Тарибине Клайпеда (Советская Клайпеда). — 1966. — 24 декабря. — Газета выходит на литовском и русском языках.

## 1967

9. **Міцкевіч Д.** Родны кут песняра: [да адкрыцця філіяла Літаратурнага музея Якуба Коласа ў в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на] // Звязда. — 1967. — 21 чэрвеня.

## 1969

10. Пісьмы Якуба Коласа / падрыхтавалі да друку **Д. Міцкевіч** і М. Базарэвіч // Полымя. — 1969. — № 2. — С. 174–186.
11. **Міцкевіч Д**. Тут працаваў вялікі пясняр // Звязда. — 1969. — 4 снежня.

## 1970

12. Письма Якуба Коласа Е.С. Мозолькову / предисловие **Д. Мицкевича** «Другу, критику, переводчику»; подготов. к печати **Д. Мицкевич**, Н. Базаревич, Л. Чигринова // Неман. — 1970. — № 12. — С. 102–117.

## 1972

13. **Міцкевіч Д.** Дом-музей паэта: [пра Літаратурны музей Якуба Коласа] // Кніжны бюлетэнь. — 1972. — Лістапад.

## 1974

14. Якуб Колас: Жыццё і творчасць: [літаратурны альбом] / склад. **Д.К. Міцкевіч**, М.У. Базарэвіч, І.С. Курбека, М.І. Пратасевіч; уступны артыкул М. Лужаніна. — Мінск : Народная асвета, 1974.

## 1972–1978

15. Якуб Колас. Збор твораў: у 14 т. / рэдкал.: В. Барысенка, П. Броўка, К. Крапіва, М. Лужанін, **Д. Міцкевіч,** І. Навуменка, Ю. Пшыркоў; аўтар уступнага артыкула Ю.С. Пшыркоў. — Мінск : Маст. літ., 1972–1978.

## 1982

16. **Міцкевіч Даніла.** Слова пра бацьку // Успаміны пра Якуба Коласа: зборнік / склад. І.С. Курбека. — Мінск : Маст. літ., 1982. — С. 182–184.

## 1983

17. **Міцкевіч Д.** Багацце ягонай натуры // Літаратура і мастацтва. — 1983. — 16 снежня (№ 50). — С. 16.

## 1982–1983

18. Якуб Колас. Собрание сочинений: в 4 т.: пер. с белорус. / редкол.: С. Баруздин, К. Крапива, М. Лужанин, **Д. Мицкевич**, И. Науменко, А. Овчаренко, И. Чигринов, И. Шамякин; вступит. статья И.Я. Науменко; сост. и коммент. М.И. Мушинского, М.И. Протасевича. — Москва : Худож. лит., 1982–1983.

## 1985

19. **Міцкевіч Д.К.** Якуб Колас і кніга // Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі з нагоды дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа / Міністэрства

культуры БССР, Літаратурны музей Якуба Коласа; [склад. Г.З. Тумас]. — Мінск, 1985. — С. 12.
20. **Міцкевіч Д.** Якуб Колас і кніга // Літаратура і мастацтва. — 1985. — 24 мая. — С. 6–7.
21. Міцкевіч Ю. Лісты да родных / уступны арт. **Д. Міцкевіча** // Маладосць. — 1985. — № 5. — С. 150–154.

## 1986

22. **Міцкевіч Д.** Тут ён жыў // За передовую науку. — 1986. — 1 августа. — С. 2–3.
23. **Міцкевіч Д.** Мінская сядзіба Коласа // Літаратура і мастацтва. — 1986. — 8 жніўня. — С. 10–11.
24. **Міцкевіч Д.** Мясціны летніх адпачынкаў Якуба Коласа на Беларусі // Каласавіны: зб. навук. прац з нагоды дня нараджэння народнага паэта Беларусі Я. Коласа / АН БССР, ЦНБ імя Я. Коласа; [склад. Г.З. Тумас, М.Н. Далідовіч]. — Мінск, 1986. — С. 45–47.

## 1988

25. **Міцкевіч Д.** Любіце свой край! : інтэрв'ю з сынам Я. Коласа **Данілам Міцкевічам** / запісаў А. Барскі // Ніва: беларускі грамадска-культурны тыднёвік. — Беласток, 1988. — 27 лістапада (№ 48). — С. 1, 4.
26. **Міцкевіч Д.К.** Якуб Колас і кніга // Голас Радзімы. — 1988. — 26 мая (№ 21). — С. 6–7.

## 1989

27. **Міцкевіч Д.** «Разгорнем часаў шаты…» : гутарка з сынам Я. Коласа **Д.К. Міцкевічам** / запісаў І. Курбека // Літаратура і мастацтва. — 1989. — 29 верасня (№ 39). — С. 14–15.

## 1991

28. Дранчук В. З шуфляды Якуба Коласа: Вершы Якуба Коласа «Завёз беларус сваю мову...», «З блакнота дэпутата», «Максі-

му Лужаніну» / [Публікацыя **Данілы Міцкевіча**] // Народная газета. — 1991. — 16 сакавіка (№ 53). — С. 3.

29. **Міцкевіч Д.** «І дзе знайсці мне тыя словы...»: Успаміны пра маму // Работніца і сялянка. — 1991. — № 9. — С. 18–19.
30. **Міцкевіч Д.** «Мілы кут маіх дзядоў...» Што зроблена і што трэба зрабіць для належнага захавання коласаўскіх мясцін: [Стаўбцоўскі р-н] // Беларуская думка. — 1991. — Лістапад. — С. 70–77.
31. **Міцевіч Д.** Разбой на могілках, альбо Чаму святое месца ператварылася ў прахадны двор // Народная газета. — 1991. — 5 лістапада (№ 215). — С. 2.

## 1992

32. Бурак І. У доме пад соснамі: [з успамінаў **Д.К. Міцкевіча**] // Во славу Родины. — 1992. — 4 ноября.
33. **Міцкевіч Д.** Развітанне з роднай зямлёй: [з успамінаў сына Я. Коласа аб першых днях вайны 1941–1945 гг.] // Беларусь. — 1992. — № 11. — С. 15–17.
34. **Міцкевіч Д.** Родны кут песняра: [Стаўбцоўскі р-н] // Полымя. — 1992. — № 11. — С. 179–198.
35. **Міцкевіч Д.** Смольня // Прамень: грамадска-палітычная і інфармацыйна-рэкламная газета Стаўбцоўскага р-на. — 1992. — 5 верасня (№ 69). — С. 2.
36. **Міцкевіч Д.** У памяць Юркі (Слова пра брата): [аб лёсе сына Я. Коласа Ю. Міцкевіча] // Рэспубліка. — 1992. — 31 кастрычніка. — С. 4.
37. **Міцкевіч Д.** «Колас, сялянская душа…»: гутарка з сынам Я. Коласа **Д.К. Міцкевічам** / запісала Т. Канапацкая // Лунінецкія навіны. — 1992. — 31 кастрычніка (№ 123). — С. 3.

## 1993

38. Лужанін М., **Міцкевіч Д.** Сведчанні відавочцаў: ліст у рэдакцыю // Літаратура і мастацтва. — 1993. — 9 красавіка (№ 14). — С. 4.

39. Народны пясняр: З успамінаў пра Я. Коласа // Тэатральная Беларусь. — 1993. — № 1. — С. 39–42. — Аўтары: **Д. Міцкевіч**, В. Мазынскі, Б. Сяўко, З.Канапелька, І. Дорскі, Ц. Сяргейчык, В. Галіна, П. Малчанаў, Р. Шырма.
40. **Міцкевіч Д.** Родныя браты Якуб Колас і Антось Галіна пайшлі на вечны спачын, не развітаўшыся: [Першы з'езд беларусаў свету: інтэрв'ю з удзельнікамі / запісаў М. Стэльмак // Рэспубліка. — 1993. — 3 ліпеня (№ 127–128). — С. 3.

## 1994

41. **Міцкевіч Д.** Якуб Колас у Клязьме // Полымя. — 1994. — № 6. — С. 156–164.
42. **Міцкевіч Д.** Не тыя сцежкі...: Адказ Івану Шамякіну // Полымя. — 1994. — № 10. — С. 249–256.

## 1995

43. **Міцкевіч Д.** «Дзяцей, як тых снапкоў на току!..»: Браты і сёстры Якуба Коласа // Роднае слова. — 1995. — № 10. — С. 164–176.
44. **Міцкевіч Д.** Думкі пра «Новую зямлю» // Полымя. — 1995. — № 9. — С. 226–239.
45. **Міцкевіч Д.** «Жыві ж, наш край!»: [Аб рабоце Літаратурнага музея Якуба Коласа: Стаўбцоўскі р-н] // Рэспубліка. — 1995. — 5 верасня. — С. 1, 5.
46. **Міцкевіч Д.** «Сымон-музыка» — твор, які натхняе // Прамень: грамадска-палітычная і інфармацыйна-рэкламная газета Стаўбцоўскага р-на. — 1995. — 27 мая (№ 37). — С. 4.
47. **Мицкевич Д.** Человек-легенда: Про деда Талаша // Советская Белоруссия. — 1995. — 4 января (№ 2). — С. 4.

## 1996

48. Міцкевіч В., **Міцкевіч Д.** Гісторыя адной перапіскі: [Лісты Я. Коласа да жанчын] // Полымя. — 1996. — № 8. — С. 298–309.

49. **Міцкевіч Д.** Слова пра брата Юрку // Беларусь. — 1996. — № 8. — С. 12–14.
50. Колас смяецца, дбае, дапамагае: Выбраныя мясціны з успамінаў пра Я. Коласа [падрыхтаваў І. Курбека] // Роднае слова. — 1996. — № 2. — С. 160–168. — У змесце: **Д. Міцкевіч.** «Аддасце, калі буду бедны я».
51. **Міцкевіч Д.** «Усё жыццё прысвяціў ён нашай сям'і...». Сын Я. Коласа ўспамінае пра А.Д. Каменскага // Беларусь. — 1996. — № 5. — С. 12–14, 21.
52. **Міцкевіч Д.** Якуб Колас у Ташкенце ў час вайны (1941–1943 гг.) // Байрам. Татары на зямлі Беларусі. — 1996. — № 1/2 — С. 64–68.

## 1997

53. **Міцкевіч Д.** Пра бацьку / [Трагічныя трыццатыя: З апошніх надыктовак. Фрагмент будучай кнігі «Любіць і помніць. Успамінае сын Я. Коласа»] / публікацыя Веры Міцкевіч // Шлях Коласа: рэкламна-інфармацыйнае і грамадска-культурнае выданне. — 1997. — Лістапад (№ 1). — С. 7.

## 1999

54. **Міцкевіч Д.** Згадкі пра Міхася Ціханавіча: [Лынькова] / публікацыя Веры Міцкевіч // Літаратура і мастацтва. — 1999. — 26 лістапада (№ 47). — С. 6.

## 2000

55. **Міцкевіч Д.** Любіць і помніць: Успамінае сын Якуба Коласа / уклад. В.Д. Міцкевіч. — Мінск : Полымя, 2000.

## 2002

56. Колас смяецца, дбае, дапамагае: Выбраныя мясціны з успамінаў пра Я. Коласа [падрыхтаваў І. Курбека] // Крыніца. — 2002. — № 11/12. — С. 21–40. — У змесце: **Д. Міцкевіч.** «Аддасце, калі буду бедны я».

## 2004

57. **Міцкевіч Д.** Трагічныя трыццатыя: З апошніх надыктовак: [Фрагмент кнігі «Любіць і помніць. Успамінае сын Я. Коласа»] // Краязнаўчая газета. — 2004. — Верасень (№ 36). — С. 2.

## 2007

58. Якуб Колас смеется, заботится, помогает...: [Воспоминания писателей, ученых, актеров] / подготовил Иван Курбеко; перевод с бел. Михаила Журавины // Неман. — 2007. — № 6. — С. 174–182. — Авторы: М. Танк, М. Лыньков, П. Бровка, И. Шамякин, Я. Брыль, А. Макаёнок, М. Хведорович, А. Белевич, **Д. Мицкевич** и др.

## 2008

59. Міцкевіч В. Урывак з дзённіка Якуба Коласа ва ўспамінах сына **Данілы [Міцкевіча]** // Роднае слова. — 2008. — № 5. — С. 16–17.

## 2009

60. **Міцкевіч Д.** Якуб Колас і музыка: [запіс аднайменнага выступлення сына паэта Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча на беларускім радыё ў 1982 г. / падрыхтавала Вера Міцкевіч] // Літаратура і мастацтва. — 2009. — 2 кастрычніка (№ 37). — С. 15.

## 2012

61. Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы: у 2-х кн. / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан: [у раздз. «Апошні ліст Якуба Коласа» дакумент № 2 «Успаміны **Д.К. Міцкевіча**» 21.06.1996 / запісала В.Д. Міцкевіч]. — Мінск: ЛіМ, 2012. Кніга другая: 1939–2009, частка другая. — С. 200–201.

62. Якуб Колас: У думках, у сэрцах, у песнях // Зб. з серыі ЖЗЛБ: Успаміны, нарысы, эсэ, прысвячэнні. — Мінск: Маст. літ., 2012. — У змесце на с. 123–142: **Даніла Міцкевіч.** Слова пра бацьку; Багацце ягонай натуры; Родны кут песняра.

## 2013

63. Апалены золак. Слова пра Юрку, Коласава сына / уклад. М. Мятліцкі. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — У змесце на с. 11–20: **Даніла Міцкевіч**. Слова пра брата Юрку.

## *Аляўціна Міцкевіч* ***Разам па жыцці***

Данілу Канстанцінавіча я сустрэла ў той перыяд жыцця, калі ў яго шлюбных адносінах ужо была глыбокая трэшчына. Ён часта бываў у прыгнечаным стане. Гэта я зразумела пасля нашай трэцяй сустрэчы ў лістападзе 1959 года на прагулцы па Менску. У гэты дзень ён мне расказаў усё аб сваім жыцці за апошнія два гады. А сустрэліся мы з ім выпадкова ў нашага агульнага знаёмага — Мірзы Масэсавіча Авакава, вучонага, педагога, юрыста-міжнародніка ў доме па вуліцы Карла Маркса напрыканцы жніўня 1959 года. Мірза Масэсавіч прыехаў з замежнай камандзіроўкі, патэлефанаваў мне і папрасіў зайсці, паведаміўшы, што прывёз мне часопіс мод. Мы жылі зусім побач, у доме па вуліцы Валадарскага, каля Галоўпаштамта. Хутка я прыйшла і стала разглядаць часопіс. Пазванілі ў дзверы. Гаспадар пайшоў адчыняць, і праз хвіліну ў пакой увайшоў Даніла Канстанцінавіч. Працягваючы пры знаёмстве адно аднаму рукі, мы адначасова вымавілі: «Міцкевіч». І вельмі здзівіліся. Ён нават яшчэ раз перапытаў, ці не падалося яму. Зацікавіўся месцам нараджэння майго бацькі, і я адразу адказала: «Магілёўская вобласць, Шклоўскі раён, вёска Александрыя». Пры гэтым ён усміхнуўся і сказаў, што мы не родзічы. Другая сустрэча была ў верасні ў гэтай жа кватэры, толькі ён прыйшоў першым, а я за ім. Быў вельмі рады нашай нечаканай сустрэчы. На гэты раз папрасіў нумар майго тэлефона і дазволу пазваніць. Шмат расказваў нам з Мірзой пра планы будаўніцтва музейных філіялаў у Стаўбцоўскім раёне, пра новы дом, куды ўсе нядаўна пераехалі, пра тэатры, кіно і іншае. Мірза Авакаў падчас нашага знаёмства з Данілам Канстанцінавічам не казаў, а я і не запыталася, хто гэты мужчына. І толькі калі ён мяне

падвёз да свайго дома і мы зайшлі ў будынак, я зразумела, што гэта сын Якуба Коласа. У гэты дзень Даніла Канстанцінавіч пазнаёміў мяне з Аляксеем Аляксеевічам Слесарэнкам, які без перапынку і захлёбваючыся нешта казаў і казаў, што было цяжка зразумець. Потым Слесарэнка выйшаў з пакоя на некаторы час і ўжо зайшоў з падносам, ручніком, хлебам і соллю і пачаў нас бласлаўляць. Мы пасмяяліся, абярнуўшы ўсё ў жарт. Пасля яны ўдвух пайшлі праводзіць мяне на транспарт.

Вось так усё і пачалося. Відаць, гэта быў наш лёс. Астатнія тры сустрэчы да нашага вяселля адбываліся на вуліцах, у машыне, калі ішоў дождж ці снег. Даніла Канстанцінавіч часта званіў. Я ўбачыла ў ім цікавага суразмоўцу і эрудзіраванага чалавека, на здзіўленне сціплага і нават сарамлівага. Тады яму было 45 гадоў, а мне каля 30. Сваімі лёсамі мы аказаліся вельмі падобнымі. У 1956 годзе я атрымала развод і з Ленінграда пераехала да бацькоў у Менск, яны тут жылі з 1953 года. Адступаючы ад асноўнага апавядання, коратка скажу пра сябе і сваіх блізкіх.

Нарадзілася я 22 студзеня 1930 года ў Ленінградзе (Санкт-Пецярбурзе), дзе пражыла 26 гадоў. Паступіла ў Ленінградскі ўніверсітэт на геалагічны факультэт. Затым па сямейных абставінах у 1956 годзе пераехала да бацькоў у Менск. Тут скончыла БДУ, працавала ў сістэме Упраўлення геалогіі БССР больш за 30 год.

Мой бацька Цімафей Васілевіч Міцкевіч (1902–1959) нарадзіўся ў Беларусі. З 1922 года жыў у Ленінградзе. Спачатку скончыў палітэхнікум транспартных пуцей (будаўніцтва), а потым Хіміка-тэхналагічны інстытут імя Ленсавета. Амаль усё жыццё працаваў у прамысловасці будаўнічых матэрыялаў на кіруючых пасадах. Апошнія 12 гадоў жыцця на пасадзе намесніка міністра будма-

тэрыялаў, спачатку — Літоўскай ССР, а з 1953 года — БССР. Падчас Вялікай Айчыннай вайны будаваў ваенныя аэрадромы па лініі фронту і ў тыле. Маці — Галубкова Аляўціна Пятроўна (1909–1983) пасля атрымання сярэдняй адукацыі скончыла Ленінградскую балетную студыю. Працаваць у тэатры не давялося, таму што рана выйшла замуж і прысвяціла сябе сям'і. Мой родны брат Міцкевіч Леў Цімафеевіч (1934–2002) атрымаў спецыяльнасць архітэктара, скончыўшы Беларускі політэхнічны інстытут у Менску (цяпер — БНТУ). Працаваў у «Белпрампраекце». У 1970 годзе з сям'ёй пераехаў у Маскву і там працягваў працаваць архітэктарам. Мая малодшая сястра Юшкевіч (дзяв. Міцкевіч) Ірына Цімафееўна (нар. у 1938 г.) скончыла Менскую кансерваторыю (цяпер — Беларуская Акадэмія музыкі) і больш за 40 гадоў працавала выкладчыкам па класу «фартэпіяна» ў дзіцячай музычнай школе № 4 г. Менска.

Даніла Канстанцінавіч упершыню пазнаёміўся з маімі маці, братам і сястрой, калі пасля першамайскай дэманстрацыі 1960 года падвёз нас на Маскоўскія (цяпер — Усходнія) могілкі на магілу майго бацькі, а пасля запрасіў мяне дахаты. На яго палове дома нікога не было, акрамя хатняй гаспадыні Шуры, якая зрабіла нам смачны пачастунак. На другі дзень Даніла Канстанцінавіч вазіў мяне па святочным горадзе, потым спыніўся каля ювелірнай крамы, якая была ў доме насупраць помніка Леніну каля Дома ўрада. У тыя гады плошча Незалежнасці была забудавана. Зайшлі ў краму. Даніла Канстанцінавіч прапанаваў мне выбраць што-небудзь: маўляў, падарунак на памяць. Але я катэгарычна адмовілася. З крамы мы выйшлі кожны са сваімі пакупкамі: ён — з будзільнікам, а я — з рэпсавым чорным раменьчыкам для свайго гадзінніка. Развіталіся. Трэцяга мая ўжо быў працоўны дзень. Ні пра якія сустрэчы

ў бліжэйшы час мы не дамаўляліся. У гадзіну дня мая каляжанка паклікала мяне да тэлефона, са здзіўленнем на мяне паглядзела і сказала, што звоніць… ваш муж. Я таксама здзівілася, але зразумела, хто гэта. Даніла Канстанцінавіч паведаміў, што «яны мяне чакаюць у маім доме». Хто «яны», зразумець я не магла. Мая першая змена на працы скончылася, я паехала дахаты. Дома ўбачыла за нашым сталом ужо знаёмага мне Слесарэнку і яшчэ двух незнаёмых мужчын. І, канешне ж, былі Даніла Канстанцінавіч, мае маці, брат і сястра. На стале — бутэлька савецкага шампанскага і вялікая каробка цукерак. Мужчыны адразу мне прадставіліся. Гэта былі акадэмік Канстанцін Васілевіч Гораў і заслужаны работнік вышэйшай школы БССР Анатоль Іосіфавіч Лавыш. Яны былі як бы падтрымкай свайму сябру Данілу. У адзін голас казалі пра яго добрыя словы, ручаліся за яго і жадалі, каб ён быў нарэшце шчаслівы. Даніла Канстанцінавіч папрасіў маёй рукі. Але мой адказ быў такім: «Атрымаеце развод, тады пагляджу». Увесь гэты час мы былі з ім на «Вы». Але Даніла Канстанцінавіч не здаваўся і адразу звярнуўся да маіх родных з прапановай усё роўна зараз жа паехаць да яго і пазнаёміцца спачатку з сям’ёй яго роднага малодшага брата. Усе пагадзіліся. К.В. Гораў і А.А. Слесарэнка паехалі на машыне А.І. Лавыша, а мы на машыне Данілы Канстанцінавіча. Па прыездзе мяне адразу адвялі на тую палову дома, дзе жыў з сям’ёй брат. Пазнаёміліся, пагаварылі, і напрыканцы размовы жонка Міхаіла Канстанцінавіча сказала: «Хацелася б, каб нарэшце ў гэтым доме была цішыня». Прыйшоў Даніла Канстанцінавіч і ўсіх нас запрасіў да стала. Мы ўвайшлі ў вялікі пакой — сталовую, — і я ўбачыла шмат людзей, мне не знаёмых, акрамя Слесарэнкі. Усе ўжо былі на падпітку, чакалі нас. Даніла Канстанцінавіч прадставіў мяне, усадзіў,

і раптам усе хорам закрычалі «Горка!». У мяне ўсё ўнутры закіпела, захацелася падняцца і сысці. Мая маці заўважыла мой стан і ціха сказала: «Супакойся, лепш усміхайся, ужо позна». Праз пару дзён я спытала свайго новаспечанага мужа, чаму ён так зрабіў. Адказ быў кароткім: «Не хацеў цябе страціць, каханая», — і моцна пацалаваў. Дзейнічаў па прынцыпе: куй жалеза, пакуль гарачае. Дарэчы, калі Данілы Канстанцінавіча ўжо не стала, я разбірала яго паперы, чытала дзённікі, запісныя кніжкі і знайшла ад 3.V.1960 такі запіс: «Купіў шампанскае, цукеркі. Еду да мілай, дарагой, каханай Алачкі». Я ўсміхнулася, прыгадала і… заплакала.

Але ж гэта яшчэ не ўсё. Вяселле працягвалася, калі ў дзверы заглянула хатняя гаспадыня Шура і папрасіла гаспадара выйсці. Праз некаторы час Даніла вярнуўся, падышоў да мяне і сказаў, што прыйшла «яна», гэта значыць яго жонка Зарына. Мы выйшлі з Данілам і маёй маці ў другі пакой. Адчуваліся хваляванне і трывога на «яе» твары. Спачатку павіншавала нас, пажадала шчаслівага доўгага жыцця, а потым запытала, дзе цяпер будзе жыць і як быць з дзецьмі, таму што адна іх не выгадуе. Мы яе супакоілі, і яна паехала да сваёй маці, дзе ў той час знаходзіліся дзеці. Афіцыйна развод быў аформлены ў кастрычніку 1960 года.

Сямнаццаць першых гадоў Зарына Уладзіміраўна Міцкевіч з дзецьмі пражыла ў адным з намі доме, на розных паверхах і з асобнымі ўваходамі. Дзяцей было двое: сын Андрэй (нар. у 1952 г.) і дачка Алена (нар. у 1958 г.). Жылі мы дастаткова мірна, мелі зносіны, асобныя пытанні, што датычылі дзяцей, вырашалі разам. Здараліся выпадкі, калі я дапамагала ёй у цяжкіх і незвычайных сітуацыях. Працавала Зарына Уладзіміраўна ў інстытуце замежных моў. Пражыўшы шмат гадоў побач, магу сказаць, што яна была таварыскай, эмацыянальнай, узрыўной, любіла бываць у

кампаніі мужчын, заўсёды смаліла цыгарэты. Гаспадаркай займацца не любіла. Яе мацярынскія адносіны да сваіх дзяцей мне былі ў большасці незразумелыя. У 1978 годзе Зарына Уладзіміраўна атрымала трохпакаёвую кватэру і пераехала туды з дарослымі дзецьмі.

У 1961 годзе ў нас з Данілам нарадзілася дачка Вера. Мы былі шчаслівыя. Назвалі яе ў гонар сваіх маскоўскіх родных — стрыечнай сястры Данілы і маёй цёткі.

Даніла Канстанцінавіч і я любілі ўсіх дзяцей. Перажывалі, калі яны хварэлі, рабілі ім падарункі, ладзілі навагоднія ёлкі, дні нараджэння, бралі ў паездкі і г. д.

У першыя гады нашага сумеснага жыцця я з задавальненнем прачытала многія празаічныя і паэтычныя творы, лісты і дзённікі Якуба Коласа.

У 1960-я гады Даніла Канстанцінавіч шмат увагі надаваў будаўніцтву філіяла музея на Стаўбцоўшчыне. Бясконца нешта з некім узгадняў. Калі Міністэрства культуры выдаткоўвала грошы, то не маглі знайсці падрадчыкаў, ці адбывалася наадварот. Філіял быў адкрыты 8 чэрвеня 1967 года.

На ўсе мерапрыемствы, звязаныя з юбілеямі Якуба Коласа, літаратурнымі дэкадамі, канферэнцыямі, у Беларусь прыязджалі вядомыя пісьменнікі, дзеячы навукі і мастацтва з Расіі, Украіны, Малдавіі, іншых саюзных рэспублік. Часта ў паездках іх суправаджаў Даніла Канстанцінавіч. Заўсёды для гасцей экскурсіі па музеі праводзіў сам. Многіх мы прымалі ў нашым доме і ў Мікалаеўшчыне: Аляксандра Пракоф’ева, Мікалая Браўна, Марыю Камісараву, Паўла Кабзарэўскага, Яўгена Яўтушэнку і іншых.

Коласаўскія мерапрыемствы праходзілі і ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве. Даніла Канстанцінавіч выступаў на заводах, у бібліятэках, у Палацах культуры перад шматлікай аўдыторыяй. Мне даводзілася яго суправаджаць: сачыла за

яго знешнім выглядам, харчаваннем, рабіла для яго неабходныя запісы, ахоўвала ад аматараў выпіць і нахабнікаў. Іх было няшмат, але траплялія. Аднойчы мне супрацоўнікі музея расказалі, што Даніла Канстанцінавіч, ідучы з музея дахаты на абед, часта гаварыў: «Іду да сваёй берагіні» ці «Мяне чакае берагіня». Мне было прыемна гэта пачуць.

У розных паездках Даніла Канстанцінавіч яшчэ знаходзіў і наведваў людзей, якія ведалі Якуба Коласа, перапісваліся з ім. Некаторые перадавалі лісты паэта і фотаздымкі ў музей на пастаяннае захоўванне, хтосьці прасіў зрабіць копіі. Так папаўняліся музейныя фонды. Аднак былі такія пісьменнікі, як, напрыклад, Сяргей Гарадзецкі, які паабяцаў, што прывязе лісты Коласа ў музей сам, а потым прадаў іх у архіў.

У адносінах і размовах з людзьмі Даніла Канстанцінавіч быў вытрыманым, тактоўным, негатыўнае стараўся не заўважаць, ніколі ніякіх брыдкіх слоў з яго вуснаў я не чула. Вельмі добразычліва адносіўся да маіх родных. Любіў хадзіць да іх, заўсёды быў рады іх прысутнасці ў нас. Неаднаразова дапамагаў і выратоўваў у цяжкія хвіліны. Яны яго любілі і часта ўспамінаюць. Прыгадваю, як на адпачынку ў Мікалаеўшчыне маленькая дачка маёй сястры захварэла. Тэмпература пад 40˚. Даніла Канстанцінавіч ноччу сеў у машыну і паехаў у вёску, каб адвезці пляменніцу ў бальніцу. Так ён адносіўся не толькі да родных. Неяк, прыехаўшы ў Мікалаеўшчыну, ён выратаваў 3–4-гадовае дзіця. Малы набраў у рот марганцоўкі. Даніла Канстанцінавіч не разгубіўся, схапіў дзіця і разам з яго бабуляй адвёз у Стаўбцоўскую бальніцу. Хлопчыка выратавалі. І гэта быў не адзіны падобны выпадак.

Любіў Даніла Канстанцінавіч і пакпіць са сваіх блізкіх сяброў. Так было аднойчы ў Ленінградзе ў гасцях у яго

таварыша з юнацкіх гадоў Уладзіміра Петухоўскага, які жыў на ўскрайку горада і меў невялікі гародчык і клумбы, дзе раслі нарцысы. Як сёння кажуць, гэта было «хобі». Гаспадар любіў пахваліцца. І пакуль ён быў на працы, Даніла ўзяў у яго бутэлечку з чарніламі, пераліў іх у слоік, потым асцярожна згінаў кожную кветку і абмачваў у чарніла. Нарцысы сталі незвычайнымі, усе ў крапінках. Прыйшоў дахаты Петухоўскі і запрасіў Данілу і мяне ў гарод, спадзеючыся ўразіць нас сваімі кветкамі. Але быў уражаны сам. Бегаў вакол клумбы, ахаў, прыгаворваючы: «Што ж такое? Я так за імі даглядаў!» Даніла запытаў пра ўгнаенні. Адказ быў станоўчы. «Відаць, насыпаў шмат, дзе былі мікраэлементы, вось яны і выйшлі», — сказаў Даніла. Кветкавод пагадзіўся. Вечарам пайшоў моцны дождж, і «мікраэлементы» зніклі. Петухоўскі ўсё зразумеў, мацюкнуўся. Усе доўга смяяліся. Вось такія жарты ўчыняў Даніла сваім сябрам, таварышам і родным.

Мне хацелася б расказаць аб адной вельмі цікавай сустрэчы ў Маскве з міністрам знешняга гандлю СССР Мікалаем Сямёнавічам Патолічавым. У 1950-я гады ён быў першым сакратаром ЦК КПБ. У Маскву Даніла Канстанцінавіч і я прыехалі 4 студзеня 1969 года. Спыніліся ў даўніх сяброў Якуба Коласа — Валянціны Васілеўны і Марка Аляксеевіча Процькаў. Аб нашым прыездзе ведаў памочнік М.С. Патолічава — Андрэй Васілевіч Смалякоў. 7 студзеня ён патэлефанаваў мужу і паведаміў, што нас а пятай гадзіне вечара ў міністэрстве чакае М.С. Патолічаў. Вечарам у міністэрстве нас сустрэў А.В. Смалякоў і адразу ж правёў у кабінет міністра. М.С. Патолічаў ужо ішоў нам насустрач. Твар яго свяціўся добрай і простай усмешкай. Моцна пацiснуў нашы рукі, паказаў на крэслы, а сам сеў за стол. Размова доўжылася каля гадзіны. З вялікай цікавасцю

распытваў Данілу Канстанцінавіча пра Беларусь, работу музея, даваў слушныя парады. Мы вельмі хваляваліся, што затрымліваем яго, у прыёмнай было яшчэ некалькі чалавек. Намагаліся ўстаць, але ён узмахам рукі нас стрымліваў і працягваў размову. Напрыканцы сустрэчы М.С. Патолічаў упершыню расказаў, як Якуб Колас яго ўратаваў на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПБ 1953 года, калі Л.П. Берыя зрабіў спробу зняць М.С. Патолічава з пасады першага сакратара ЦК Беларусі. Пазней пра гэта было падрабязна напісана М.С. Патолічавым у кнізе «Сумленнем сваім не адступіся». А на развітанне з намі Мікалай Сямёнавіч сказаў: «Такое ніколі не забываецца».

На працягу нашага сумеснага жыцця мы мелі зносіны, сябравалі з цікавымі людзьмі, сямейнымі парамі. Гэта — Валянціна і Уладзімір Караткевічы, Яніна і Генадзь Кісялёвы, Марыя і Адам Мальдзісы, Леаніла і Алег Мацапуры, Ірына і Яўген Парватавы, Анатоль Багатыроў. Часта адзначалі разам святы, юбілеі, дні нараджэння, выязджалі за горад. Нашымі гасцямі ў розныя гады былі амаль усе тагачасныя беларускія пісьменнікі.

Самымі вернымі і адданымі сябрамі з вялікім стажам у Данілы Канстанцінавіча былі ўжо згаданыя мною Канстанцін Васілевіч Гораў (акадэмік, віцэ-прэзідэнт АН БССР), Анатоль Іосіфавіч Лавыш (прарэктар па вячэрняму і завочнаму навучанню Беларускага політэхнічнага інстытута), а таксама Віталь Усцінавіч Філіповіч (ваенны інжынер, майстар на ўсе рукі, жыў у Маскве). Яны ж былі і маімі абаронцамі. Калі ўжо не стала Данілы Канстанцінавіча, да нас заходзіў Анатоль Іосіфавіч, адразу ж садзіўся ў крэсла за пісьмовым сталом мужа і моўчкі сядзеў 10–15 хвілін. Потым падымаўся і вымаўляў такую фразу: «Вось і пагаварыў з ім». Так было ў кожны яго прыход.

За восем месяцаў да смерці Даніла Канстанцінавіч надпісаў мне першы том Збора твораў Якуба Коласа (на расейскай мове, маскоўскае чатырохтомнае выданне 1982–1983 гг.). Гэтым найдаражэйшым для мяне надпісам я завяршаю свае ўспаміны: «*Маёй мілай, дарагой, горача любімай Алачцы, вернай жонцы, сапраўднаму сябру, самаадданаму другу і таварышу з сардэчнай удзячнасцю за ўсё тое, што яна зрабіла для мяне, для маіх дзяцей і ўнукаў. З самымі найлепшымі пажаданнямі — многіх гадоў добрага здароўя, шчасця, радасці, бадзёрасці табе, родная! 3/XI 1995 г. Ад мужа Данілы*».

*Пераклала з расейскай мовы Вера Міцкевіч*

*Замест пасляслоўя*

# *Пра апошнюю волю Міцкевіча Д.К.*

7 ліпеня 1996 года ў 6 гадзін 30 хвілін Купальскай раніцы пасля цяжкай анкалагічнай хваробы памёр Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч.

Яшчэ пры жыцці бацька казаў, што хоча памерці ў свята, каб людзі весяліліся, і што не трэба сумаваць і плакаць, бо чалавек, паміраючы фізічна, пераходзіць у іншую існасць і застаецца ў памяці і душах жывых. Непазбежнае дзеянне. Так і адбылося. Памёр у свята і ў дзень нараджэння Янкі Купалы, дзядзькі Янкі, якога з дзяцінства паважаў і любіў. Так калісьці напрарочыў сабе пецярбургскі паэт Вячаслаў Кузняцоў: «Я умру в последний день лета…».

Развіталіся з Данілам Канстанцінавічам 10 ліпеня ў будынку Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, доме, дзе ён пражыў пасляваенныя гады, музеі, які быў яго любімым тварэннем. Хаўтуры па просьбе бацькі былі не ў кавярні, а ў нашым доме, у тры заходы прыблізна па сорак чалавек.

Згодна з яго апошняй воляй адбылася крэмацыя. Прах быў падзелены спачатку на дзве часткі. Урна з паловай праху 3 жніўня 1996 года была падзахавана на Вайсковых могілках у Менску, паміж бацькам Якубам Коласам і маці Марыяй Дзмітрыеўнай Міцкевіч. Восенню 1998 года быў установлены сціплы помнік — гранітны камень з Лагойшчыны. Фундатарскую дапамогу аказалі спадарства Надзея і Янка Запруднікі і Леаніла і Алег Мацапуры.

Другая палова праху было змешана з жоўтым пяском з Высокага Берага, што на Стаўбцоўшчыне (на тым месцы калісьці стаяў дачны дом, які будаваў у 1960-х гадах Даніла Канстанцінавіч; цяпер там знаходзіцца турбаза «Высокі Бераг»), падзелена і развеяна ў розных куточках:

— у Пінску 31 жніўня 1996 года каля дома па вуліцы Чуклая (былая вуліца Вадаправодная), дзе нарадзіўся Даніла Канстанцінавіч;

— у Менску 3 верасня 1996 года каля мемарыяльнага дуба «Даніла» на музейнай сядзібе;

— у Менску 5 верасня 1996 года ў парку імя М. Горкага, прыблізна на тым месцы, дзе ў 1927–1941 гадах стаяў даваенны дом Якуба Коласа;

— у Ташкенце ў верасні 1996 года;

— у Клязьме (Падмаскоўе) 17 верасня 1996 года каля дома (веснічкі і кветнік) Каменскіх, дзе жыла сям'я Якуба Коласа ў ліпені–жніўні 1941-га і ў 1943–1944 гадах;

— у Маскве 17 верасня 1996 года ў скверы па вуліцы Чаянава;

— у Маскве 18 верасня 1996 года на газоне каля гатэля «Якар»;

— у Санкт-Пецярбурзе 24 верасня 1996 года ў скверы політэхнічнага інстытута;

— у вёсцы Мікалаеўшчына 10 снежня 1996 года на могілках Церабяжы;

— у Абаяні Курскай вобласці ў траўні 1997 года;

— у Пярмі 27 траўня 2009 года па вуліцы Арджанікідзэ, каля дома № 82, дзе прыблізна стаяў дом, у якім жыла сям'я Якуба Коласа ў 1916–1917 гадах.

Друкаваным помнікам Данілу Канстанцінавічу стала яго адзіная кніга «Любіць і помніць…», пра якую згадвалася ў гэтым выданні не адзін раз.

Спадзяюся, што і гэта выданне, падрыхтаванае да 100-гадовага юбілея Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча, будзе своеасаблівым дапаўненнем да раскрыцця яго неардынарнай постаці, да захавання памяці пра яго — чалавека шчырага добрага сэрца і слаўнай душы.

*Вера Міцкевіч.*

# Змест

I-11 **«І бачу пройдзеныя далі...»** : матэрыялы да 100-годдзя Д.К. Міцкевіча / укл. В. Міцкевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 196 с.

ISBN 978-985-7089-41-3.

У кнізе, прысвечанай 100-годдзю Д.К. Міцкевіча (1914–1996), старэйшага сына Якуба Коласа, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, арганізатара і першага дырэктара Літаратурнага музея песняра, прадстаўлены рукапісы, дакументы, дарчыя надпісы, бібліяграфія. Многія матэрыялы друкуюцца ўпершыню.

Адрасанава навукоўцам, выкладчыкам, шырокай чытацкай аўдыторыі.

**УДК 821.161.3.09(092)+929 Міцкевіч**
**ББК 83.3(4Беи)**

*Навукова-папулярнае выданне*

«І БАЧУ ПРОЙДЗЕНЫЯ ДАЛІ…»
*Матэрыялы да 100-годдзя Д.К. Міцкевіча*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Сяргей Галоўка*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 6.03.2014. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 10,29. Ул.-выд. арк. 6,21.
Наклад 400 ас. Зак. 114.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.